


ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»
HTTP://MEMBERS.XOOM.COM/NASA_NIVA

# БЕЛАРУСКІЯ ФІЛІІ І ФОБІІ

*Тэма нумару*

**У апошнія гады ў нас сталі перадрукоўваць артыкулы пра нацыянальныя любові і нелюбові. Перадрукоўваюць, як правіла, з польскіх інфармацыйных крыніцаў. Гутарка йдзе пра вынікі ўнутрыпольскіх апытаньняў насельніцтва пра тое, каго паспалітыя палякі хацелі б мець за суседзяў, а каго не. Дынаміка зьменаў у сымпатыях якраз адлюстроўвае распад агульнага лягеру сацыялістычных нацыяў. Скажам, наш, беларускі рэйтынг у гэтых апытаньнях за некалькі гадоў споўз кудысьці ў самы ніз, да румынскіх цыганаў, якія жабруюць на вуліцах польскіх гарадоў. Беларусаў, якіх, паводле пашыранага ў нас уяўленьня, любілі ўсе, заўсёды й паўсюль, сёньня ня любяць. Ці, прынамсі, любяць менш. Нават у Літве. Нават у Расеі. Нават ва Ўкраіне. На тое ёсьць свае прычыны. Імідж краіны сварaецца сёньня найперш яе кіраўніцтвам і адпаведнай палітыкай, а таксама паспалітымі візыцёрамі, абсалютная большасьць зь якіх едзе зь Беларусі на суседзкія рэчавыя рынкі, каб чаго-небудзь прадаць.**

**Ёсьць тут і яшчэ адзін падтэкст. Польскія апытаньні падкрэсьлена сьведчаць пра суб'ектнасьць польскае нацыі. Палякі, звычайныя людзі з вуліцы, разважаюць і выбіраюць, хто ім больш даспадобы, а хто менш, дэманструючы тым самым элементы дзяржаўнага мысьленьня. Мы таксама можам заявіць, да прыкладу: «ня любім палякаў». Але гэта будзе не статыстычнае меркаваньне. Таму мы ў гэтай сытуацыі выступаем у якасьці аб'екту чыесьці любові ці нелюбові, і ня больш за тое. Бо нават уявіць сабе падобнае апытаньне ў Беларусі складана. Зрэшты, нішто не замінае нам выйсьці на менскую вуліцу і паспрабаваць...**

**Дык вось жа справа тут ня толькі ў нашым жаданьні і арганізацыйных захадах. Справа менавіта ў страчанай або паслабленай суб'ектнасьці нашае нацыі, індыкатарам чаго й стала абмеркаваньне тэмы беларускіх філіяў і фобіяў у гэтым нумары «НН».**

**Пачнем з гісторыі. Існуюць летапісныя сьведчаньні пра адносіны старажытных беларусаў да палякаў, немцаў, маскавітаў, жмудзінаў ды іншых. Напачатку нашага стагодзьдзя гэтая тэма ня раз падымалася на старонках «Нашае Нівы». Калі хочаце, гэта было сапраўднае сьведчаньне нацыянальнага адраджэньня. Нацыя заявіла пра свае тыповыя сымпатыі й антыпатыі, інакш кажучы — пра самую сябе, пра тое, што яна ёсьць. У 1919 годзе зьявілася нават апавяданьне на**

*Працяг на старонцы 8*

## Сямён Шарэцкі:

# «Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, КАБ ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ»


Фота IREX/ProMedia

**Калі прэзыдэнцкія выбары, прызначаныя на 16 траўня, не адбудуцца, законным кіраўніком дзяржавы стане старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі. Верагодна, што ў такім выпадку ў краіне ўсталюецца жорсткае супрацьстаяньне: законны, але бяззбройны Шарэцкі і ўзброены да зубоў, але нелегітымны Лукашэнка. Тады шмат, калі ня ўсё, будзе залежаць ад стойкасьці старшыні Вярхоўнага Савету. Сёньня ён пагадзіўся адказаць на пытаньні карэспандэнта «НН».**

**«НН»: Ці Вашыя маці й жонка не баяцца за Вас?**

С.Ш.: Маці ўжо старэнькая, а жонка ва ўсім цалкам мяне падтрымлівае: адступаць нельга. Яна ведае, што я іншым быць не магу. І сыны мае, і ўся сям'я, і ўсе сябры...

**«НН»: Вы былі таленавітым гаспадаром прадпрыемства, дарадцам прэм'ера, кіраўніком парляманту. Чаму Вы не пераехалі працаваць у Маскву, як вялікая частка нашай эліты?**

С.Ш.: У мяне такога жаданьня ніколі не ўзьнікала. Ніколі. Мяне ўпершыню яшчэ Старадубцаў запрашаў у свой час у Савет калгасаў... Я — беларус, і гэтым усё сказана.

**«НН»: Дарэчы, Старадубцаў, іншыя расейскія аграрыі добра ведаюць Вас, Старавойтава, Лявонава. Чаму яны маўчаць?**

С.Ш.: На жаль, большасьць расейскіх палітыкаў — імпэрыялісты. Шавінізм засьціць ім вочы.

*Працяг на старонцы 4*






## Карлас Шэрман:

# У ЯКУЮ КРАІНУ ВЕРНЕЦЦА БЫКАЎ?

Карлас Шэрман — віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру, і мы прасілі сустрэчы зь ім перадусім дзеля таго, каб задаць пытаньне, зь якім зьвярталіся ў рэдакцыю чытачы: ці вернецца Васіль Быкаў у Беларусь? Гутарка, аднак, пайшла спачатку іншай дарогай.

**«НН»: Спадар Карлас, аднойчы Вы сказалі, што пачуваецеся эмігрантам ва ўласнай краіне. Ці застаецца ў Вас гэтае адчуваньне й цяпер?**

К.Ш.: У таталітарным грамадзтве, калі пісьменьнік становіцца непатрэбны грамадзтву, выдавецтвы кіруюцца пэўнымі ідэалягічнымі арыентыроўкамі, якія выключаюць плюралізм, і пісьменьнік застаецца на самоце. Ён адчувае сябе ў андэграўндзе, па-за грамадзтвам, пад грамадзтвам. Гэта й ёсьць, у пэўным сэнсе, духоўная эміграцыя: калі пісьменьнік піша ў шуфляду, калі ён адлучаны ад чытача. Калі нават сустрэча з чытачом патрабуе дазволу.

Яскравы прыклад — сытуацыя вакол Васіля Быкава. Магутны талент застаўся ў Беларусі фактычна ізаляваны, нават бяз сродкаў для існаваньня. Кнігі ягоныя выкінулі з пляну. І толькі дзякуючы «Нашай Ніве» «Сьцяна» на народныя грошы змагла дайсьці да чытача. Цкаваньне Быкава, зьнявагі, неразуменьне вымеру гэтага чалавека прывялі да таго, што Быкаў апынуўся за межамі Беларусі. Дзякаваць Богу, часовая эміграцыя не настолькі роспачная, як адчуваньне адрыву назаўжды. Але ўсё ж ён адарваны ад Бацькаўшчыны...

**«НН»: Напэўна, пісьменьнік перажывае эміграцыю нашмат цяжэй, чым любы іншы чалавек...**

К.Ш.: Галоўная цяжкасьць палягае ў ізаляванасьці чалавека, у абмежаванасьці кола суразмоўцаў, слухачоў. Дадайце сюды пэўныя цяжкасьці з замежнай мовай. І, вядома, адарванасьць ад сваёй глебы... Мы ганарымся тым, што нашыя калегі зь фінскага ПЭН-цэнтру запрасілі Быкава, прынялі яго як сьлед. Бо калі пісьменьнік едзе на эміграцыю, ня маючы ніякай канкрэтнай падтрымкі, дык яму ўдвая цяжэй. Бо тады пісьменьнік мусіць ісьці на нейкія выпадковыя работы, каб зарабляць.

**«НН»: А ці зьнікае самота творцы ад таго, што ён пераяжджае ў іншую краіну?**

К.Ш.: Пісьменьніцкая праца — гэта праца на самоце. Праца самаўдасканаленьня. Увогуле, каб вызначыцца, што такое пісьменьнік, трэба разабрацца ў прыродзе самоты. Адзінае выйсьце, выратаваньне ад самоты, вядомае чалавецтву — гэта творчасьць. Але ж самота зноўку і зноўку навальваецца на чалавека. Асабліва калі ён ставіць апошнюю кропку ў творы. Тады ён зноў адчувае пустэчу ў душы. Пачынаецца пошук выйсьця.

Лёс пісьменьніка — гэта й ёсьць самота. Усё, што побач, што навокал — неістотнае. Істотная сама творчасьць. Часта даводзіцца чуць ад вядомых пісьменьнікаў: «Калі прыходзіць другая карэктура твору, брыдка чытаць».

**«НН»: Што гэта значыць: немагчыма больш чытаць тое самае?**

К.Ш.: Не «чытаць тое самае» — проста чалавек ужо ў новых пошуках. Ён шукае нешта іншае, ён ужо іншым жыве. Ёсьць пісьменьнікі, якія ня могуць інтэрвію даваць па выхадзе кнігі. Бо гэта — пражытае, яно ўжо ня вернецца. Некаторыя пісьменьнікі ніколі не чытаюць крытыку на свае творы. На момант апублікаваньня гэтай крытыкі аўтар твору ўжо жыве ў зусім іншым сьвеце. У анатацыях вы знойдзеце толькі тое, што ён хацеў зрабіць. Але ж гэта ўсё й так напісана ў ягонай кнізе!

Пісьменьніцтва — гэта, бадай, самота ў разуменьні мудрых індзейцаў: як магчымасьць думаць, магчымасьць засяродзіцца. Як магчымасьць прадбачыць.

*Працяг на старонцы 16*

# САВАНЮК — ГЭТА МЫ

*Рэдакцыйны камэнтар*

Беларусам ёсьць у чым каяцца за другую сусьветную вайну. Удзел у вынішчэньні жыдоў або маўклівае назіраньне за гэтым, рэпрэсіі супраць палякаў у Генэральнай акрузе Беларусь, зьверствы савецкіх жаўнераў на нямецкіх землях у '44-'45 – пра ўсё гэта калі й гаворыцца, дык дзеля пошуку апраўданьняў, дзеля таго, каб падкрэсьліць, што ў Беларусі застаўся ў жывых больш працэнт жыдоў, чым у суседніх краінах, што нельга параўноўваць паленьне вёсак нямецкімі зондэркамандамі і згвалтаваньні прускіх жанчынаў, што калі ў Слоніме восеньню '42 году расстралялі 84 польскія інтэлігенты, у Лідзкай зоне, кантраляванай АК, загінула 1200 беларусаў і што ўвогуле ў нас загінуў кожны чацьверты. Так, але кім быў гэты чацьверты?

Замоўчваньне і самаўзьвелічэньне, міталягізацыя і мартыралягізацыя сваёй гісторы сьведчаць найперш пра тое, што Беларусь не прымірылася з сваім мінулым, саромеецца, баіцца яго. Прымірэньне і дараваньне цяжэй даюцца пераможцам, чым пераможаным. Але ж пераможцам яны патрэбныя ня менш.

Беларусам па-ранейшаму больш падабаецца прачытваць сваю сучасную гісторыю як раман.

*Працяг на старонцы 7*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## НЯ БУДЗЕ ЗЛЫМ НАШ ЛЁС

Піша вам жанчына, якая летась, дзесьці ў траўні, дасылала роспачны ліст — водгук на артыкул С.Адамовіча «Спарон». Мо' памятаеце, мне пагражала нараджэньне дзіцяці з разумовымі адхіленьнямі. Зараз майму Максіму пяты месяц, і гэта самае разумнае і прыгожае дзіця, якога б я магла сабе жадаць. Але й цяпер страшна ўспомніць тое існаваньне ў іншым вымярэньні, зь якога я ўсё-ткі неяк здолела выйсьці. Напісаць вам я зьбіралася даўно, яшчэ чытаючы ў раддоме кастрычніцкі нумар, прысьвечаны свабодзе (муж здагадаўся мне яго перадаць). Ён мне нават дапамог ачуняць пасьля апэрацыі, бо калі я ўявіла, як Зімоўскі вывозіць угнаеньні, забылася, што балюча сьмяяцца (артыкул там быў, як хто бульбу капае). Напісаць я даўно зьбіралася, але — процьма клопатаў. Аднак прачытаўшы прыпавесьць В.Быкава ў апошнім нумары, не ўтрывала, узялася за ліст. Чытаючы летась «Сьцяну», я думала, што нічога больш горкага і шчымлівага, чым апавяданьне «Музыка», стварыць немагчыма. Яно мне нават прысьнілася, і я прачнулася ад плачу, з залітым сьлязьмі тварам (падчас цяжарнасьці эмоцыі абвастраюцца). Але «Тры словы нямых» працінаюць навылёт. І не за мяккія знакі, хлопцы, спрабавалі газэту прыкрыць (мяркую, тыя спробы не апошнія). Баяцца, што вы ведаеце тыя словы, што забіваюць, і некалі зможаце іх выгукнуць. Быкаў адчувае, як вымываецца беларускасьць з жыцьця народу. Раней хоць на вёсцы нейкая апора была, зараз там амаль спрэс — руіны. Толькі вось жа якая справа: чытаць прыпавесьць горка, тужліва, але ня роспачна, не безнадзейна. Апошні сказ не забівае, не канстатуе сьмерць — ён выклікае пратэст, ён правакуе на доказ існаваньня несьмяротнай душы. Як у Стральцова: «Я сьніў, што сам я адляцеў — душа ўзяла і засталася». Гэтая душа зараз перацякла ў горад, знайшла свой асяродак і нават у віртуальную рэальнасьць прасачылася. Калі б мой сын нарадзіўся гадоў пятнаццаць таму, практычна немагчыма было б прышчапіць яму пачаткі беларускасьці ў горадзе. Зараз ён слухае на касэце Данчыка, на асобнай паліцы чакаюць кнігі пра Беларусь, ён слухае нашы калыханкі, якія мне наўрад ці прыйшло б у галаву сьпяваць на пачатку васьмідзесятых. Я пра тое, што магчымасьцяў нашмат болей, чымся калі. Таму я гляджу на сьвет не сказаць каб надта аптымістычна, але бяз роспачы, спакойна і ўпэўнена. Працяг ёсьць, ня трэба панурасьці, якая неяк была ўвайшла ў моду. Здаецца, зараз яна зьмяняецца на настрой тыпу: «А скульля вам!», што больш прадуктыўна. Але ткнуць носам, як робіць Быкаў, карысна, бо хто здольны адчуць сорам, той не безнадзейны. «Бог дасьць, ня будзе злым наш лёс...»

**Сьвятлана Пячкова (былая Верас), Бабруйск**

***

*Няшчасьці ніяк не мінаюць сям'ю Гелены Яголды, пра якую ўжо пісаў у «Нашай Ніве» Славамір Адамовіч: цяпер сын Віктар за спробу пераходу беларуска-літоўскай мяжы трапіў за краты. Затрымалі яго літоўскія памежнікі. Віктар Яголда ішоў у Літву, каб падзарабіць там і крыху дапамагчы маці й сястры, якая вучыцца ў Віцебску за швачку. Вось што напісала жанчына ў чарговым лісьце Славаміру:*

*У мяне вялікая бяда. Ужо цэлы месяц будзе 2 студзеня, як Віця мой сядзіць у турме. Пераходзіў мяжу і папаўся, плюс кантрабанда, бо нёс пару бутылек гарэлкі. Што я перажыла, вам і не расказаць. Адзін раз у Сьвянцяны перадала перадачу, і ўсё. Ён сядзіць дзесьці ў Вільні да суда. Зоська цяпер дома. Калі Віцю на многа засудзяць, то яна вернецца зусім. Нічым не магу дапамагчы свайму сыну. Там недзе сядзіць яшчэ хлопец зь Ярэва, сын нашага вэтэрынара. Але яго злавілі раней, чым Віцю, таму і суд будзе ўжо 2 лютага. А нашы будуць сядзець пад сьледзтвам ажно да сакавіка. Самае горшае, што Віця мой «аблучоны» ў гэтым праклятым войску. Гэты хлопец зь Ярэва мае ў Вільні сваякоў, яму хоць перадачу могуць перадаць. А я свайму сыночку не магу дапамагчы. Зося вярнулася з вучобы дамоў, бо я не магу ёй дапамагчы, не магу дзіця вывучыць. Атрымліваю два мільёны. Адзін аловак каштуе 12 тысяч, шклянка чаю ў вагоне – 15 тысяч. А калі Віця вернецца, яго трэба будзе лячыць. Аж рукі апускаюцца. Дзе тая праўда?*

**в. Мольдзевічы Пастаўскага раёну**

## СЦЫЕНТОЛЯГІ ЗАМАНЬВАЮЦЬ ДЫЯНЭТЫКАЙ

У менскім мэтро ў насьценгазэце «Тагакор» зьявіліся вялізныя яркія рэклямы кнігі Рона Габарда «Дыянэтыка». «Больше энергии. Больше жизни. Больше лет жизни», — абяцаюць тым, хто прачытае кнігу. Што за кнігу рэклямуюць з такім размахам і чаму яна прадаецца не ў кнігарнях, а трэба зьвяртацца на Грыбаедава, 1а?

Абвестка сьведчыць, што ў Беларусі працягвае разгортвацца сэкта сцыентолягаў. Рон Габард, былы пісьменьнік-фантаст, заснаваў першую царкву сцыентолягаў у 1954 годзе ў Вашынгтоне. На Эўропу дзейнасьць сэкты перайшла ў 1959 годзе. Цяпер у сьвеце ў сэкты некалькі мільёнаў прыхільнікаў, сярод якіх шмат вядомых і ўплывовых асобаў. Так, некалькі гадоў таму ў прыналежнасьці да яе прызнаваліся зоркі Галівуду Ніколь Кідман і Том Круз, праўда, пасьля яны сталі гэта адмаўляць. Рон Габард памёр у 1986 годзе. У Лёс-Анджэлесе, цэнтры гэтай сэкты, ягоным імем названая вуліца.

У шматлікіх краінах сьвету, у тым ліку ў Францыі, дзейнасьць гэтай сэкты забароненая. Рэч у тым, што сэкта мае амаль таталітарны характар. Культ грунтуецца на моцным узьдзеяньні на псыхіку, навянаверненых мусяць праходзіць «ачышчальнае лячэньне» інтэнсіўнымі сэансамі саўны, а курс сцыенталягічнай падрыхтоўкі звычайна прыводзіць да таго, што «прасьветленыя» перадаюць сэкце частку сваёй уласнасьці. Уласна, сэкту ў Эўропе забараняюць пасьля зыскаў ацьвеэразелых адэптаў або пасьля высьвятленьня, што тая спрабуе інфільтравацца ў дзяржаўныя структуры. Цікава, ці на такой сама аснове дзейнічаюць нашы цэнтры «Дыянэтыка»?

У вёсках іншы раз хітрыя беларусы йдуць у пратэстанты, таму што там ёсьць фінансавая дапамога заможных аднаверцаў з Захаду. У гарадах жа, мабыць, наадварот знаходзяцца такія, што гатовыя сваё аддаць дзеля ачышчэньня аўры, кармы, біяэнэргетыкі і дыянэтыкі.

**Андрэй Верабей, Менск**

***

Хачу падзякавацца некаторымі меркаваньнямі наконт указу ППРБ пра перарэгістрацыю партыяў.

А ці патрэбна ўвогуле перарэгістрацыя сапраўднай дзеяздольнай партыі? Калі група людзей, аб'яднаная ідэяй, адчувае сваю сапраўдную моц, мае фінансавую і маральную падтрымку насельніцтва, якая к чорту рэгістрацыя ў акупацыйнага рэжыму ёй трэба? Спачатку працэдуры рэгістрацыі, пасьля зьняважлівыя просьбы дазволіць мітынг на ўскрайку гораду, шэсьце ў ачапленьні міліцыі, і ня болей за пяць чалавек у шэраг і г.д. Столькі кніг напісана пра стварэньне дзеяздольнай партыі і прыход яе да ўлады, а беларусы ўсё нешта выдумляюць. Ня хочацца думаць, што на тое яны і беларусы.

Шаноўныя нацыяналісты, не рабіце памылку зь першага кроку: ня можна зьбіраць людзей каля помніка ў парку ці на ганку нейкага будынку па аб'яве ў газэце. Арганізацыю трэба распачынаць **толькі** з кола знаёмых ці па прадстаўленьні добра знаёмых вам людзей.

**Van Dzik Matusievič**

***

Pa-pieršaje, nam usim treba zrazumieć niekalki pryncypovych rečaŭ. My žyli j žyviem pry feadalizmie. I tamu pavinny prajšci hetki ža šlach, jaki prajšli ŭsie bolš raźvityja krainy biez vyklučeńnia.

Pa-druhoje, sacyjalizm — heta utopija. Jaho nia moža być tamu, što nia moža być nikoli: ludzi nia roŭnyja ad pryrody. I tamu ni pra jakuju roŭnaść nia moža być i havorki: jana supiarečyć pryrodzie čałavieka.

Pa-treciaje, biez unutranych investycyjaŭ raźvićcio niemahčymaje. I dla taho, kab nasielnictva ŭkładvała svaje źbierażeńni nie ŭ zamiežnuju valutu, a ŭ ajčynnuju ekanomiku, nieabchodna rezkaje źnižeńnie padatkovaha presu. Pry hetym padatki pavinny pazielanieć: treba adbkłaści padatkami nia stolki dobraje (pracu, investycyi), kolki drennaje (harełku, cyharety). Padatkovyja ž ilhoty pavinny być tolki dla tych, chto investuje svaje srodki (miž tym, u nas padatkovyja ilhoty prezentujuć ubohim).

Uradu ž treba ŭrezać svaje vydatki. Nam nia treba hetkaja armija, milicyja, sielskaja haspadarka, pramysłovaść.

Pry hetym nieabchodnaja palityka manetarnaj ekspansii pry dadatnaj realnaj staŭcy pracentu (zaraz ža hetaja staŭka admoŭnaja). I tolki hetkaje spałučeńnie žorstkaj fiskalnaj palityki z palitykaj manetarnaj ekspansii zdolnaja zabiaśpiečyć ekanamičny rost.

Adnak, užyvajučy ryčahi fiskalna-manetarnaha mechanizmu, treba być upeŭnienym, što hetki mechanizm isnuje. I navat kali zychodzić z hipotezy, što ŭ nas hetki mechanizm isnuje, treba ŭmieć im karystacca. Miž tym, navat na Zachadzie hetym mechanizmam karystajucca niaŭmieła.

Pa-čaćviertaje, Biełaruś — heta niedaraźvitaja dziaržava. Tak, Belhija ci Čechija pa kolkaści nasielnictva prykładna roŭnyja Biełarusi, ekspartujuć na paradak bolš (ichny ekspart pieravyšaje rasiejski). Pry hetym treba ŭličvać, što kali hetyja krainy ekspartujuć u asnoŭnym vysokatechnalahičnyja pradukcyi, to asnoŭnymi ekspartnymi artykułami Biełarusi źjaŭlajucca ŭhnajeńni j daŭhavyja abaviazacielstvy.

Pa-piataje, biznes — heta nie spekulacyja, a dabrota dla ŭsich. Spekulacyja — heta naahuł absurdnaja katehoryja.

Pa-šostaje, treba zrazumieć, što ekanamičnaje praćvitańnie moža hruntavacca tolki na pryvatnaj majomaści. «Hramadzkaja» ž majomaść — heta supiarečnaść u aznačeńni: heta nie «hramadzkaja», a pryvatnaja ŭłasnaść čynoŭnikaŭ. Adradzić instytut pryvatnaj majomaści niaprosta. Ułada zastałasia ŭ rukach čyrvonych feadałaŭ.

Biełarusam treba adčuć siabie nacyjaj. I padobny cud mahčymy: jon užo ździejśniŭsia ŭ Izraili. Hetaj dziaržavy nie było 2000 hadoŭ, i 2000 hadoŭ na iŭrycie nichto nie havaryŭ. Inšaha šlachu niama.

**Uladzimier Mazur, Miensk**

## НЕ СПАЛЬШЧАЙМА МОВЫ

Шмат польскіх словаў заўважаю я апошнім часам у беларускіх выданьнях, у тым ліку і ў вашай газэце. Напрыклад, «запальнічка», «тэлевізія», «пастарунак», «рэстарацыя», «плыта»... Няўжо абавязкова казаць на польскі манер? Ёсьць добрыя аналягі, нічым ня горшыя, напрыклад, «запальніца», «тэлебачаньне», «рэстаран», якія маюць сваю традыцыю ўжываньня. Трэба шукаць беларускія аналягі і да іншых словаў. Гэткім тэмпам мове нацыянальнай інтэлігенцыі пагражае ператварэньне ў польска-беларускую трасянку — ня «ўмовы», а «варункі», не «адносіны», а «стасункі». А некаторыя ўжо з польскім вымаўленьнем пішуць: «мейсца», «сьвянціць», «хвіля». Канешне, запазычваньні ўзбагачаюць мову, але ж нельга забывацца і на старыя словы, нельга заўсёды казаць толькі «прыкра», а ня «крыўдна», толькі «выкшталцоны», а не «адукаваны». А адзін разумнік напісаў: «самаход»! Лепей бы ўжо «самавоз» прыдумаў. Пільнуйце свайго, выразайце чужое!

**Валеры Строкач, Берасьце**

***

*Маё прывітаньне, шаноўнай рэдакцыі!*

*Здавалася, ня меў анiякай прычыны заказіцца старажытнай беларускай хваробай мэлянхоліяй. Але ж заказіўся. Ці з ласкі нечых чарнакніжных чараў-суропкаў, ці дзеля собскай псыхалягічнай неасьцярожнасьці. Адолела гадзюка. Вужы ў каронах і бязь іх даўна пахаваліся ў норах, а гэтая набрыдзь спавіла зьнячэўку мяне і сцісне, і душыць, турбуе душу а шлунке...*

*Спавіты мэлянхоліяй, соўгаюся па калідорах «з шэрагу выдатных» школы. Ад-бы-ва-ю прак-ты-ку. Я ды пяць маіх спакурсьніц. Цікавым абаротам я для іх староста.*

*Раздражняе амаль вылучная немень ў школе беларушчыны. Дзеці беларускую мову не ра-*



*Рон Габард, пісьменьнік-фантаст, заснавальнік сцыенталёгіі*

*зумеюць. Зрэшты, і па-расейску з многімі не пагаворыш талкова. Усьцешыла адылі рэпліка аднаго старшаклясьніка: «Нужно же когда-нибудь выучить свой родной язык». Мелася на ўвеце белмова. Хочацца спадзявацца ў шчырасьці выказанага.*

*Увогуле сам кшталт практыкі ня раз граў на нэрвах. Пэрманэнтнае ж адчуваньне ўзалежненасьці ад «кіраўніцтва» падбівае ці ня кожную праяву экзыстэнцыйнай насалоды ад працы. Мусовасьць напісаньня бязглуздых тэкстаў выклікае шкадобу да нявіннай паперы. Шквальна цягне ва ўнівэрсытэт, дзе засталося навучацца гісторыі менш за год. На паперу падаюць халодныя вершы.*

*Мэлянхолія чакае на Дзень Мовы.*

**Сяргей Балахонаў, Гомель**




# ДЗЕНЬ МОВЫ

Вось, як я пражыў другі дзень месяцу — Дзень без чужога слова.

На гэты дзень у мяне прыпаў рамонт халадзільніка. Доўгі час я зьбіраўся паклікаць майстра, ды ўсё неяк не выпадала. А тут якраз на 2 лютага вырашылі яго выклікаць. Загадзя я патэлефанаваў па газэтнай аб'яве і дамовіўся пра тэрмін і кошт працы. Размова ішла па-расейску, бо падумалася, што мяне могуць не зразумець. Я мяркую, майстар быў моцна зьдзіўлены, калі пачуў раніцай у слухаўцы адказ па-беларуску. Спачатку яму падалося, што памыліўся нумарам. Але калі я патлумачыў сэнс Дня без чужога слова, ён усё зразумеў і прыстасаваўся. Магчыма, слова «прыстасаваўся» гучыць абразьліва ў дачыненьні да мовы, але што зробіш, калі гэткая рэчаіснасьць. А можа, ня трэба было тлумачыць, можа, і бяз гэтага ён павінен быў зразумець, як сябе паводзіць?!.

Калі хлопец прыехаў рабіць справу, мы ўвесь час карысталіся выключна нашай мовай. Я падзякаваў майстру. Яму спадабалася гэтая ініцыятыва, але пакуль ён мае пэўныя цяжкасьці, бо словы ня льюцца, а трэба выцягваць зь нейкага цёмнага занядбанага сховішча. (Мне таксама даволі цяжка.)

Прыйшоўшы на працу, я спрабаваў годна скончыць цудоўна пачаты дзень. Але, як казалі пры камуністах, замацаваць дасягненьні цалкам ня здолеў. Людзі на працы заклапочаныя, у галовах у іх нейкая блытаніна. Тым ня менш, ніхто зь іх не паставіўся да моўнай акцыі варожа. Некаторыя слухалі ўважліва, іншыя безь цікавасьці, яшчэ хто адпускаў жарты (таксама на беларускай мове). А потым працоўная хваля захлынула наш збольшага расейскамоўны калектыў, але на працягу дня нехта час ад часу нагадваў, што сёньня дзень незвычайны. І зноў гучалі знаёмыя і ледзьве не забытыя словы, людзі ўсьміхаліся адзін аднаму... Іншы раз не без тугі...

Я лічу галоўным вынікам гэтага дня той штуршок для розуму, які атрымалі людзі побач са мной. Добра б, каб ён не перапыняўся і мацнеў.

**Альбэрт Смалонскі, Менск**

# УЛАДА АД ПРЫРОДЫ

Нягледзячы на правал у эканоміцы і непрызнаньне беларускага рэжыму міжнароднай супольнасьцю, унутры Беларусі масавага незадавальненьня ўладамі, на румынскі кшталт, ня бачна. Ці нацыя задаволеная?

**АПРАЎДАНЬНЕ ЎЛАДЫ**

Месье Талейран казаў некалі Напалеону: усім штыхі добрыя, вось толькі сядзець на іх немагчыма. Інакш кажучы, захапіць уладу зброяй можна, а вось утрымліваць адной толькі зброяй – не. Каб рэжым трымаўся стабільна, патрэбная згода падуладных, як мінімум, маўклівая. Самая жорсткая дыктатура патрабуе легітымацыі ў вачах насельніцтва. Можа быць тры легітымацыі ўлады: традыцыйная, рацыянальная і харызматычная. Традыцыйная ўлада заснаваная на адвечным звычаі, яна апраўдвае сябе як дадзеная ад Бога. Рацыянальная ўлада – выраб Новага часу, яна больш ад гэтага сьвету. Ідэя Бога, як яе гаранта, зьмененая на ідэю народу-заканадаўцы. Таму апраўданьне такой улады – законнасьць і эфэктыўнасьць у вырашэньні праблемаў. Бывае шчэ ўлада, заснаваная на харызьме, гіпнатычным прычараваньні лідэра. Яе грунт – толькі захапленьне падуладных. Апраўданьне такой улады ў самім правадыры. Таму пра яе можна казаць – «улада ад лідэра».

**ЖЫЦЬЦЁ Ў ПРОМНЯХ ХАРЫЗМЫ**

Вызначаючы месца беларускага грамадзтва ў сям'і народаў, нельга абысьці пытаньне ягонай, так бы мовіць, уладнай прыналежнасьці. З разьвіцьцём сэкулярнай культуры Бог у ролі адваката сацыяльна паноўных памёр. Традыцыйная дзяржаўная ўлада на большай частцы Зямлі саступіла месца рацыянальнай. У любым разе, усялякая ўлада, зрынуўшы традыцыйную, з часоў Вялікай Францускай рэвалюцыі выпраўдвала сябе праз служэньне богу Розуму. Так было і ў Расеі ў сямнаццатым годзе. Але па забойстве памазаніка божыя ў новай дзяржаве ўзьнікла не рацыянальная, а квазырацыянальная сыстэма ўлады. Бо ступень рацыянальнасьці ўлады вызначаецца яе эфэктыўнасьцю ў забесьпячэньні ўзроўню жыцьця, абароны і магчымасьцяў вольнай творчасьці грамадзянаў. Але гэта пры ажыцьцяўленьні формулы «ўлада для народу», пры дэмакратыі. У шэрагу істотных пунктаў улада ў Беларусі – зусім не дэмакратычная; па ступені эфэктыўнасьці – зусім не рацыянальная. Што да яе боскага паходжаньня – як бы там ні немагаліся праваслаўныя герархі – пры браку належнай рэлігійнасьці насельніцтва ніякія «памазаньні» не дапамогуць.

Застаецца харызма. Пра велізарны патэнцыял харызматычнай улады прэзыдэнта ўжо шмат напісалі. Добра, няхай непарушнасьць пазыцыяў ППРБ і яго апарату дагэтуль забясьпечвалася гэтай харызмай. Але нават калі параўнаць колькасьць галасоў за Аляксандра Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах з колькасьцю галасоў супраць і колькасьцю тых, хто не хадзіў галасаваць, застанецца добрая частка насельніцтва, на якую яго харызма ня дзейнічае. Незадаволеная цяперашнім узроўнем жыцьця, бясьпекі й магчымасьцяў самарэалізацыі, гэтая частка паціху расьце, але ж трывае, маўчыць. Магчыма, таму што запас трываньня яшчэ ня вычарпаны. Але недзе ў Лацінскай Амэрыцы, ды нават у Румыніі пры такой поўнай неэфэктыўнасьці эканомікі, плюс узурпацыі ўлады, плюс бяспраўі людзей атмасфэра ўжо накалілася б да белага. У нас жа палітычныя замаразкі. Пэўна, клімат ня той. Ці мэнталітэт. Хіба што прэзыдэнцкія выбары трохі разагрэюць сытуацыю.

**ЛЕГІТЫМАЦЫЯ НЕ ДА КАНЦА**

З часткай беларускага грамадзтва, якая падпала пад чэпкія чары прэзыдэнта й нястомных афіцыйных СМІ, здаецца, усё зразумела. Яе паводзіны ўкладваюцца ў клясычную схему легітымацыі палітычнай улады, прапанаваную Максам Вэбэрам. Крыху дзіўна паводзіць сябе іншая частка. Дакладней, яна ніяк сябе не паводзіць. Хоць знае, што дэмакратычныя краіны адназначна не прызнаюць рэжым Лукашэнкі. Дадамо, што легітымнымі ў поўным сэнсе слова могуць лічыцца толькі традыцыйная ці рацыянальная ўлада, бо яны сыходзяць ад самога грамадзтва, яго чаканьняў і прэфэрэнцыяў. Харызматычная ўлада перагружаная суб'ектыўным чыньнікам. Яна зручная для таго кіраўніка, які хоча атрымаць яшчэ большую ўладу, але зь цягам часу яе ўсё больш будуць ацэньваць з гледзішча эфэктыўнасьці альбо традыцыйнасьці. Нашая не ўпісваецца ні туды, ні сюды. У духоўным дачыненьні яна яшчэ больш безгрунтоўная, чым улада КПСС. Штодзённае выкарыстаньне зашмуляных ідэалягемаў саўка дазваляе ацаніць гэтую ўладу як у нечым традыцыйную, хаця больш слушна было б сказаць – квазытрадыцыйную. Бо ў сутнасьць любога таталітарызму ўваходзіла разбурэньне традыцыйных вартасьцяў. Казаць аб пост-таталітарным грамадзтве як традыцыйным можна толькі зь велізарнымі агаворкамі.

Харызматычная ўлада прыбіраецца то ў традыцыю, то ў рацыянальнасьць, але прытым па сваёй сутнасьці застаецца безгрунтоўнай, прамежкавай. Чатыры гады на харызьме. Пара б ужо легітымізаваць сябе па ўсіх правілах. Але з аднаго боку не атрымліваецца, а зрэшты – ня надта й трэба. А навошта? І так добра. Народ жа маўчыць.

**З АПОРАЙ НА НІШТО**

Напэўна, будучыя сацыёлягі й палітолягі будуць распрацоўваць на нашым прыкладзе новую канцэпцыю палітычнае ўлады. Магчыма, гэтаму тыпу ўлады дадуць найменьне «нэгатыўна легітымізаваная».

Рэч у тым, што значная частка беларускага грамадзтва не ацэньвае ўладу ў катэгорыях законнасьці-незаконнасьці. Улада ўспрымаецца як самадастатковая дадзенасьць. Для процьмы нашых суайчыньнікаў яна ня ёсьць зьявай сацыяльнай, хутчэй гэта нешта накшталт прыроднай зьявы, такой як зіма, навальніца, паводка, паморак на сьвіньні. Такая ўлада не падпадае ні пад формулу «ўлада ад Бога», ні пад «улада ад народу», ні пад «улада ад лідэра». Ёй хутчэй пасуе формула «ўлада ад прыроды». Прыродныя зьявы ня маюць патрэбы ў апраўданьні з чалавечага гледзішча. Яны ёсьць, і ўсё. Прыродныя законы не мяняюць, да іх прыстасоўваюцца. Вось і эвалюцыя значнай часткі беларускага насельніцтва традыцыйна ідзе ня шляхам барацьбы, а шляхам адаптацыі.

Дагэтуль Беларусь застаецца ў цені эсхаталягічных мітаў камунізму. Адсюль і мэнтальнасьць – міталягічная на новы лад. Як у першабытным сьветапоглядзе, зьявы сацыяльнага сьвету і зьявы прыроды беларусамі не разрозьніваюцца. Сацыяльная рэчаіснасьць атрымліваецца як бы другой прыродай. Тое, што адбываецца ў гэтай другой прыродзе, гэтаксама мала залежыць ад волі й жаданьняў канкрэтнага чалавека, як і ў сапраўднай прыродзе. Ментавіта такое разуменьне грамадзтва і яго гісторыі прышчаплялася пакаленьням савецкіх людзей праз прапаганду вульгарызаванага марксізму зь яго ідэяй жалезнае гістарычнае заканамернасьці. Менавіта такое ўспрыманьне сацыяльнай сыстэмы ствараецца ў таго, хто знаёмы з савецкай і постсавецкай бюракратычнай машынай. Жыцьцё простага чалавека пранізанае абсурдам на пабытовым узроўні. Здаровы сэнс і абсурд зьмешваюцца.

Сьвет саўка – гэта ня больш-менш ясны й разумны сьвет, а сытуацыя татальнай непрадказальнасці. Схавацца ад гэтай гранічнай неўкаранёнасці ва ўласным лёсе можна толькі ў моцнай ідэалёгіі, якая б давала простыя й ясныя адказы на ўсе сумненьні, турботы; у рэлігіі, якой у савецкі час не спрыялі; ці ва ўласным высокаарганізаваным унутраным сьвеце, чаго дасягалі адзінкі. Але ж уласна сацыяльная рэчаіснасьць не ўспрымалася чалавекам як сваё, сваімі рукамі створанае чалавечае асяродзьдзе, у якім можна кантраляваць падзеі. З 90-га году тут мала што зьмянілася. Шматлікія грамадзяне Беларусі дагэтуль не ўспрымаюць дзяржаўныя і грамадзкія інстытуты як вынік чалавечай дзейнасьці. Сучасны рэжым усяляк паразытуе на гэтай рысе пост-савецкага сьветапогляду. Бо калі палітычная ўлада ўспрымаецца як існая ад прыроды, то і ўзьдзейнічаць на яе ва ўласных інтарэсах – гэта, на ўзроўні саўковага здаровага сэнсу, усё адно што кіраваць надвор'ем. Паняцьці прычыны і наступства ў міталягічнай рэчаіснасьці саўка не існуюць.

У гэтай міталягічнай рэчаіснасьці, у пустэчы паміж харызмай, традыцыяй і законам, і ўладкавалася цяперашняя ўлада. Улада, заснаваная на недахопе здаровага сэнсу, недахопе палітычнай і любой культуры. Улада, заснаваная не на ідэі традыцыі ці закону, а на іх адсутнасьці. Улада ад пустэчы.

**Аляксей Маковец**

## ЗВАРОТ ТБМ

Дарагія сябры! Шаноўныя прыхільнікі беларускай мовы! Паважаныя суайчыньнікі, а таксама грамадзяне іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры!

Наша краіна перажывае нялёгкі час. Нацыянальнае адраджэньне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны супраціў з боку антыбеларускіх сілаў. Масава зачыняюцца беларускія школы і клясы, ліквідуюцца беларускія выданьні і выдавецтвы. Былі выпадкі, калі людзей на вуліцах арыштоўвалі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны трапіла ў выключна цяжкае матэрыяльнае становішча. Але ТБМ не здаецца і шукае выйсьця з становішча, што склалася не па віне арганізацыі. Зараз Таварыства рыхтуецца да свайго чарговага VI зьезду.

Мы зьвяртаемся да вас з просьбай аказаць ТБМ разавую матэрыяльную падтрымку на правядзеньне зьезду, выданьне газэты «Наша слова», а таксама дасьледаваньняў аб дыскрымінацыі беларускай мовы на наш разліковы рахунак праз любое аддзяленьне Ашчадбанку «Беларусбанк» (камісійны збор пры гэтым не ўтрымліваецца).

Наш рахунак № 3015212330014 код 764 у Гардырэкцыі Белбізнэсбанку г.Менску. Нашыя тэлэфоны: 284-85-11, 213-43-52.

*Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

З 16 па 23 лютага праводзіцца перапіс насельніцтва. У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны зьвяртаецца да ўсіх з просьбай паведамляць нам аб усіх выпадках уціску або нядобрасумленнасьці лічыльнікаў па моўных пытаньнях. Тэл. у Менску: 284-85-11. Матэрыялы пра парушэньні будуць зьмешчаныя ў СМІ.

*Сакратырыят ТБМ імя Ф.Скарыны*

## Сямён Шарэцкі:

# «Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, КАБ ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ»

*Працяг са старонкі 1.*



Таму Лукашэнку даруюць нават усе абразы, выпады на адрас расейскага прэзыдэнта. Я не чакаў у 1996 годзе, што дзеля сваіх інтарэсаў яны могуць так здрадзіць. У Расеі падтрымліваюць толькі тых, хто здае сваю радзіму. А сумленныя палітычныя сілы там не ва ўладзе. Што ж да Старавойтава... Такіх, як Старавойтаў, у Беларусі было ўсяго тры: ён, Ралько, Бядуля. Былыя кіраўнікі Беларусі ставілі яго нам, маладзейшым, у прыклад. Мы ім верылі і не памыліліся. У Старавойтаве не памыліліся, памыліліся ў кіраўніках.

**«НН»: А чаму маўчыць Бядуля?**

С.Ш.: А во пачапіў значок!.. у сэнат яго вылучылі. Я зь ім гаварыў... Як, кажу, вам ня сорамна... Бядуля па-руску гаворыць — как, кажу, вам не стыдно насіць гэты значок, прымаць яго з рук чалавека, які вашага сябра катуе? «Ну, знаеце...» — апусьціў ён вочы.

**«НН»: Ці не зьбіраецца апазыцыя ўвесьці Старавойтава й Лявонава ў ценявы ўрад?**

С.Ш.: Хутка ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі Канстытуцыі адбудуцца прэзыдэнцкія выбары, таму ні пра якія ценявыя ўрады сёньня гаварыць ня будзем. Гэта ўчорашні дзень. Цяпер проста трэба дапамагчы людзям скарыстацца сваім канстытуцыйным правам — абраць прэзыдэнта. Канстытуцыя кажа аднаназначна: кожныя пяць гадоў павінны адбывацца прэзыдэнцкія выбары. Ніхто ня можа адняць у людзей права абіраць сабе кіраўніка дзяржавы. Выбараў патрабуе і той эканамічны, палітычны ды нават псыхалягічны стан, у якім апынулася краіна. Апошнія заявы Лукашэнкі пра «я скручу галаву», яго ныя паводзіны яшчэ раз даказваюць: чалавек з такой псыхікай ня можа быць стваральнікам. Каб зьмяніць жыцьцё ў краіне, кожны грамадзянін павінен рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы і выканаць свае канстытуцыйныя абавязкі.

**«НН»: Паводле Канстытуцыі, калі выбары не адбудуцца, Вы робіцеся выканаўцам абавязкаў кіраўніка дзяржавы. Якімі будуць Вашыя першыя крокі?**

С.Ш.: Я зраблю ўсё, каб выбары адбыліся і быў абраны прэзыдэнт. А гаварыць сёньня пра тое, «што будзе, калі», нявconfigured — амаральна і антыканстытуцыйна.

**«НН»: Якія могуць быць варыянты разьвіцьця падзеяў на вясну-лета?**

С.Ш.: Усё будзе залежаць ад людзей. Мы ўсё робім, каб адбыліся выбары. Ужо створаны ўсе да адной тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі. Цяпер кандыдаты ў прэзыдэнты ствараюць свае ініцыятыўныя групы. Я ўпэўнены, што Міхаіл Чыгір зможа сабраць сто тысяч подпісаў. Думаю, сваё слова яшчэ скажа і Зянон Пазьняк. У яго ёсьць моцная структура. Могуць быць і іншыя кандыдатуры.

**«НН»: Чаму, на Вашую думку, некаторыя незалежныя выданьні занялі пазыцыю, блізкую да чаканьня, чаму яны імкнуцца згладзіць напружаньне, якое нарастае напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў? Баяцца?**

С.Ш.: Цяпер сяму-таму някепска жывецца ў апазыцыі. Калі ня будзе гэтага рэжыму, зь якім яны нябыта «вядуць барацьбу», скончыцца лёгкае жыцьцё. Але справа, нягледзячы ні на што, пайшла.

**«НН»: Як будзе праводзіцца галасаваньне на вёсках, дзе запалохаць людзей найпрасьцей?**

С.Ш.: А чаму вы думаеце, што ўсе кіраўнікі вэртыкалі будуць трымацца за Лукашэнку да канца? Навошта гэта ім? Кебіча ж яны самі здалі. Таму Лукашэнка і крычыць ім: «Надзену на вас наручнікі».

**«НН»: Калі ўсё ў Беларусі вернецца на свае месцы, ці застанецеся Вы ў актыўнай палітыцы, актыўнай эканоміцы, ці цалкам прысьвеціце сябе навуцы?**

С.Ш.: Я й цяпер знаходжу час для навукі, для пісьма. Завяршаю працу над кнігай, у якой разважаю пра беларускі шлях да таго, каб стаць гаспадарамі ва ўласным доме і людзьмі звацца.

**«НН»: Што ж, па-Вашаму, можа вярнуць чалавеку пачуцьцё гаспадара?**

С.Ш.: Найперш трэба, каб чалавек быў грамадзянінам, тады ён будзе гаспадаром.

**«НН»: А прыватная ўласнасьць?**

С.Ш.: Гэта само сабою. Нават у «Камуністычным

> **«На жаль, большасьць расейскіх палітыкаў — імпэрыялісты».**

маніфэсьце» прыводзіліся словы апанэнтаў, што, калі зьнікне прыватная ўласнасьць, пачнецца ўсеагульная лянота. Так і здарылася. Дыктатары імкнуцца ўсё абдзяржавіць: так лягчэй кіраваць людзьмі. Людзі майго пакаленьня доўга ішлі да праўды, да разуменьня дэмакратычных каштоўнасьцяў.

**«НН»: Ці XXI стагодзьдзе будзе для Беларусі шчасьлівейшым за XX?**

С.Ш.: Веру ў гэта. Беларусь павінна заняць «свой пачэсны пасад» у эўрапейскай сям'і. Мы павінны быць там. Што датычыць ваенных блёкаў, дык Беларусь павінна застава ц ца нэўтральнай. Швэйцарыя — вось нам прыклад у гэтым пляне.

**«НН»: Транзытная краіна Беларусь заўсёды будзе ў полі зацікаўленасьці Расеі. Якая арганізацыя дзяржаўных органаў і структураў кіраваньня ўласнасьцю могуць стаць зарукай ад таго, каб гэтая зацікаўленасьць не ператваралася ў дыктат?**

С.Ш.: У свой час Вялікае Княства Літоўскае пайшло на вунію з Польшчай, таму што Расея вымусіла яго на гэта сваімі паводзінамі, сьвірэпасьцю Івана Грознага. Так цяпер Расея сваёй імпэрскай палітыкай заганяе Прыбалтыку ў НАТО. Беларусь таксама павінна захоўваць права шукаць саюзаў на той выпадак, калі нехта будзе пагражаць яе незалежнасьці. Апроч таго, трэба памятаць, што, апроч правоў чалавека, існуюць яшчэ правы нацыі. Кожнага чалавека павінен абараняць закон, кожная «дарослая» нацыя павінна мець сваю дзяржаву, каб дасягнуць росквіту. Менавіта таму распаліся каляніяльныя імпэрыі, распаўся Савецкі Саюз. Менавіта таму ідуць такія працэсы ў сёньняшняй Расеі, і яны, дарэчы, моцна павялічваюць шанцы таго, што Расея можа вярнуцца да дыктатарскай улады.

**«НН»: Вы стаялі ля вытокаў Аграрнай партыі. Якая, па-Вашаму, партыйная сыстэма складзецца ў Беларусі заўтра?**

С.Ш.: Аграрная партыя была створаная як партыя пэўнага прафэсійнага сэктару. Гэта не зусім нармальна для дэмакратычнай дзяржавы, але на пераходным этапе яна была патрэбная, і ў будучыні вёсцы будзе патрэбная свая партыя.

**«НН»: У Прыбалтыцы рухачом глыбокіх грамадзкіх зьменаў на пачатку 90-х гадоў стаў саюз нацыянальнай інтэлігенцыі і сялянства. Ці магчымае нешта падобнае ў Беларусі?**

С.Ш.: У Беларусі трохі іншая сытуацыя. Сялянства было цалкам расьсяляненае, абдзяржаўленае, хутары не захаваліся — гэта ж ня тое, што ў ЗША, дзе 80% фэрмэраў маюць вышэйшую адукацыю; інтэлігенцыя была вынішчаная, кампартыя мела цалкам дэнацыяналізаваны характар. Беларуская кампартыя ствара лася не ў Беларусі, і ня дзіва, што да Мазурава, калі не лічыць нядоўгага часу, калі быў Гікала, ёю кіравалі не беларусы.

**«НН»: Як Вы ацэньваеце дзейнасьць Мазурава й Машэрава?**

С.Ш.: У кнізе, пра якую я казаў, я ацэньваю Мазурава вельмі станоўча. Ён шмат зрабіў для Беларусі, як для эканомікі, так і для культуры. На 40-я ўгодкі ўтварэньня БССР зрабіў даклад па-беларуску — Хрушчоў яго пасьля за гэта граміў. А Машэраў... Машэраў дапускаў іншы раз вельмі балючыя для краіны эканамічныя пралікі. А часам даходзіла да сьмешнага. Неяк ён указваў кіраўнікам гаспадарак, што калі высокі ўраджай, дык трэба жаць яго на высокім зрэзе. Калі збожжа ўродзіць, дык яно паляжа, а каманда йшла — на высокім зрэзе. Машэраў быў найперш добры прапагандыст.

**«НН»: Якой Вам бачыцца сёньня роля Рады БНР?**

С.Ш.: Яна павінна захоўваць ідэалы незалежнасьці, яднаць беларускую эміграцыю і сусьветную супольнасьць у падтрымку беларускай дэмакратыі. Але ўсё вырашыцца тут, а ня там. Беларусы сьвету павінны зьвяртацца найперш да беларускай інтэлігенцыі. Я не магу зразумець, чаму беларуская інтэлігенцыя, навукоўцы маўчаць, што імі кіруе палкоўнік расейскай арміі Замяталін, што ўлады даюць разьвіцца прафашысцкім сілам? Маўчаньне — рабская псыхалёгія.

**«НН»: Калі зайшло пра сёньняшнюю інтэлігенцыю, хто з нашых творцаў Вам найбольш блізкі?**

С.Ш.: Шмат раюся з Гілевічам, Бураўкіным. І вельмі паважаю Васіля Быкава. Дужа паважаю. Проста як бацьку.

**«НН»: Як Вы думаеце, Быкаў вернецца ў траўні?**

С.Ш.: Мы чакаем вяртаньня. Я хацеў бы, каб гэты чалавек быў заўжды на сваёй зямлі, каб яму было тут утульна. Калі пройдзе цяперашняе цемрашальства, мы зробім усё для гэтага чалавека. Такія людзі — гонар не адной нацыі, а ўсяго чалавецтва. Такіх людзей мала. У творах Быкава злучыліся яснасьць чэхаўскай прозы і здольнасьць пранікнуць у глыбіні чалавечае душы, якою валодаў Дастаеўскі.

**«НН»: Вы былі адзіным старшынём калгасу ў бы-**

> **«Такіх, як Старавойтаў, у Беларусі было ўсяго тры: ён, Ралько, Бядуля...»**

**лым Савецкім Саюзе, які ўваходзіў ва ўправу саюзнага Фонду Культуры, і цяпер застаецеся ў радзе БФК. Вы пішаце вершы. Традыцыйнае нашаніўскае пытаньне: якія беларускія творы найбольш дарагія для Вас?**

С.Ш.: «Новая зямля» Якуба Коласа — такая магутная, сьветлая. «Нёман» Анатоля Астрэйкі, якога я яшчэ маладым кіраўніком прывозіў да сябе ў гаспадарку. Творы Канстанцыі Буйло — за тое, што яна стварыла паэзію, сугучную народнай душы — яе «Люблю мой край, старонку гэту» (які талент трэба мець, каб напісаць такое ў 16 гадоў!) ведаюць у кожнай беларускай вёсцы, сьпяваюць дагэтуль, асабліва калі вып'юць чарку. Акрамя таго, я адчуваю своеасаблівую роднасьць зь ёю, папрацаваўшы восем гадоў у тых мясьцінах, якія натхнялі яе, на Валожыншчыне. Мы там, у Сугваздах, дарэчы, адкрылі мэмарыяльную дошку паэтцы. Так што хоць Буйло й не зусім мая зямлячка, яна дарагая мне, як і мой зямляка Адам Міцкевіч.

**«НН»: А цяпер Вы кім больш пачуваецеся: менчуком, валожынцам ці наваградцам?**

С.Ш.: Наваградцам. Там прайшло дзяцінства, там я сфармаваўся як чалавек, як грамадзянін, там я пачаў працаваць у 1959 годзе, калі мае землякі абралі мяне, яшчэ студэнта, на намесьніка старшыні нашага калгасу — тады ён гучна называўся «Зорка камунізму» — і я папрацаваў там 10 гадоў. А ў Валожын я паехаў ужо амаль доктарам навук. 1 верасьня прыехаў туды на працу, а 21 абараніў доктарскую.

**«НН»: Як Старшыня Вярхоўнага Савету Вы шмат зрабілі, каб вярнуць на бацькаўшчыну Лаўрышаўскае эвангельле. Вы надаеце гэтаму вяртаньню нейкі сымбалічны сэнс?**

С.Ш.: Яно не вярнулася, яно вернецца яшчэ. У

> **«А чаму вы думаеце, што ўсе кіраўнікі вэртыкалі будуць трымацца за Лукашэнку да канца?»**

вёску Лаўрышава вярнуўся Елісей Лаўрышаўскі. Помнік яму адкрылі ў 1996 годзе. Польскія ўлады паабяцалі мне, што і кніга вернецца. Сымбалічны? Проста трэба працаваць зь людзьмі і для людзей. Эканоміка не бывае без культуры. Эканоміка ж ня дзеля самой сябе існуе, а каб чалавек мог задавальняць свае патрэбы, прычым ня толькі элемэнтарныя, але й вышэйшыя, духоўныя. Я шчэ старшынёй калгасу зразумеў: кіраўнік павінен дбаць пра людзкое. І тады людзі добра працуюць. У Дорах пабудавалі царкву, у Яршэвічах адбудавалі. У Дорах паставілі помнік землякам, спаленым жыўцом у царкве фашыстамі. Людзі пра гэта не забываюцца.

**«НН»: Тэмай апошняга нумару нашай газэты было: што можа аб'яднаць беларусаў. Што, па-Вашаму?**

С.Ш.: Беларусаў можа аб'яднаць адно — дзяржаўнасьць. А ўжо ў дзяржаве разьбяромся, якая мова павінна быць дзяржаўнаю, якая сымболіка павінна быць дзяржаўнаю. Імі стануць беларуская мова й нацыянальная сымболіка, як і ва ўсіх дэмакратычных дзяржавах, як ва ўсіх дзяржавах, што ўтварыліся пасьля распаду СССР. Сёньняшняя сымболіка — прыдуманая, гістарычная ж — здабытак нацыі. І вырашыць гэта парлямэнт. Той рэфэрэндум, які ўсё перакруціў, быў незаконны. Праз рэфэрэндум можна працягчы любое рашэньне. Нездарма Гітлер любіў арганізоўваць рэфэрэндумы. Затое ў Амэрыцы, якая зьяўляецца прыкладам дэмакратыі, ніколі не арганізоўвалі фэдэральных рэфэрэндумаў.

**«НН»: Вы калісьці сказалі, што будзеце весьці пабеларуску паседжаньні парлямэнту па пытаньнях культуры, па-расейску — па пытаньнях эканомікі...**

С.Ш.: Я сказаў тады: пакуль што. Пакуль большасьць дэпутатаў ня пройдзе курсаў беларускай мовы. Яны павінны былі адкрыцца ўвосені, але прыйшла дыктатура. Беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай. Хай людзі размаўляюць на якой хочаш мове, але калі хочаш быць начальнікам, ты павінен валодаць беларускай мовай. Не валодаеш — ня будзеш начальнікам. Ненармальная сытуацыя, калі беларуская мова абслугоўвае толькі сфэру культуру, павінна быць зьмененая. Мовай дзяржаўных установаў мусіць быць беларуская.

**Гутарыў Андрэй Дынько**

## ЗАЯВА БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Пасьля таго як Дзяржкамдрук РБ вынес папярэджаньне шасьці недзяржаўным газэтам, Беларуская асацыяцыя журналістаў прыняла заяву. У гэтым дакумэнце выказваецца пратэст супраць самавольства ўладаў і адкідаюцца абвінавачваньні ў закліках да захопу ўлады.**

**Да заявы далучыліся кіраўнікі грамадзкіх арганізацыяў Беларусі. Кіраўнік Эўраатлянтычнай асацыяцыі Мечыслаў Грыб лічыць, што папярэджаньні ня маюць пад сабой юрыдычных падставаў. Яны сьведчаць толькі пра тое, што ў Беларусі ўсталёўваецца надзвычайнае становішча. І людзі ў гэтай сытуацыі не павінны маўчаць, трэба злучацца і заяўляць пратэст. Віцэ-прэзыдэнт беларускага ПЭН-цэнтру Карлас Шэрман мяркуе, што дзеяньні уладаў – поўная беззаконнасьць. Мы можам застацца бяз вольнага слова ўвогуле.**

**Лідэры Назіральнага камітэту Беларускай праваабарончай канвэнцыі Аляксандар Патупа, Мікалай Кузьмін, Асамблеі дэмакратычных недзяржаўных арганізацыяў Уладзімер Роўда, Беларускага Хельсынскага камітэту Тацяна Працька лічаць, што распачынаецца вельмі жорсткі ціск на прэсу. Усім неабходна адстойваць яе інтарэсы і рабіць усё магчымае дзеля прадухіленьня закрыцьця гэтых газэт.**

***Беларуская асацыяцыя журналістаў***

## Вячаслаў Чарнавіл:

# МЫ НЕ ДАВЯЛІ ДА КАНЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ РЭВАЛЮЦЫІ

*Да Вячаслава Чарнавіла, старшыні Народнага Руху Ўкраіны, кіраўніка фракцыі Народнага Руху ў Вярхоўнай Радзе, я дазванілася адразу. І патрапіла на сустрэчу без праблемаў: дазнаўшыся, што я ў Кіеве ўсяго паўтара дня й няма калі шукаць сакратара, які б заняўся афармленьнем пропуску ва ўкраінскі парлямэнт, спадар Чарнавіл усё зрабіў сам. І ніякіх табе «пытаньні, калі ласка, факсам», як гэта часта бывае ў Беларусі. Я ня стала пытацца, што В.Чарнавіл думае пра Беларусь. Пра гэта ён выказаўся ў звароце да Кангрэсу дэмакратычных сілаў-99: «выклікае павагу вашая адданасьць справе* ***аднаўленьня*** *незалежнасьці Беларусі...» Відочна, хісткая незалежнасьць Беларусі для ўкраінскай правіцы — незалежнасьць няпоўная... Пытацца пра памылкі ў дзеячоў беларускай правіцы — значыць, выклікаць раздражнёную рэакцыю. Гутарка ж зь В.Чарнавілам пачалася менавіта з гэтай тэмы.*

**«НН»: Спадару Чарнавіл, правыя, якія шмат дзе ў Цэнтральнай Эўропе былі рухавіком змаганьня за незалежнасьць, ня вельмі любяць гаварыць пра памылкі. Думаецца, што для Беларусі і Ўкраіны яны падобныя...**

В.Ч.: Наша найвялікшая памылка ў тым, што мы не давялі да канца нацыянальнае рэвалюцыі. Мы завяршылі першы яе этап — 24 жніўня 1991 году была абвешчаная незалежнасьць Украіны. Адначу і ўсенародны рэфэрэндум 1-га сьнежня... І супакоіліся. Натуральна, наша сытуацыя іншая ў параўнаньні зь Беларусяй, але мушу сказаць, што значная частка народу яшчэ не была гатовая да другога этапу. Асабліва частка лідэраў, якія выйшлі з намэнклятуры, якія гаварылі, маўляў, паглядзіце, камуністы прагаласавалі за незалежнасьць, давайце разам будзем будаваць салідарнасьць, еднасьць... Нам трэ было абавязкова пераабраць парлямэнт пры канцы 1991-га або на пачатку 92-га. А мы дацягнулі да 94-га. За гэты час эканамічная сытуацыя пагоршылася, бо пры ўладзе засталіся старыя камуністычныя кадры, настрой сярод насельнікаў пачаў мяняцца, ужо не было ўзьнёсласьці, энтузіязму. У 1994 годзе мы выбары выйграць ужо не маглі. Гэтая памылка адрозьнівае нас ад Польшчы, Вугоршчыны, краінаў Балтыі. Яны адразу ўзялі ўладу. А мы яе не ўзялі. Мы не правялі другога этапу нацыянальнае рэвалюцыі. Вось чаго шкада, хоць я належаў да тых, што падштурхоўвалі да такога разьвіцьця падзеяў. Аднак ня здолеў пераканаць сваіх калегаў, тады кіраўнікоў Руху, ды іншых. Вось найбольшая памылка. Гэты застой працягваецца, працягваецца... Відаць, патрэбны моцны штуршок, каб завяршыць тое, чаго мы не зрабілі ў 1991-92 гадах.

**«НН»: Беларускія апазыцыйныя палітыкі, калі апэлююць да Захаду, гавораць, што праблема Лукашэнкі — гэта ня толькі праблема Беларусі, але і Эўропы. Напрыклад: у выпадку анэксіі Беларусі можа наступіць чарга Ўкраіны. Гэта рэальна?**

В.Ч.: Заява сапраўды рэальная. І сытуацыя ў Беларусі залежыць ад таго, што адбываецца ва Ўкраіне, і наадварот. Тое, што мы стаім упарта супраць уваходжаньня ў СНГ, падкрэсьліваем сваю незалежнасьць, дапамагае Беларусі. Гэтаксама, калі б Беларусь канчальна здалася, нашым ткачэнкам і сілам, якія стаяць за нейкі славянскі саюз, за нейкую форму адраджэньня СССР, было б нашмат лягчэй. Таму тое цяперашняе ажыўленьне палітычнага жыцьця ў Беларусі, пратэсты супраць палітыкі Лукашэнкі, памяншэньне піетэту да «бацькі», вельмі спрыяльныя для нас. Можа, нат добра перад нашымі прэзыдэнцкімі выбарамі, на якіх левыя маюць пэўныя шанцы. Гэта добра й для Эўропы. Мне, як чальцу парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, на жаль, даводзіцца канстатаваць, што ня ўсе эўрапейскія палітыкі разумеюць, што там за Бугам адбываецца... Я прыгадваю паседжаньне, калі вырашалася пытаньне аб прадстаўніцтве Беларусі ў Радзе Эўропы. Мне было вельмі балюча, што мая прапанова — а тады дэлегацыю Беларусі прадстаўляў Карпенка — не была падтрыманая. Я прапаноўваў падвердзіць прадстаўніцтва за законным парлямэнтам, Вярхоўным Саветам, які Лукашэнка разагнаў. А яны зрабілі найлягчэйшы крок: увогуле пазбавіць прадстаўніцтва. Я думаю, гэта памылка эўрапейскіх палітыкаў. Так, у Беларусі абразілі Лені Фішар. Але яе абразіў Лукашэнка, а не беларускі народ. На жаль, у Эўропе часам здараюцца такія непаразуменьні. Можа, хтосьці ня хоча псаваць дачыненьняў з Расеяй, нехта недаацэньвае стратэгічнага, геапалітычнага значэньня Беларусі. Ды і Ўкраіны таксама...

**«НН»: Спадару Чарнавіл, акрэсьлеце, калі ласка, палітычную нішу й палітычны ўплыў Народнага Руху на сытуацыю ва Ўкраіне.**

В.Ч.: Гэта акрэсьлены правы цэнтар. Адна з найбольш уплывовых палітычных сілаў. На жаль, другая — гэта камуністычная партыя. Яны жывуць мінуласьцю, мы — цяперашнім і будучыняй. Адзін сур'ёзны ўкраінскі палітык сказаў такое: «У нас сёньня дзьве партыі, якія могуць ісьці на выбары бяз грошай — камуністы й Рух». Прыхільнікі камуністычнай ідэі, прынамсі, шмат хто зь іх, маюць настальгію па мінулым. Рух асацыюецца з будучыняй. Нам трэба зьберагчы свае рэнамэ. Нам трэба стаць яднальнаю сілай, якою мы былі пры канцы 80-х і на пачатку 90-х. Яднаньне сілаў — нашая стратэгія цяпер. Мы ствараем блёк аднадумцаў з уплывовых палітычных сілаў. І, спадзяюся, лёзунг «еднасьць», які гучыць на кожнай сустрэчы, на кожным мітынгу, урэшце будзе намі рэалізаваны. Гэта важна перад недалёкімі ўжо прэзыдэнцкімі выбарамі, важна перад пагрозай рэстаўрацыі левых сілаў.

**«НН»: Вы неаднаразова казалі, што калегам па руху ў суседніх дзяржавах варта ўлічваць чужы досьвед, памылкі, дасягненьні... У сувязі з гэтым, чаму, на вашу думку, у Беларусі нацыянальны рух — элітарны?**

В.Ч.: Мне здаецца, па-першае, з-за нясьпеласьці базы. Трэба ж на нешта абапірацца... У нас часам кажуць, што нацыя ўкраінцаў толькі ствараецца, што пакуль ёсьць толькі ўкраінскае жыхарства. Але ў нас моцнаю базай была Заходняя Ўкраіна. І Кіеў. Дзе заўсёды лунала пачуцьцё сталіцы. Кіеў заўсёды на выбарах дэманстраваў дэмакратычныя прыхільнасьці. Кіеў — цалкам наш, як і Заходняя Ўкраіна. Але й мы яшчэ ня здолелі пераканаць увесь народ. Думаю, тое ж у пэўнай ступені характэрна й для Беларусі. Мушу паўтарыць — нацыя мае такіх кіраўнікоў, якіх яна заслугоўвае. Трэ было перажыць. І нам гэтую эканамічную стагнацыю, і вам бацьку Лукашэнку. Каб народ зразумеў, куды йсьці.

**«НН»: Што б Вячаслаў Чарнавіл перадаў беларусам?**

В.Ч. Я зычу братняму беларускаму народу хутчэй пазбыцца дыктатуры Лукашэнкі, хутчэй выйсьці на дэмакратычны шлях разьвіцьця і ўсё ж адстояць сваю незалежнасьць. Можа, я сапраўды завостра напісаў у сваім звароце да Кангрэсу дэмакратычных сілаў пра аднаўленьне незалежнасьці Беларусі. Цалкам вы яе яшчэ не страцілі, але я хачу, каб яна была аднаўленая цалкам. Гэта ў інтарэсах і Беларусі, і Ўкраіны, цэлай Эўропы і цэлага сьвету.

**Гутарыла Вольга Караткевіч**

# СУМЛЕНЬНЕ СУПРАЦЬ СЫСТЭМЫ

Яшчэ адзін беларус папрасіў палітычнага прытулку на Захадзе... Нягледзячы на звыкласьць факту, можна казаць пра пэўную ўнікальнасьць выпадку. Палітэмігрантамі дагэтуль станавіліся пераважна актывісты БНФ. Юры Сушкоў, што папрасіў прытулку ў Нямеччыне, якраз мог бы пры жаданьні існаваць больш-менш бязьбедна й пры гэтым рэжыме. Ад яго патрабавалася ўзамен толькі адно: паслухмянасьць. Ён мусіў паслухмяна абвяшчаць прысуды — кідаць людзей за краты.

У сваёй заяве начальніку ўправы юстыцыі Магілеўскага аблвыканкаму судзьдзя Ленінскага райсуда Бабруйску Сушкоў прасіў звольніць яго па ўласным жаданьні з прычыны ягоных «маральных ды палітычных перакананьняў».

Юры Сушкоў яшчэ ў 1991 годзе выпадкова змог адчуць на сабе сэнс расейскага слова «беспредел». У ягоным родным Бабруйску было сьвята гораду, калі на вуліцах упершыню зьявіўся АМОН. Хлопцы зацікавіліся міліцыяй у незнаёмай яшчэ тады форме й проста пасярод вуліцы падышлі з пытаньнямі. Пачуўшы ў адказ назву-абрэвіятуру, нехта зь сяброў Юрыя згадаў: маўляў, ці ня той АМОН, што паўгады таму нарабіў дзялоў у Вільні? Усю кампанію тут жа схапілі, кінулі ў аўтобус і паказальна «адмалацілі». Выпусьцілі іх з пастарунку толькі ранкам. У хаце Юры зірнуў на сябе ў люстэрка: палова твару была сіняй. Суцэльны сіняк. Праз тыдзень ён пасьпяхова здаў іспыты ў юрыдычны інстытут у Харкаве. Сваю вучобу ва Украіне Юры згадвае цяпер так: «Мяне вучылі зусім іншаму, чым тое, што адбываецца на практыцы ў нас». Ён пасьпеў папрацаваць сьледчым у Ленінскім раёне Бабруйску, потым у Бабруйскай раённай пракуратуры. 20 кастрычніка 1997-га, пасьля папярэдняга субяседаваньня ў некалькіх інстанцыях «вэртыкалі» (звычайная, дарэчы, сёньня працэдура) Сушкова прызначылі на пасаду раённага судзьдзі ўказам прэзыдэнта РБ.

Скажам, летась судзьдзі Сушкову выпала разглядаць справу бабруйскіх мытнікаў — Патарыкіна і Драздa. Іх абвінавачвалі ў службовых злачынствах, зьвязаных з Бабруйскім гідролізным заводам. Справу разьвязала й трымала на кантролі кіраўніцтва дзяржавы. Тым ня менш, доказаў віны мытнікаў бракавала. Наўмысласьць дзеяньняў падсудных не пацьвярджалася, а ў дачыненьні да Патарыкіна справа «цягнула» нават на апраўдальны прысуд.

У хуткім часе ў кабінэт судзьдзі Сушкова завітаў прадстаўнічы мужчына, які назваўся супрацоўнікам КГБ і ветліва перадаў, што мяккі прысуд непажаданы і, увогуле, можна нарвацца на непрыемнасьці. На спробу перавесьці гэта ў жарт, «госьць» адказаў, што гаворыць цалкам сур'ёзна. У той жа дзень Сушкова выклікаў да сябе «на дыван» старшыня суда Мікалай Семянюк. Параў «не зьвязвацца з КГБ», інакш «будзе кепска» усяму суду — ня кажучы пра самога Юрыя. Урэшце Сушкоў зачытаў мытнікам прысуд: два з паловай гады зьняволеньня для Патарыкіна, чатыры з паловай — для Драздa. Сваякам асуджаных, аднак, паведаміў аб аказаным на яго ціску. Паводле назіраньняў судзьдзі, ціск чыніўся й на сьведкаў, калегаў абвінавачаных. На адно з ранішніх пасяджэньняў суда ў Бабруйск быў дастаўлены ажно зь Менску намесьнік начальніка Мытнага камітэту Беларусі, які відавочна адчуваў няёмкасьць і казаў ня тое, што хацеў сказаць. На працэсе судзьдзю Сушкову даводзілася чуць, што сьледчая група дастане з-пад зямлі за пару гадзінаў каго хочаш — нават міністра — і даставіць у залю.

Праз тыдзень пасьля асуджэньня мытнікаў Сушкова пахвалілі. Начальнік суда Семянюк сказаў, што званілі «ад Шэймана» і «наверсе» радыя прысудам.

Спадзяваньні на сумленнасьць суда вышэйшай інстанцыі аказаліся марнымі. Магілеўскі судзьдзя Рыгор Качалаў, што разглядаў справу пасьля касацыі, заявіў: «Вызваляць іх трэба, але — няхай пасядзяць».

«У нас заганная практыка: калі чалавек трапіў у турму, яго ўжо не апраўдваюць», — кажа Юры Сушкоў. Да таго ж, звычайна існуюць два варыянты галоўных аргумэнтаў «віны»: «Альбо чалавек сам прызнае віну, якая больш нічым не пацьвярджаецца — альбо на яго ўказвае пацярпелы». Гэтую практыку звычайна бачыца «ламаць»: кожны апраўдальны прысуд — гэта адмена папярэдніх абвінавачваньняў, рашэньняў аб арыштах, гэта й пакараньні тых, хто дапусьціў парушэньні... За апраўдальны прысуд судзьдзю чакае «тэрор».

Юры Сушкоў за год працы ў судзе выносіў такія прысуды тройчы. Калі аспрэчваў дзеяньні міліцыі, калегі прасілі яго зьмякчаць фармулёўкі, каб за «беспредел» не каралі шмат асобаў. Ён не пярэчыў. Але нічога не «зьмякчаў».

Ён быў адзіным сярод калегаў, хто не жадаў дзейнічаць, як усе. Яго сталі пазбаўляць прэміяў. «Але гэта — дробязі жыцьця ў параўнаньні з тым брудам, які на цябе выліваюць пракуратура і міліцыя», — кажа Юры. Урэшце гутарка аб ягонай працы адбылася проста ў кабінэце «непаслухмянага» судзьдзі. Р.Качалаў з абласьця накінуўся на мяккасьць прысудаў. Апошнія ягоныя словы былі: «Калі захачу, я цябе лёгка зьнішчу». І запытаўся, што Сушкоў будзе рабіць, калі яму «пакладуць рукі пад нож». «Змагацца з сыстэмаю, выносячы прынцыповыя рашэньні, практычна немагчыма», — робіць выснову Сушкоў. Ён цытуе словы экс-міністра МУС Юрыя Захаранкі зь фільму «Звычайны прэзыдэнт»: у Беларусі «больш слабыя ламаюцца, больш моцных забіваюць». У Бабруйску на вачах Сушкова звольнілі цяпер ужо былога судзьдзю Сяргея Жабчанку за апраўдальны прысуд дырэктару «Фандока» Таранаву. Меў вечныя праблемы зь міліцыяй судзьдзя па адміністратыўных справах Ленінскага суда Раман Сівак: ён ніколі не кіраваўся настойлівымі «парадамі» міліцыянтаў. Цяпер Раман Сівак сам сядзіць. Афіцыйная вэрсія — за хабар, але ягоны калега ня ўпэўнены, ці быў той хабар...

У той жа час маюцца прыклады адваротныя. Судзьдзя Казакевіч, што асудзіў Шарамета й Завадзкага ў Ашмянскім судзе, атрымаў падвышэньне. Сьледчыя Магілеўскай абласной пракуратуры А.Радкевіч і А.Матулькоў, магілеўскі пракурор Драздоў атрымалі хто кватэру, хто палкоўніцкія зоркі й прэміі — за «раскрыцьцё» справы Мікалуцкага. Хоць тую справу вярнуў на дасьледаваньне Вярхоўны суд... Дарэчы, пацярпелым у справе аб забойстве Мікалуцкага сьледчай групай быў прызнаны... Аляксандар Рыгоравіч. Словы прэзыдэнта пра тое, што «ворагі падбіраліся да прэзыдэнта», вылілся ў спэцыяльную пастанову аб ягонай пацярпеласьці. Ейную копію адзін зь сьледчых захаваў для гісторыі.

Юры Сушкоў яшчэ раз пацьвердзіў, што гэтак званая «апэратыўная распрацоўку падазраваных» спэцслужбы ў Беларусі вядуць мэтадамі «старой, дзедаўскай» пробы. Падвешваньне наручнікамі на краты, пераціскаwerні рук і ног наручнікамі, удушэньне ў супрацьгазе, вышчыпваньне валасоў з палавых органаў. Жорсткае зьбіцьцё ў параўнаньні з гэтым — проста ласка... Пра ўсё гэта, магчыма, Сушкоў у хуткім часе выдасьць у замежжы кнігу. Перад ад'ездам у Нямеччыну ён не выключаў самых розных варыянтаў разьвіцьця падзеяў, згадваючы, як праз тыдзень пасьля тэлефоннай размовы зь ім пра кнігу ды палітычны прытулак загінуў пры дзіўных абставінах маскоўскі журналіст-міжнароднік, ураджэнец Бабруйску Юры Рыжы. Афіцыйная вэрсія сьмерці — атручаньне морфіем.

Што да Юрыя Сушкова, то бясправе і прыгон людзей сваёй прафэсіі ён спазнаў пры рэшце, афармляючы замежны пашпарт. Без тлумачэньня прычынаў у абласным упраўленьні юстыцыі Сушкову заявілі, што судзьдзі — асобы, фактычна, невыязныя. Але ўсё ж знайшліся ў Беларусі людзі, якія дапамаглі. «Я болей не магу пастпупацца сумленьнем, прынцыпамі і правасудзьдзем і выконваць бесчалавечныя законы талаітарнага рэжыму, кіраванага дыктатарам», — заявіў Юры Сушкоў. Ён зьбіраецца працаваць на карысьць Беларусі ў замежжы. Ягоны ўчынак — прыклад тым, хто гэтыя гады змагаўся з уласным народам у пастарунках, на вуліцах, у судовых кабінэтах. Гэта таксама знак таго, што ёсьць у нас «яшчэ сілы, каб крыўдзе ня даць, змагацца».

**Тацяна Сьнітко**

# ГОРАД ЗАТАІЎСЯ

**Памерла Марыя Осіпава, гераіня тэлесэрыялу «Руіны страляюць», фільму «Гадзіньнік спыніўся апоўначы», кніг Новікава, Карпава, шматлікіх мэмуараў. Труну зь целам былой падпольшчыцы выставілі ў той самай залі, дзе калісьці – труну зь целам забітага ёю гаўляйтэра Кубэ. Будынак, дзе ў час вайны знаходзіўся генкамісарыят і працаваў Кубэ, цяпер называецца «рэзыдэнцыяй прэзыдэнта», і падыходзіць да яго забаронена, як калісьці ў вайну, а выход з «Купалаўскай» замыкаюць на вечар, нібы на камэнданцкую гадзіну. Людзі сыходзяць, дамы застаюцца. Пакуль жывая памяць тых дзён, «НН» вяртаецца да аднаго з самых драматычных сюжэтаў найноўшай гісторыі. Уладзімер Ісаенка — кандыдат гістарычных навук, вядомы археоляг. Ягоныя думкі асабліва каштоўныя яшчэ й таму, што ён піша і як гісторык, і як юны сьведка тых чорных і чырвоных гадоў. Аляксей Ліцьвін — загадчык аддзелу гісторыі Вялікай айчыннай вайны Інстытуту гісторыі АН. Юры Туронак жа ў сваёй кнізе «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (WERS, Варшава-Ўроцлаў, 1989, бел.пер. «Беларусь», 1993), напісанай на аснове доктарскай манаграфіі, прывёў шэраг архіўных зьвестак, якія зьмянілі ранейшыя ўяўленьні пра тыя падзеі.**

5 лютага 1999 году на 91-м годзе жыцьця памёрла Марыя Осіпава, адна з гераінь неабмежаванай партызанскай вайны, якая разгарнулася на тэрыторыі Беларусі ў 1943–1944 гадах. У двццацігадовым узросьце стала камуністкай, праз сем гадоў скончыла Вышэйшую камуністычную сельгасшколу, потым Менскі юрыдычны інстытут. Перад вайной працавала судзьдзёй Вярхоўнага суда БССР. Партыйна-юрыдычную кар'еру перарвала вайна. Зь першых дзён акупацыі М.Осіпава выкарыстоўвала любую магчымасьць, каб шкодзіць ворагу: арганізавала падпольную групу з знаёмых па юрыдычным інстытуце, удзельнічала ў рабоце групы камсамольцаў заводу «Бальшавік», зьбірала зброю, перапраўляла палонных да партызанаў, была сувязной адначасова двух партызанскіх атрадаў і брыгады «Дзядзькі Колі», распаўсюджвала падпольныя выданьні. Для падрыхтаванага агента падобныя паводзіны супрацьпаказаныя. І менавіта пры ўдзеле гэтай жанчыны быў забіты Кубэ.

Якім быў тады горад? Было ўсякага. Пра тое, што рабілася, сьведчаць падлікі Надзвычайнай камісіі: за 1941–44 гады загінула ад бамбёжак 186, павешаныя 79, пагнаныя на прымусовыя работы ў Нямеччыну 665 чалавек, зьнішчаныя да 80 тысячаў габрэяў. Трэба дадаць яшчэ, што ў межах гораду былі забітыя ці загінулі 86 тысячаў ваеннапалонных, да 20 тысячаў замежных габрэяў, і ня менш за 400 мясцовых жыхароў.

Вось такое было. Зь іншага боку, былі й людзі, хто з палёгкай сустрэў прыход немцаў: гэта найперш тыя, над кім вісела пагроза арышту ў сталінскія гады. Немцы хутка змаглі арганізаваць жыцьцё ў вялікім горадзе: запусьцілі заводы, за два месяцы прыватызавалі дробныя прадпрыемствы. Пра тое, што ў гады вайны было як бы два Менскі, сьведчыць той факт, што каля 11 тысячаў менскіх сем'яў атрымалі «ахоўныя лісты» ад нямецкага камісара на выезд у Нямеччыну. Гэта значыць, што 30–40 тысячаў менчукоў адступілі зь немцамі. У выніку з 270 тысячаў перадваенных жыхароў у 1944-м у горадзе засталося менш за 100 тысячаў, ды й то збольшага жыхары прадмесьцяў. Цэнтар жа застаўся пусты. Пасьля вайны яго засялілі ўжо новыя, прыезджыя людзі. Старога Менску не засталося.

Кубэ быў стары апальны бонза фашысцкай партыі. Зь 17 ліпеня 1941 г. Кубэ ў Менску. 2 гады 20 дзён кіраваў ён мясцовай адміністрацыяй, прывёз сям'ю, наняў беларускіх служак, сярод іх і пакаёўку Алену Мазанік.

Яго першы зварот «Да жыхароў Беларусі!» быў зьмешчаны 28 верасьня 1941 г. у «Менскай газэце»:

«Край павінен зноў адрадзіцца. Вам і вашым дзецям будзе забясьпечаная спакойная будучыня, дзякуючы Нямецкаму парадку... Беларусы! Першы раз у вашай гісторыі перамога Нямеччыны дае вам магчымасьць забясьпечаньня вашаму народу свабоднага разьвіцьця і сьветлай будучыні без расейска-азіяцкага панаваньня», – пісаў ён.

Праз два тыдні пасьля гэтага Гітлер прамаўляў аб тым, як жадаў ён міру і праз сілу быў вымушаны выступіць на Ўсход «супраць ворага, які, мушу тут сказаць, складаецца не з людзей, а з быдла, з зьвяроў». А з быдлам, зразумела, размова кароткая. Толькі пасьля Курскай бітвы многія немцы зразумелі, што перамога для Нямеччыны недасягальная. І пачаліся пошукі ратунку. Адзін з шляхоў, каб адтэрмінаваць канец, – дайсьці ўзаемаразуменьня з усходнімі народамі, выкарыстаць іх у барацьбе з Саветамі. Даволі ўдала гэта рабіў на Каўказе генэрал-фэльдмаршал фон Кляйст. Паспрабаваў і Кубэ ў Беларусі, што зрабіла яго вельмі небясьпечным для савецкага боку. Таму і рыхтавала савецкае камандаваньне замахі на яго і на гаўляйтэра Ўкраіны Коха з асаблівай настойлівасьцю. Разьлік быў просты: на забойства акупанты адкажуць крывавымі рэпрэсіямі, нянавісьць да іх узмацніцца. У час перамоваў з Мазанік ёй перадавалі словы «Дзядзькі Колі»: «Любой ценой надо уничтожить этого гада. Таково задание Центра!»

Шляхі-дарогі да пакаёўкі шукалі розныя асобы. На вачах загінуў агент у афіцэрскім мундзіры зь няправільна разьмешчанымі ўзнагародамі. Элегантная Надзя Траян пераконвала жанчыну, паказваючы пачак партызанскіх улётак і стос грошай. Рыжы дылда разыгрываў закаханага славака, а сам-насам пагражаў. Але рабілі яны гэта настолькі непрафэсійна, што Мазанік не давярала ім, думала, што гэта правакацыі нямецкага СД. І толькі сьціплая Марыя Осіпава выклікала давер. Міна ўзарвалася пад ложкам у спальні і парвала Кубэ левы бок. Яго жонка Аніта ляжала побач (яна была на восьмым месяцы цяжарнасьці) і атрымала толькі нэрвовы шок. Раніцай было высьветлена, што адсутнічае толькі Мазанік. Зь пяці домработніц толькі яна жыла ня ў доме, але паблізу (па вул. Тэатральнай-Энгельса, 48, кв.10). Спэцыяльная эсэсаўская камісія хутка высьветліла, што яна зьнікла разам зь сястрой, а маці жыве ў вёсцы М.Масюкоўшчына і што другі муж Алены працаваў шафёрам у НКВД. Быў знойдзены возчык (П.Караль), а ў вёсцы схованкі для зьбеглых (дом М.Дубавай) і маёмасьці (дом М.Дразда). У апошняга з красавіка жыла Осіпава, перадавала яму міну на захаваньне. (З заключэньня асобай камісіі. // Нёман, 1993, № 5.) Сям'я Дразда зьбегчы да партызанаў не пасьпела, схапілі таксама некалькі сувязных. Асноўныя выканаўцы маскоўскага прысуду пасьпелі разам з роднымі зьбегчы да партызанаў. Там удалае забойства палічылі «такім шчасьцем, што і парсюка закалолі, і расьпілі каністру самагонкі» (Е.Мазаник. Возмездие. – Менск, 1981. С.10). Менск жа застаўся ў чаканьні жорсткага пакараньня. Папаўзьлі плёткі: расстраляюць кожнага дзясятага, 10 тысячаў чалавек – за аднаго.

Прайшло некалькі дзён – і зноў плёткі: жонка Кубэ сказала, што забойцы зьбеглі, а невінаватых караць няма за што. Людзі між тым мітусіліся. Фон Готбэрг аддаў загад зьбраць у закладнікі жыхароў таго кварталу, дзе жыла Мазанік (па вул. Энгельса–Тэатэрштрасэ). «Дойчэ альгемайнэ цайтунг» паведаміла: «Беларуская добраахвотнікі даставілі з квэтэр 300 чалавек мужчынаў, жанчын і дзяцей і расстралялі іх у адплату за замах на Кубэ». Кажуць, амаль месяц расстрэльвалі зьнявoленых менскіх вязьніц, і было іх пад дзьве тысячы. «Возмездие» у кожнага было сваё.

Так ужо супала, што на другі дзень пасьля замаху, 22 верасьня 1943 году, Чырвоная Армія ўвайшла ў першы беларускі горад – Камарын на Дняпры.

**Уладзімер Ісаенка**

# ЖАНЧЫНА-ЛЕГЕНДА

*Апошняе інтэрвію Марыі Осіпавай*

Забойства Кубэ было адной з самых завершаных апэрацыяў другой сусьветнай вайны. Бог падараваў яе выканаўцы доўгі шлях і выдатную памяць. Летась мы падоўгу гутарылі з Марыяй Осіпавай. Яна была рэдкай расказчыцай: усё помніла, называла імёны і прозьвішчы сваіх паплечнікаў, лічбы, даты, дэталі і падрабязнасьці ўсіх акцыяў. Яе падпольная мянушка была «Чорная»: у яе сапраўды былі чорныя пышныя валасы. Колер небясьпечны — бывала, Осіпаву спынялі фашысты: «Юда?» Аднойчы нават прывялі да начальніка паліцыі. Каб даказаць, што не габрэйка, яна чытала малітвы — у вайну спэцыяльна вывучыла «Ойча наш», «Верую» і «Троіцу».

Марыя Барысаўна падрабязна расказвала, як пачыналася менскае падпольле. На пытаньне, ці былі пакінутыя канкрэтныя людзі для арганізацыі супраціву ворагу, адказвала, ледзь стрымліваючы абурэньне:

— Нічога не было... Самі шукалі адзін аднаго, аб'ядноўваліся... Кіраўнікі на машынах барахло вывозілі і зьяжджалі. А мы засталіся кінутыя... Ужо пазьней, пад канец 41-га, быў створаны гарлкам партыі. Праз нейкі час пачаліся правалы. Адзін аказаўся сволаччу, правакатарам... Таму ў сваёй групе старалася захоўваць строгую канспірацыю. Ніколі не зьбіраліся групамі. У маёй арганізацыі толькі дваіх арыштавалі.

Арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных, рыхтавалі для іх дакумэнты — інакш па горадзе было не прайсьці.

— А паліцаі чапляліся горш за немцаў, — успамінала Осіпава. — Чым можна растлумачыць? Дык у паліцыю ішлі толькі па добрай волі, у паліцыю не мабілізоўвалі. У паліцыю ішлі здраднікі. Нагул, у кожнага народу ёсьць і добрыя людзі, і дрэнныя. Са мной супрацоўнічалі два немцы, якія служылі ў лягерах сьмерці ў Масюкоўшчыне — Эміль Шульц і Генрых Трыпэль. Яны дапамагалі выкрадаць ваеннапалонных. А колькі такіх выпадкаў было: гоняць калёну, людзі выбягаюць на дарогу, аддаюць — у каго бульбіна, у каго бурачок, лустачка хлеба. Некаторыя немцы-ахоўнікі рабілі выгляд, што не заўважаюць. А былі й такія: як убачаць, што бягуць да калёны дзеці і жанчыны, дык наводзяць вінтоўкі і страляюць.

Колькі разоў Осіпава паўтарала: «Мы б век не перамаглі немцаў, калі б ня нашы людзі!»

— Як рызыкавала мая суседка па кватэры Ліда Дзяменцьева! Для «прыкрыцьця», каб лягчэй было праходзіць паліцэйскія пасты, Ліда выпраўляла са мной свайго сыночка Генадзя, гады тры яму было. Адзін раз я паклала міну ў штонікі хлопчыка, яны ўнізе зашпільваліся на гузікі. Цудам засталіся жывымі — немец прапусьціў, ня стаў абшукваць малога. Потым сказала Лідзе: «Ніколі больш не вазьму Генадзя, так спужалася за яго... Мяне заб'юць — няхай, але ж ты магла застацца бяз сына».

Суседзі ведалі, чым займаецца Осіпава. Не маглі ня ведаць. У яе кватэры ўвесь час тоўпіліся габрэі, прыходзілі сувязныя з партызанаў. Але ніхто ня выдаў. Наадварот, стараліся дапамагчы, выратаваць. Калі фашысты пачалі зьнішчаць габрэяў, Осіпава забірала да сябе на кватэру і дарослых, і дзяцей. Карміць не было чым — Тома, яе 12-гадовая дачушка, хадзіла зьбіраць ежу. Жабравала — а што было рабіць?..

Я чытала пісьмы ад габрэяў, якія засталіся жывымі дзякуючы Осіпавай. Яе кватэра была сапраўдным перасыльным пунктам, дзе ўцекачы атрымлівалі аўсвайсы. Осіпавай было прысвоенае ганаровае званьне Ізраіля «Праведнік міру».

Над зьнішчэньнем Кубэ працавала шмат партызанскіх атрадаў. Ішло доўгае паляваньне. Кодавая назва гэтай апэрацыі такая і была — «Паляваньне на кабана». За Кубэ сачылі падпольшчыкі Менску: назіралі, на якой машыне езьдзіць і ў які час. Меркавалася тараніць грузавікам: людзі гатовыя былі ахвяраваць жыцьцём, каб зьнішчыць гаўляйтэра. Але ў Кубэ была выдатная інтуіцыя. Нюх, як у дзіка. А міны дзе толькі не падкладалі: на мітынгах, у тэатры, на выездах (у Койданаве, Баранавічах і г.д.). Рыхтавалі акцыю адплаты многія. Удала завяршылася апэрацыя па лініі Осіпавай.

Вось фрагмэнт апошняга інтэрвію Марыі Осіпавай:

— Ці далёка ад Менску знаходзіўся штаб атраду?

— 55 кілямэтраў. Выходзіла з гораду звычайна гадзіне а 10-й раніцы, а пад трэцюю, чацьвертую ўжо была на месцы. Пераначую, а раніцай назад. Босая хадзіла. Знаёмыя дапамагалі, як маглі, рабілі тапачкі зь вяровак, але звычайна хадзіла басанож.

— Марыя Барысаўна, як вам удалося пранесьці міны ў Менск?

— У атрадзе папрасіла дзьве ангельскія міны (ангельцы дапамагалі нам зброяй, дай ім Бог здароўя!) з 24-гадзінным заводам: мы мусілі загадзя зарадзіць міну, пакласьці і пайсьці з гораду — каб міна спрацавала, калі нас ужо ня будзе ў Менску... У той раз са мной хадзіла ў лес Марыя Грыбоўская, маці чатырох маленькіх дзяцей: напярэдадні я прастудзілася, усю ноч трызьніла, і калі раніцай устала ісьці ў атрад, мяне не адпусьцілі адну Мікалай і Алена Дразды, у якіх я жыла... Міны несла ў кошыку з брусьніцамі. Зьверху паклала яшчэ тры дзясяткі яек. Па форме міны былі паўкруглыя (як разрэзаная ўпоперак шклянка).

Заўсёды, калі адыходзіла з партызанскай зямлі, перш, чым перайсьці праз рачулку Вяча, станавілася на калені і цалавала зямлю: невядома, ці буду яшчэ тут стаяць... З Марыяй Рыгораўнай дамовіліся, што пойдзем паасобку. Яна таксама пацалавала апошні кавалачак партызанскай зямлі і пайшла полем. Калі яе ўжо амаль не было відаць, пераступіла рачулку і я... Падыходзячы да саўгасу «Вішнёўка», дзе быў буйны фашысцкі гарнізон, убачыла, як абшукваюць Марыю Рыгораўну. Ну, думаю, хай будзе як будзе. Паліцаі загадалі высыпаць з кошыка ягады — не дала: «Яны ж будуць у пяску, хто іх у мяне купіць?» Прыгразілі, што адвядуць да начальніка — я зрабіла выгляд, што радуюся: «Вось добра, я ведаю начальніка, я яму скажу, як вы народ супраць нямецкай улады бунтуеце!» Пашапталіся паліцаі, узялі ў мяне грошы на гарэлку ды яйкі на закуску. На разьвітаньне таую поўху далі — пару дзён у галаве гуло... А потым зь мяне ручаямі ліў халодны пот — быццам хто ўзяў кубак вады і палівай: адчувала, зь якога пекла выскачыла... На ўваходзе ў Менск зноў удалося адгаварыцца.

Праз тры дні я прыйшла да Алены Мазанік пад выглядам куплі туфляў. Я растлумачыла, як зарадзіць міну і як падкласьці. Правялі экспэрымэнт на яе ложку, паклалі міну пад спружыны. Яна села на ложак, пакачалася — міна трымаецца добра. Алена сьцьвярджала, што яе не правяраюць, але на ўсякі выпадак вырашылі, што панясе міну ня ў торбачцы, а каля грудзей. Назаўтра ў 10 гадзін раніцы я чакала яе ў скверыку ля тэатру Янкі Купалы: «Паклалі?» — «Так, усё ў парадку...»

... У Маскве Мазанік і Осіпаву зьмясьцілі паасобку. Выклікалі на допыты па адной. Як патлумачыла мне Марыя Барысаўна, ішла своеасаблівая спрэчка паміж разьведупраўленьнем Чырвонай Арміі і КГБ. Вельмі многія групы працавалі з заданьнем «на кабана»...

Залатую зорку Героя Савецкага Саюзу ўручылі Марыі Осіпавай у 1943 годзе. А праз паўстагодзьдзя, у 93-м, у гераіні скралі ўсе ўзнагароды.

— Як гэта здарылася?

— Пазванілі ў дзьверы. Спыталася, хто? «Мы з Савету вэтэранаў, зьбіраем матэрыял для кнігі.» Назвалі прозьвішчы... І я адчыніла. Два маладыя здаровыя мужчыны... Паглядзелі ўзнагароды, дакумэнты, папрасілі вады папіць. Пакуль хадзіла на кухню, яны ўсё забралі і зьбеглі, іх чакала машына...

Злодзеяў не знайшлі. Але летась на Дзень Перамогі прэзыдэнт Лукашэнка ўручыў легендарнай жанчыне новую Зорку Героя.

**Тацяна Падаляк**

# КУБЭ ЯК МАГІЛЬШЧЫК БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

Калі я толькі пачаў вывучаць матэрыялы акупацыйнага пэрыяду, у мяне ўзьнікла пытаньне: чаму пра Кубэ так шмат гаворыцца ў савецкай літаратуры, а аб яго пераемніку амаль нічога? Пераемнік Кубэ, групэнфюрэр СС генэрал-лейтэнант паліцыі Курт фон Готбэрг, фактычна зьяўляўся кіраўніком усіх эсэсаўскіх і паліцэйскіх сілаў ва Ўсходняй і Заходняй Беларусі, вылучаўся выключнай жорсткасьцю ў ажыцьцяўленьні тактыкі «спаленай зямлі», супраць якой свядома і рашуча выступаў Кубэ.



Паважаны мной Юры Туронак у сваёй манаграфіі грунтоўна распавёў пра складаны клубок супярэчнасьцяў у гітлераўскім кіраўніцтве. Дык чаму ж так шмат пісалі пра Кубэ? Бо спрабавалі схаваць сапраўдную небясьпеку, якая сыходзіла ад яго ініцыятываў. Трагедыя Кубэ як палітыка ў тым, што ён кіраваўся сапраўднымі інтарэсамі Нямеччыны, чаго нельга сказаць пра Гітлера, Гімлера, Коха і іншых. Я разумею, што гэты тэзіс выклікае пытаньні й сумневы, але мая думка грунтуецца на глыбокім аналізе.

Кубэ меў ня толькі вялікія амбіцыі, але й свой пункт гледжаньня на жыцьцё і ўсяляк адстойваў яго. Знаёмства зь яго выступленьнем на нарадзе кіраўнікоў генэральнага і акруговых камісарыятаў, якая адбылася ў красавіку 1943 г., паказвае, што ён ня толькі крытычна ставіўся да афіцыйнай усходняй палітыкі, але і больш, уступаў у адкрытую супярэчнасьць з поглядамі Гітлера наконт акупаваных тэрыторыяў. Гітлер ня даў і ня мог даць дазволу на стварэньне нацыянальных войскаў і ўрадаў, хаця ў тых умовах гэта магло б пайсьці на карысьць Нямеччыны. Сталін своечасова гэта раскусіў і супрацьдзейнічаў гэтаму.

Кубэ, ведаючы аб пазыцыі Гітлера, бачачы, як паліцыйныя ўлады блякуюць стварэньне БСА, усё ж заяўляе аб неабходнасьці стварэньня 300-тысячнага беларускага войска, адкрыцьця вышэйшых школаў, узбуйненьня Беларусі яе этнічнымі тэрыторыямі, стварэньня СБМ, а таксама прадстаўнічага органу — Рады даверу. У сваім дакладзе ён шмат і эмацыйна гаварыў аб гісторыі і культуры беларускага народу. Ён усяляк падкрэсьліваў, што беларускім нацыяналізмам, з-за ягонай слабасьці, лёгка кіраваць і што ён не ўяўляе небясьпекі для немцаў. «Беларусаў нельга параўноўваць зь іншымі народамі Остлянду, якія цягам свайго гістарычнага жыцьця заўсёды былі настроеныя супраць немцаў. Беларусы — адзіны народ, які не займаўся палітычнымі інтрыгамі супраць Нямеччыны. Літоўцы ненавідзяць нас... латышы і эстонцы прыязна сустракалі не таму, што гэта былі нямецкія войскі, а таму што гэтыя войскі вызвалілі іх ад бальшавікоў — усе яны гатовыя прамяняць нас на англічанаў».

Трагедыя беларускай нацыянальнай ідэі і яе палымяных носьбітаў, усіх тых, хто сьведама і ў адпаведнасьці з сваімі шчырымі пачуцьцямі або пад уплывам прапаганды дачыніўся да яе пад час вайны, заключаецца ў тым, што з самага пачатку яна была асуджаная на ахвярнасьць. Інакш тады й быць не магло. Паўтараю, і Гітлер, і Сталін разумелі слабасьць беларускага нацыянальнага руху. Таму ні ў Маскве, ні ў Бэрліне нацыянальную карту разыгрываць не сьпяшаліся. Сёньня мы ведаем, што яе хацелі выкарыстаць адно тыя, хто рыхтаваў замахі на Гітлера.

Я бяру сьмеласьць казаць, што Кубэ, спакусіўшы беларускі нацыянальны рух на супрацоўніцтва, стаў магільшчыкам беларускай нацыянальнай ідэі, якую на доўгія гады здыскрэдытавала супрацоўніцтва зь немцамі. Заўчасная пастаноўка любой важнай ідэі вядзе ўрэшце да яе кампрамэтацыі.

**Аляксей Літвін**

# ЮРЫ ТУРОНАК ПРА ЗАБОЙСТВА КУБЭ

У сваёй кнізе «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» Юры Туронак прыводзіць дакумэнты, якія сьведчаць, што Кубэ пратэставаў супраць мэтадаў акупацыі Беларусі: «Масавыя расстрэлы або паленьне жанок і дзяцей ня маюць нічога супольнага з гуманным вядзеньнем вайны. Колькасьць вёсак, зьнішчаных у час вялікіх паліцэйскіх апэрацыяў, перавышае колькасьць вёсак, спаленых партызанамі... Калі такімі мэтадамі дзейнічаць і надалей, няма чаго разьлічваць на ўціхамірэньне краю... Карныя апэрацыі часамператвараюцца ў крывавыя оргіі... Дагэтуль,— апроч абяцаньняў, у якія ня верыць ужо ніхто, — мы практычна не даем нічога народам Усходу» (рапарт Кубэ бэрлінскаму кіраўніцтву).

Кіраўніцтва СС спрабавала перашкодзіць пашырэньню зьвестак пра злачынствы карных атрадаў, затыкнуць Кубэ рот і прыбраць яго з Менску. Гінуць, нібыта «ад рук партызанаў», што немагчыма спраўдзіць, Эрэнляйтнэр і Саковіч, ад якіх Кубэ атрымліваў інфармацыю, на жыцьцё Кубэ робіцца замах: «пад сцэнаю Менскага тэатру была ўстаноўлена міна, разьлічвалася, што яна ўзарвецца ў той час, калі ў тэатры знаходзіўся Кубэ з нагоды ўрачыстага абвяшчэньня СБМ. Але выбух прагучаў пазьней, у час прадстаўленьня камэдыі Аляхновіча «Пан міністар», на якім гаўляйтэр ужо не прысутнічаў. Загінула 13 чалавек». Кіраўнікі СС і СД пісалі даносы на Кубэ ў Бэрлін: «... абразы, якія Кубэ кідае ў адрас СС або паасобных камандзіраў СС, даўно не ў навіну... Гаўляйтэр забараніў супрацоўнікам Генкамісарыяту кантактаваць з СД...» (Ліст Фон Готбэрга). Кубэ «ў глыбіні сваёй зьяўляецца праціўнікам нашых жыдоўскіх акцыяў» і «пакідаць генкамісара на ранейшай пасадзе немэтазгодна» (рапарт шэфа СД Штраўха).

Сьмерць Кубэ была наруку ня толькі савецкім уладам, але і кіраўніцтву СС, і Туронак не выключае вэрсію пра тое, што замах падрыхтавалі СС і СД ці, прынамсі, не зрабілі нічога, каб прадухіліць яго. У падтрымку гэтага ён прыводзіць той факт, што за тыдзень працы сьледчай камісіі СС было высьветлена, што Мазанак і Осіпаву перапраўілі ў Маскву, што, паводле Туронка, азначае, што СД мела інфарматараў у атрадзе, куды ўцяклі жанчыны. Гімлер, у сваю чаргу, сказаў, што толькі сьмерць выратавала Кубэ ад канцлягеру (Reitlinger G. The house built on sand. The conflicts of German policy in Russia 1939-45. London, 1960).

У БССР Кубэ ацэньвалі адназначна адмоўна, — піша Туронак, — тады як у колах беларускай эміграцыі ўвогуле ўстрымліваліся ад якіх-небудзь ацэнак. А Райтлінджэр, дасьледчык генацыду жыдоў у Эўропе, адзначаў, што дзеяньні Кубэ не далі плёну, але «сярод... буйных чыноўнікаў у Расеі Кубэ быў адзіны, хто пэўны час тармозіў дзейнасьць расісцкіх забойцаў. Патэтычны і няўдачлівы, тоўсты і юрлівы, гэты стараваты чалавек шмат месяцаў займаўся тым, на што не асьмельваўся ніводзін удзельнік антыгітлераўскай апазыцыі».

**А.В.**

# ОЎЛД БЭЙЛІ СУДЗІЦЬ АНТОНА САВАНЮКА

Былы камэндант паліцыі з палескага мястэчка Дамачава, а пазьней чыгуначны работнік з паўднёва-усходняй ускраіны брытанскай сталіцы Энтані Саванюк абвінавачваецца Цэнтральным крымінальным судом Лёндану, вядомым як Оўлд Бэйлі, у забойстве чатырох габрэяў пад час другой сусьветнай вайны, а таксама ў актыўным і добраахвотным пасобніцтве ажыцьцяўленьню генацыду. У справе фігуруюць канкрэтныя прозьвішчы забітых Саванюком — Шымко, Барлас... Паміж 19 верасьня і 31 сьнежня 1942 году было зьнішчанае трохтысячнае дамачаўскае гета. Пасьля таго, як жыдоў пагналі на расстрэл, паліцэйскі атрад Саванюка праводзіў «зачыстку» мястэчка... Сам Саванюк адмаўляе сваю віну.

У верасьні таго ж году былі зьнішчаны 54 выхаванцы і выхавацелька Дамачаўскага дзетдому для дзяцей савецкіх работнікаў, і хаця ніхто канкрэтна не сьцьвярджае, што Саванюк меў дачыненьне і да гэтага злачынства, многія дамачаўцы, якія выступалі на судзе, зазначалі, што падобныя крывавыя расправы звычайна не абыходзіліся без маладога і жорсткага камэнданта мясцовай паліцыі, які добра ведаў усе мясцовыя сьцяжынкі і хованкі.

– У вас столькі валасоў на галаве няма, колькі ён забіў людзей, — так ацаніў уклад Саванюка ў справу зьнішчэньня людзей 75-гадовы Фёдар Зань, былы школьны таварыш будучага паліцая. Фёдар Зань бачыў, як Саванюк адводзіў на расстрэл і сям'ю ягонай цёткі Хвядоры за падазрэньне ў сувязях з партызанамі.

На выязное паседжаньне Цэнтральнага суда Лёндану па ягонай справе, якое адбылося 16 лютага ў Дамачаве, Энтані Саванюк не прыехаў, застаўся пад хатнім арыштам. Калі б яго ўзялі і прывезьлі на радзіму разам з 12 прысяжнымі і судзьдзямі, дык адразу за памежным шлягбаўмам яго арыштавалі б прадстаўнікі беларускай пракуратуры. Пасьля вайны ў Беларусі супраць Саванюка была ўзбуджаная справа, але паколькі ён зьнік, яе закрылі. У роднай вёсцы яго памятаюць як Андрэя Саланюка, у Англіі ён зьмяніў імя.

Выезд суда ў Беларусь быў першым у гісторыі пасяджэньнем брытанскага суда за межамі краіны. Рэч у тым, што прыцягнуць Антона Саванюка да крымінальнай адказнасьці стала магчымым толькі пасьля прыняцьця ў 1991 годзе спэцыяльнага закону аб крымінальнай адказнасьці за ваенныя злачынствы, паводле якога ў Вялікай Брытаніі могуць быць асуджаныя і людзі, што ўчынілі ваенныя злачынствы за межамі краіны. Саванюк – першы, хто падпаў пад гэты закон. Супраць былога жыхара Міра Сымона Серафіновіча справа была ўзбуджаная ў 1996 годзе, але суд вырашыў, што 85-гадовы Серафіновіч занадта стары і хворы, каб удзельнічаць у працэсе. Неўзабаве той і памёр ад хваробы Альцгаймэра. Сівы пэнсіянэр Саванюк таксама ходзіць з кіёчкам, і на выгляд ягоны зусім ня скажаш, што на ягонай душы такія жудасныя злачынствы.

Сьледзтва цягнулася больш за два гады, было апытана 376 чалавек, у тым ліку нямала жыхароў Дамачава. 16 дамачаўцаў у якасьці сьведкаў езьдзілі ў Лёндан, дзе й змаглі пабачыць свайго былога земляка. 75-гадовы Фёдар Зань на свае вочы бачыў, як Саванюк расстраляў з аўтамату паўтара дзясятка габрэек. Тутэйшы пэнсіянэр Іван Баглай быў сьведкам таго, як Саванюк вёў на расстрэл габрэйскую дзяўчынку, біў яе бярозавым кіём і прыкрыкваў «Шнэль, шнэль!» Баглай у свой час і апазнаў Саванюка па шнары на твары.

– Нямецкай мовы Саванюк зусім ня ведаў, аднак гэтае слоўца выкарыстоўваў, — кажа ён.

У Дамачава цяпер жыдоў амаль няма, прынамсі, тутэйшых, усе засталіся ў вялізнай брацкай магіле ў лесе непадалёк. Магіла дагледжаная, на ёй стаяць абэліскі. Помнікаў нявінным ахвярам у Дамачаве шмат, але найбольш уражвае надпіс, зроблены нечай рукой на сьцяне прыватнага будынку ля мясцовай царквы. Напісаныя сіняй фарбай вялізнымі літарамі словы нагадваюць усім, што тут нацысты забілі 3800 чалавек... Гэта як знак шчырага ачышчэньня дамачаўцаў ад плямы, зробленай Саванюком і іншымі злачынцамі, падобнымі да яго.

Суд над былым паліцаем працягнецца яшчэ шэсьць-сем тыдняў. Саванюка ўрэшце можа чакаць пажыцьцёвае зьняволеньне. Дамачаўцы ў адзін голас выказваюцца за сьмяротны прысуд, а нехта прапанаваў нават прыкаваць яго ланцугом да сасны на брацкай магіле ахвяраў, каб ён пільнаваў яе да самага скону. Іншы ж прапанаваў перавезьці яго сюды, на радзіму, і прымусіць жыць на беларускую пэнсію... Ды гуманнае брытанскае правасудзьдзе не прадугледжвае такіх жорсткасьцяў.

**Валер Каліноўскі, Дамачава—Менск**

# САВАНЮК – ГЭТА МЫ

*Працяг са старонкі 1.*

Мяркуючы з прэсы, суд над Саванюком ня стаў нагодай для пераацэнак, як ня быў ёю нядаўні працэс над паліцыянтам зь Міра Сымонам Серафіновічам, тамсама, у Вялікай Брытаніі.

У Эўропе такія працэсы набываюць маральнае і палітычнае значэньне. Сярод апошніх прыгадваюцца суд над эсэсаўцам Прыбке ў Рыме (апраўданы за недастатковасьцю доказаў, на што левыя сілы адказалі двухсоттысячнай начной маніфэстацыяй пратэсту), працэс Папона ў Францыі (апраўданы, бо як службовая асоба адно выконваў загады), працэс Дэм'янюка ў Ізраілі (віна не доказаная; украінскімі нацыяналістамі расцэньваўся як правакацыя КГБ дзеля дыскрэдытацыі ўкраінскага нацыянальнага руху і д'ябалізацыі ўкраінцаў). Любы такі працэс, бачыце, узьнімае таксама пытаньне пра калектыўную нацыянальную адказнасьць і пераемнасьць пэўных палітычных сілаў. Заўсёды знаходзяцца тыя, каму выгаднейшае маўчаньне, чым ачышчэньне. Іншы вымер судам над злачынцамі супраць чалавецтва тое, што на лаўцы падсудных – старыя, нямоглыя людзі, даўнія, забытыя факты.

Пакуль афіцыйны Менск дамагаецца, каб сучасную беларускую дзяржаўнасьць лічылі выключна працягам БССР, пытаньне выглядае хутчэй рытарычным, але ж будучае беларускае кіраўніцтва, якое пяройме ўсю нацыянальна-дзяржаўную традыцыю, мусіць будзе прынесьці жыдоўскаму народу прабачэньні ад беларускага народу, як гэта зрабілі кіраўнікі Літвы, Францыі, Нямеччыны.

Калі на помніках замест «Тут ляжаць 22 000 замучаных жыдоў» пішуць: «Тут ляжаць 22 000 замучаных савецкіх грамадзянаў», тады на платах зьяўляюцца надпісы «БНФ – жыды» і «Евреев – в Освенцим». Маўчаньне бывае саўдзелам.

**Андрэй Дынько**

*Працяг са старонкі 1.*

**гэтую тэму, паўжартоўная клясыфікацыя народаў паводле беларускага сьветапогляду. Напісаў гэтае апавяданьне вядомы паэт і сьвятар Казімір Сваяк. Называлася яно «Што Янка-ваяка казаў» і скончалася ацэнкай беларусаў.**

**— Ну а мы, што Янка пра нас казаў?**

**— А чорт яго ведае — не пытаўся.**

**У гэтым «чорт яго ведае — не пытаўся» гучыць пэўнае прароцтва на цэлае стагодзьдзе, калі беларусы паступова страчвалі сваю суб'ектнасьць. І тое, што мы маем сёньня, — гэта якраз несуб'ектны погляд, дакладней, адсутнасьць погляду. Часьцяком людзі на менскіх вуліцах, да якіх з нашым пытаньнем зьвяртаўся Севярын Квяткоўскі, проста не разумелі, чаго ад іх хочуць. Маўляў, як можна кагосьці любіць ці не любіць і, самае галоўнае, — навошта пра гэта гаварыць?! Нібы словамі філёзафа Валянціна Акудовіча з вокладкі ягонай кнігі беларус імкнецца заявіць адваротнае ад таго, што сьцьвярджаў напачатку стагодзьдзя: «мяне няма».**

**Калі мы паспрабуем сыстэматызаваць адказы нашых выпадковых рэспандэнтаў, дык атрымаем карціну сымпатыяў і антыпатыяў не нацыянальных, а палітычных і геапалітычных. Што такое любоў да праваслаўных і нелюбоў да «прыбалтаў»? Ясна, што гэта не суб'ектнае меркаваньне, а ўсяго толькі ўяўленьне, сфармаванае тэлевізіяй, найперш расейскай. Той, хто знаёмы зь літоўцамі, латышамі й эстонцамі, ніколі ня будзе любіць або не любіць іх усіх разам. А той, хто знаёмы з уласным народам, у якім ёсьць і праваслаўныя, і каталікі, і пратэстанты, ніколі ня стане любіць нейкую адну канфэсійную групу, інакш гэта ўжо не нацыянальны погляд. Таму гутарка йдзе пра няведаньне прадмету і плён шматгадовае прапаганды, якая імкнулася адчужыць беларусаў ад самых сябе і ад іхных балтыйскіх суседзяў. Плёнам гэтага адчужэньня стала нацыянальная абыякавасьць, прыкрытая лёзунгам сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, які нібыта да ўсіх патрабаваў ставіцца аднолькава. Гэта значыць, ніяк.**

**Паспрабую зрабіць высновы. Пытаньне пра беларускія філіі й фобіі, якое выглядае сёньня для многіх недарэчным або несвоечасовым, насамрэч ёсьць правакацыяй суб'екта. Гэта толькі адно пытаньне, якое вылучае свабоднага і адказнага грамадзяніна з натоўпу абыякавых да сябе і да ўсяго сацыяльных утрыманцаў, прадстаўнікоў насельніцтва, якое не пачуваецца нацыяй. Іншым разам мы можам гаварыць, напрыклад, пра стаўленьне да прыватнае ўласнасьці або да партыі ўлады і атрымаць у адказ той самы няўцямны позірк — навошта яны пра гэта пытаюцца і што гэта ўсё значыць? І тады ўжо мы самі зразумеем, што замінае чалавеку выказацца пра свае сымпатыі й антыпатыі або нават гэтыя сымпатыі й антыпатыі мець. Урэшце гутарка не пра тое, што вы некага павінны абавязкова не любіць або ненавідзець. Гутарка толькі пра ваша самастойнае меркаваньне. Тое, якое ёсьць у палякаў, пра што гаварылася напачатку, і якога няма ў нас. Бо скласьці яго нам замінае боязь, якая амаль незаўважна зноў запанавала ў нашым постсавецкім грамадзтве, і сацыяльная несамастойнасьць асобна ўзятага чалавека. Гэта менавіта тыя чыньнікі, якія разбураюць нацыю, а ўрэшце і асобу. Каб пазьбегнуць разбурэньня, варта часьцей задаваць сабе такія пытаньні, нават калі на першы погляд яны ўяўляюцца недарэчнымі.**

**Сяргей Паўлоўскі**

# БЕЛАРУСКІЯ ФІЛІІ І

Неяк мне давялося пачуць, што адваротны бок так званай беларускай талерантнасьці — гэта бытавая ксэнафобія. Таксама ёсьць пашыранае меркаваньне, што сынонім славутай беларускай «памяркоўнасьці» — гэта звычайная абыякавасьць. Адзін мой прыяцель, які добра паезьдзіў па сьвеце, заўважыў, што пры сустрэчы за мяжой украінцы забываюцца на падзел на «східників» і «західників». У той час як беларусы падазрона глядзяць адзін на аднаго.

Узгадайце часы кіраваньня С.Шушкевіча. Тады даходзіла да сьмешнага. У якую суседнюю дзяржаву спадар Станіслаў ні прыяжджаў, ён казаў, што менавіта гэты суседзкі народ самы блізкі й родны беларусам. Асабліва было цікава параўноўваць польскія й расейскія інтэрвію колішняга сьпікера — проста супрацьлеглыя выказваньні. Ня дзіва, што ў колішнім СССР беларусы былі «любімчыкамі», кшталту славутага чырвонца, які «падабаецца ўсім». Выглядае, што такое паўінфантыльнае адчуваньне па-ранейшаму кіруе многімі беларускімі грамадзянамі і сёньня. Тым часам рэйтынг беларусаў пачаў падаць, прычым, ня толькі ў палякаў ці літоўцаў, для якіх непрыймальная татальная стагнацыя РБ. Украінцы расчараваныя дэкляратыўнай русафіліяй браткоў-беларусаў, а «любвиобильные» расейцы незадаволеныя беларускай шлюбнай нерашучасьцю, спажывецкім падыходам да «сьветлай» ідэі «ўзьяднаньня».

Ці хвалюе беларускіх грамадзянаў уласны нацыянальны імідж? Я спытаўся ў менскіх мінакоў пра іхнае ўяўленьне аб беларускіх нацыянальных сымпатыях і антыпатыях. Амаль ніхто з рэспандэнтаў, незалежна ад узросту, полу і сацыяльнага стану ня здолеў даць выразны адказ. Таксама аніводзін не сказаў, што асабіста ён мае якія-небудзь нацыянальныя сымпатыі альбо антыпатыі. Увесь час гаворка йшла пра гіпатэтычнага беларуса, які жыве ня побач, а дзесьці. Звычайна людзям прасьцей было даваць прыклады ад адваротнага:

— Новы расейскі рух РНЕ выглядае вельмі пагрозьліва. У нас гэтых каранёў мяна абсалютна.

Гэты хлопец казаў, што ў нас у прынцыпе ня можа быць экстрэмізму на нацыянальнай глебе.

Спатканы мною маёр беларускіх паветраных сілаў лічыць, што калі й ёсьць да каго сымпатыі, дык у першую чаргу да праваслаўных народаў. Што да нэгатыву, дык вось ягонае меркаваньне наконт антысэмітызму:

— Антысэмітызм праяўляецца толькі ў асобах. Гэта не народны антысэмітызм, гэта асабовы. Нейкая адна індывідуальнасьць выкрэслівае сябе з грамадзтва, і ўсё.

Раўналетак маёра быў нешматслоўны, але ўпэўнены ў сабе:

— Да ўсіх — з сымпатыяй.

А вось два маладыя спадары, думаючы над адказам, здавалася, ажно напяліся ад напругі. Нарэшце, адзін зь іх прыгадаў:

— Антыпатыя ёсьць да многіх народаў. Антыпатыя, як звычайна, да ўсіх каўказцаў, да суседзяў — Прыбалтыка.

Тэма «асобаў каўкаскае нацыянальнасьці» ў далейшым узьнікала яшчэ некалькі разоў, а пра антыпатыю «прыбалтаў» узгадала толькі адна кабета, якая сказала, што яна расейка, а ейны муж паляк:

— Да прыбалтаў... ну, калі толькі да эстонцаў. Я чула — да латышоў, гэта тычылася людзей, якія там жылі.

Сама гэтая жанчына асабіста ніколі не сустракалася зь якімі-небудзь праявамі ксэнафобіі.

Дзяўчына-студэнтка, як і большасьць іншых, пачала свой адказ з цытаваньня афіцыйнай тэзы аб «фірмовай» беларускай талерантнасьці. Тады я запытаўся, што яна пад гэтым разумее:

— Спакойны народ. Баязьлівы... Якому ня хочацца ўлазіць кудысьці ў перадзелкі: мітынгі, стачкі...

Паразважаўшы, дзяўчына дадала, што калі нікуды ня «ўлазіць», дык нічога й не атрымаеш:

— Так і атрымліваецца — што мы маем?..

Чалавек, які стаяў побач зь дзяўчынай на тралейбусным прыпынку, сказаў, што беларусы ставяцца да ўсіх аднолькава абыякава, а праз хвіліну іншы спадар дадаў:

— Ня ведаю, па-мойму, у Беларусі самі сябе ня любяць.

Нядаўна ў «Нашай Ніве» прагучала думка аб тым, што беларусаў яднае шэраг комплексаў. На мой погляд, адзін зь іх — самаедзтва. Сапраўды, як можна кагосьці любіць ці ненавідзець, калі абыякавы да самога сябе? Слова «абыякавасьць» — ключавое для разгадкі шэрагу беларускіх «таямніцаў». Можа, менавіта праз гэтую якасьць беларусы прайшлі праз жорсткія выпрабаваньні, і захавалі сябе ў гісторыі? Калі так, узьнікае іншае пытаньне — навошта?

**Севярын Квяткоўскі**

**Казімер Сваяк**

## Што Янка-ваяка казаў

– Што чуваць?

– Эт, нічога. Вось Янка з вайны вярнуўся. Дзе ён ня быў, хай Бог бароніць. Француз, кажа, найразумнейшы. Там нават малыя дзеткі па-французску балбочуць, а багаты аж страх: нават старыя бабы ў капелюшох ходзяць. Ангельцы дык найбольш памаўчаць любяць, а калі што гавораць, усё вусны складаюць, усёроўна як бы плюнуць маніліся. Італьцы – народ гарачы, чорны, як цыганы. Зусім стыду ня маюць, ані ўстаіць на месцы, як бы рабакі меў. Туркі – народ бабскі, бабы іх сапсулі, бо маюць па дзьве й больш... нават самі спадніцы носяць, хоць вусы людзкія маюць. Грэкі – хітруны. Грэк і жыда зманіць, а махляр – ня дай ты Божа!.. Чэх – таксама спрытны. Кажуць, што як Калумб прыехаў у Амэрыку, спаткалі яго чэхі й кажуць: «Мы сэм тады»... Славянец – чысты і бойкі, толькі гаворыць, быццам бобу аб'еўся. Немцы – старыя лгуны. Народ разумны, толькі горды, як люцыпар, а замест сэрца носіць у грудзях гной. Палякі – паны вялікія. У іх так яшчэ ў калысцы ў портачках ходзяць. Украінцы – нічога людзі, толькі сьмешныя... хахлы, а як хто ня верыць, што яны ўкраінцы, дык проста ў зубы б'юць. Літвіны – нішто сабе. Але як заздлуе, то не даруе. Расейцы – гэта малы народ ды вялікіх інтарэсаў...

– Ну а мы, што Янка пра нас казаў?

– А чорт яго ведае – не пытаўся.

# «МОЙ ДРУЖА ЗЫГФРЫД...»



Неяк мы з прыяцелем, едучы на аўтамабілі зь Літвы ў Беларусь, вымушаныя былі гадзіны дзьве змарнаваць на мяжы. Усе тэмы дня перагаварылі, анэкдоты пераказалі, і я, ад няма чаго рабіць, уключыў прыёмнік. Каб пачуць голас блізкай радзімы.

Радзіма перадавала радыёспэктакль пра фашыстаў, запісаны гадзе так у 79-м. Злыя фашысты ляцелі бамбіць Маскву, ведучы свае размовы, натуральна ж, на мове беларускага радыё.

«Нам выпаў вялікі гонар, Фрыдрых. Мы першыя скінем свой сьмяротны груз на бальшавіцкую сталіцу». «Так, Зыгфрыд, ракавую гадзіну для гэтых дзікуноў прабіць выпала нам». «Эх, шкада, мяне ня бачаць зараз мая Марта й маленькі Франц».

«Заўваж, — сказаў мне сябра, — варта перарабіць імёны пэрсанажаў, замяніць Фрыцаў на Алесяў, як гэтая нафталінавая пастаноўка ператвараецца ў супэрсучаснае political fiction. 2041-ы год, беларуская авіяцыя пануе ў расейскім небе. Гістарычны рэванш і гэтак далей».

І сапраўды, марудны час чаканьня паляцеў весялей. «Эх, хутчэй бы ўжо наша перамога, мой сябар Фрыдрых». «Не хвалюйся. Калі ўсё пойдзе такімі тэмпамі, дык празь месяц загонім рускага мядзьведзя за Ўрал. Ад гэтых пляна ў займае дых».

Надышла наша чарга. «Ну што, мой дружа Зыгфрыд, паляцім, пабамбім маскалёў?.. — перадражніў я радыётэатар і дадаў сур'ёзна. — Каторы год жыву ў самай прарасейскай краіне сьвету, але калі ў розных жыцьцёвых сытуацыях усплывала раптам мая расейская нацыянальнасьць — хаця б які знак прыязі! Усьмешка, ці пацяпленьне ў інтанацыі». «Дык што, табе было б лепш, калі б ты сустракаў адчужэньне?» «Напэўна, усім было б лепш. Не парушаліся б правілы гульні. Беларусам самім лёсам і гісторыяй паказаны бок, адкуль трэба чакаць небясьпекі. І менавіта людзі адтуль павінны адчуваць сябе тут «не в своей тарелке».

«Дык, па-твойму, нацыю робяць яе фобіі?» «Напэўна, так. Фобіі, скіраваныя вонкі. Нацыя толькі тады становіцца нацыяй дзяржаўнай і паўнавартаснай, калі дакладна ведае — адкуль чакаць набегу й каго клікаць на дапамогу.

Палякі зь літоўцамі гэта ведаюць. А ў нас ужо сто гадоў як сфэра нацыянальных прэтэнзіяў замкнулася на саміх сабе. Беларусафілы беспасьпяхова змагаюцца з беларусафобамі. Можна напісаць мільён тэкстаў пра тое, якія мы таленавітыя хлопцы альбо наадварот — якія бяздарныя. Але дух ад гэтага не займе. Духу патрэбны вораг, якога трэба зьнішчыць». «Ну ты й фашыст! Дзе ж яго ўзяць, таго ворага? Няйнакш у Смаленску ці ў Вільні?» «Думаю, ён хутка сам заявіць пра сябе. А пра тое, дзе знаходзіцца Вільня, усе павінны проста памятаць. Каб мы са сваімі віленскімі нумарамі на аўто не былі для беларускага мытніка людзьмі чужымі. Таму, што едзем ня з «рускаязычнай рэспублікі». «Ведаеш, — сказаў мне сябра напрыканцы, — калі ў цябе раптам будзе сын, назаві яго Фрыдрыхам. Ці Адольфам. Каб дух заняло».

Дабраўшыся да сваёй сталіцы, мы даведаліся, што фашысты ўжо ў горадзе. Тыя фашысты, якія нашай мовы не разумеюць.

**Зьміцер Бартосік**

# ФОБІІ ЯК ДЗЕЦІ

На самае простае пытаньне «*што* ты любіш?» дзеці найперш пералічваюць стравы, якія ім даспадобы, і толькі пасьля задумляюцца над падтэкстам пытаньня. На запыт «*каго* любіш?» дзеці пералічваюць бліжэйшых сваякоў і папулярных тэлевізійных пэрсанажаў.

На пытаньне «*каго* любіш?» дарослыя адкажуць як і дзеці. Толькі старэйшых дарослы беларус найперш «шануе». Як і дзеці, дарослыя любяць тэлегерояў. Асабліва тых, каго даўно ведаюць. Напрыклад, вядучага праграмы «Клюб падарожнікаў» зь беларускім прозьвішчам — Сянкевіча. Аднак тых, хто надта часта мільгае на экране, ня любяць. У гэтым адна з прычынаў нелюбові да Гарбачова: «Во — ізноў вылез!» Беларускай пашанаю карыстаюцца больш разважныя дзеячы культуры, лепш зь сівізною, а не палітычныя дзеячы, манеры якіх падобныя на манеры герояў рэклямы. А рэклямы беларус ня любіць. Самарэкляма раздражняе яшчэ больш.

Для нашых суайчыньнікаў больш любімыя тыя народы, якіх яны лічаць «раднейшымі». А таксама тыя, якія маюць станоўчы вобраз на экранах тэлевізараў: заходнеэўрапейцы, для кагосьці, магчыма, яшчэ амэрыканцы ці японцы.

Беларус — скептык. І таму ягоны прыватны досьвед заўсёды пераважае над ідэалёгіяй альбо «агульнапрынятымі» ўяўленьнямі. Адзін стары беларус распавядаў мне як у часе вайны эстонскія жаўнеры, што ахоўвалі нямецкія эшалёны з прымусовымі работнікамі, дазволілі яму забраць зь няволі свайго брата. Больш ён іх ніколі ня бачыў, але захаваў добрую памяць пра гэты народ. А вось мае сваякі, колькі б іх не пераконвалі, ня любяць літоўцаў з тае прычыны, што ў часе вайны літоўскія жаўнеры зладзілі ў іхнай вёсцы танцы, дзе самі ж ігралі й танчылі зь дзяўчатамі, а пасьля атачылі пляцоўку, загналі вясковую моладзь у вагоны й адправілі ў Нямеччыну. У XX ст. беларускае ўяўленьне пра іншых і тчэцца з гэткіх вузялкоў на ўспамін. Нехта бачыў у вайну італьянцаў, другі — працаваў у Францыі, трэці — сядзеў у Сібіры з чачэнцамі... Калі амаль усе жыды пакінулі Беларусь, большасьць пра іх пачала шкадаваць. Бо іх усё ж добра ведалі і збольшага разумелі.

Беларуская *не*любоў — рэч зьменлівая. Разгайданае праз расейска-савецкую прапаганду варагаваньне з палякамі насіла абстрактны характар, а сёньня наогул сьціраецца са сьведамасьці. Як і нянавісьць да немцаў ці «ізраільскіх ястрабаў і іх заакіянскіх пакравіцеляў». Беларусы ўсё ж не даўмеліся тэарэтычна абгрунтаваць прынцыповую нялюбасьць да тае ці іншае нацыі, што ёсьць ва ўсіх нашых суседзяў.

Беларус ня любіць таго, чаго не разумее. Іншых моваў, тэхнічных навацыяў і палітычнага аптымізму... Гэтыя рэчы прынесьлі ў Беларусь акупацыі, экалягічныя бедствы й страчаны давер да ўладаў... Гэтак малыя дзеці ня любяць прасаў, аб якія можна абпячыся, і нажоў, аб якія можна парэзацца. Але сталеючы, дзеці забываюць свае боязі й антыпатыі, усё болей разумеючы сьвет, які іх атачае.

**Сяргей Харэўскі**






# РАЗЬВІТАНЬНЕ З ГІСТОРЫКАМ

Мінулага аўторка Польшча разьвітвалася са сваім Гісторыкам. Са сваім — і з нашым. У Варшаве хавалі Аляксандра Гейштара, памерлага 9 лютага, пасьля колькіх месяцаў цяжкай хваробы.

Шляхецкі род нябожчыка быў добра вядомы ў Беларусі з даўняга часу. Продкі ягоныя жылі ў вёсачцы Пласковічы пад Клецкам яшчэ ў трагічным для нас XVII стагодзьдзі. Бацькі мелі дом у Ізьбішчы, што на Лагойшчыне. Будучаму адэпту гісторыі лёсіла нарадзіцца ў 1916 годзе ў Маскве, куды Гейштараў закінула вайна. Калі ж Польшча здабыла незалежнасьць, пасяліліся яны ў Варшаве. Аляксандар пайшоў штудыяваць гісторыю ў Варшаўскі ўнівэрсытэт, потым выехаў на стыпэндыю ў Парыж, што й вызначыла дарогу вучонага.

Вайну спаткаў афіцэрам Польскага войска, а пасьля акупацыі краіны далучыўся да падпольля, пэўны час узначальваў інфармацыйны аддзел Арміі Краёвай. Глыбока канспіраваная палітычная дзейнасьць у паднямецкай Варшаве спалучалася з праўдзівай навукай. Выкладаў у Таемным Варшаўскім унівэрсытэце, у падпольлі ж у 1942 абараніў доктарскую...

Як праз вайну, так і ў гады культу ўмеў быць Грамадзянінам і Вучоным. Талент найбольш раскрыў пасьля 1956, калі кантроль над польскай гістарыяграфіяй зьменшыўся. Цэлую эпоху склалі гады, калі быў дырэктарам Інстытуту гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту, дырэктарам Каралеўскага замку. Некалькі кадэн-



цыяў заставаўся прэзыдэнтам Польскай Акадэміі Навук. Абіраўся сябрам Швэдзкай Каралеўскай АН, Францускай АН, быў доктарам ганорыс каўза Сарбоны ды іншых самых прэстыжных унівэрсытэтаў Эўропы, старшынём Міжнароднага Камітэту гістарычных навук. Стаў клясыкам, праз якога польскую мэдыевістыку ведалі ў цэлым сьвеце.

Днямі Адам Мальдзіс прыгадаў акалічнасьці афіцыйнага візыту Аляксандра Гейштара ў Беларусь у 1992 годзе, калі падпісвалася дамова пра супрацоўніцтва нашых Акадэміяў. Гісторыку захацелася заехаць у вёску сваіх бацькоў. Там да чужога аўта і незнаёмых людзей адразу ж павыходзілі вяскоўцы. Пачуўшы, хто прыехаў, яны прыпомнілі «пана Гештара», сталі шчодра частаваць гасьцей ежай ды гарэлкай. Разгаварыліся, засьпявалі, прычым прэзыдэнт ПАН сьпяваў і даўнія беларускія песьні. У той гамане і высьветлілася, што сабраліся яны акурат на хатнішчы Гейштараў...

Толькі аднойчы, у 1996-м, мне выпала непасрэдна слухаць Аляксандра Гейштара. Была гэта Яго публічная лекцыя на ўрачыстым наданьні званьня доктара ганорыс каўза Люблінскага Каталіцкага ўнівэрсытэту. А здаецца, быццам асабіста ведаў і чуў яго так даўно. Можа таму, што ўвасабляў ён у маіх вачах **майго** Гісторыка.

Не хаваўся ў Гісторыю як казку, прыгожую ідылію былога, а наадварот, мінулае вяртаў у сёньня. Яго Гісторыя была наскрозь ангажаваная ў змаганьні і спрэчкі рэальнага жыцьця.

Праг пазнаваць айчыну і ў архіве, і ў археалягічным раскопе, працаваў перадусім дзеля яе, хоць быў так далёкі ад пустога патрыятычнага гаварэньня. Бы ўласным прыкладам сьведчыў, што калі гістарычная навука можа быць добрай, то яна мусіць быць нацыянальнай, як і ўнівэрсальнай. Разумеў і даводзіў, што гісторыя ня вылечыць ніякага народу ад фрустрацыі. Што яе нельгаператвараць у прапаганду, міт, цацку. Лячыцца мусім адно пазнаньнем і працай. Працай на заўтра...

Быў з тых, пра каго казаў Мантэск'ё: «Заўсёды стаяць за праўду, нават у справах сваёй айчыны. Бо кожны грамадзянін мае абавязкам памерці за айчыну – і ніхто не абавязаны для яе хлусіць».

**Генадзь Сагановіч**

# ДА ГІСТОРЫІ ДЫПЛЯМАТЫІ



*Алесь Алехнік. Пад бел-чырвона-белым (memento patriam). — Вільня: Выдавецтва Таварыства Беларускай Культуры «Рунь», 1999. — 224 с.*

Зерне нацыянальнае сьведамасьці можа запасьці ў чалавечае сэрца па-рознаму. Нехта, начытаўшыся кніг, сам выпешчвае яго ў сабе. Іншы прымае гэтае зерне зь сяброўскіх рук, імкнучыся сьпяліць яго супольна. Але, бадай, невынішчальным становіцца гэтае зерне, калі пасеянае яно родным, крэўным духам. Алесь Алехнік згадвае: калі яму было блізу чатырох гадоў, ягоны дзед, Каленік Алехнік, на ўнукавы роспыты адказаў: «Мы беларусы!» А.Алехнік, аўтар новае кнігі, — адзін з выбітных дзячоў беларускай эміграцыі, генэральны сакратар Беларускага Аб'яднаньня Аўстраліі.

Лёс А.Алехніка, які нарадзіўся на Піншчыне, за чатыры дзясяткі кіляметраў ад колішняе польска-савецкае мяжы, пакручасты й складаны, сьведчыць пра трываласьць перакананьняў таго пакаленьня беларусаў, што спасьцігалі беларускую школьную навуку ў несавецкіх школах. Пасьля было ўцякацтва, лягеры ў Нямеччыне, змаганьне за навуку. І, нарэшце, берагі далёкае Аўстраліі, што стала домам яму й бацькам. Але й на іншым канцы сьвету гэты чалавек штодзённа працаваў дзеля Беларусі.

Пачаткам сваёй зьнешнепалітычнай дзейнасьці сп. Алехнік называе 1948 год, калі яго, дзевятнаццацігадовага хлопца зь лягеру Міхельсдорф, улучылі ў Беларускую рэпрэзэнтатыўную службу на эміграцыі. У ягоныя абавязкі ўваходзіла пашырэньне праўды пра Беларусь сярод людзей рознае нацыянальнасьці, што воляю лёсу апынуліся паміж межаў і дзяржаваў, у лягерох для «перамешчаных асобаў». Пазьней, у Аўстраліі, зь сярэдзіны 50-х сп. Алехнік, які ачольваў тутэйшую беларушчыну, стаў адным з актывістаў Антыкамуністычнага блёку народаў, шматкроць абіраўся дэлегатам на кафэрэнцыі Антыкамуністычнай лігі народаў Азіі, Сусьветнай антыкамуністычнай лігі і Сусьветнага антыкамуністычнага аб'яднаньня. Менавіта дзякуючы яму ў рэзалюцыях гэтых арганізацыяў абавязкова гучала патрабаваньне незалежнасьці Беларусі.

«З таго вопыту, які я ўжо здабыў, удзельнічаючы ў розных міжнацыянальных мітынгах-нарадах, я знаў, што слабога, нерашучага, заўсёды наракаючага ніхто не любіў і любіць ня будзе».

Спадар Алехнік нястомна навязваў міжнародныя кантакты, даносіў беларускі боль і цьвёрдае перакананьне ў незалежнай будучыні нашае краіны да самых далёкіх куткоў сьвету, ліставаўся й абменьваўся інфармацыяй з калегамі з дзясяткаў краінаў на ўсіх кантынэнтах. За гады грамадзкай дыпляматычнай працы ён меў сталыя дачыненьні з прэзыдэнтамі і прэм'ер-міністрамі Аўстраліі, Паўднёвага Віетнаму, Карэі, Філіпінаў, Вялікай Брытаніі, Літвы (К.Прунскене), Харватыі, старшынём Сэйму Літвы В.Ландсбэргісам, ангельскай каралевай Элізабэтай ІІ... Невыпадкова ў пасьляслоўі рэдактар кнігі Алег Мінкін кажа: «Мачыма надыйдзе час, калі кніга А.Алехніка, вынік жыцьцёвага шляху й шырокай грамадзка-палітычнай дзейнасьці аўтара на карысьць Бацькаўшчыны, стане настольнаю кнігаю для дыпляматаў сувэрэннай, вольнай і незалежнай Беларусі».

Яшчэ ў 1990 годзе спадар Алехнік накіроўваў лісты Кебічу і Шушкевічу. Адказ прыйшоў праз два гады, ад кіраўніка МЗС П.Краўчанкі: «Бацькаўшчына будзе заўсёды ўдзячная за тое, што Вы зрабілі для яе».

Удзячнасьць была нядоўгаю. І сёньня вэтэран-дыплямат прамаўляе пры канцы свае кнігі тыя самыя словы, што і 50 гадоў таму: «Сьмерць ворагам і няхай жыве вольная й незалежная Беларусь!»

*С.Х.*

# СУПОЛЬНАЯ БУДУЧЫНЯ




*«Студэнцкая думка». № 1, 1999. — 40 с.: іл. — Наклад 299 ас.*

Калі гаворым пра самвыдавецкі друк, дык найчасьцей гэтая зьява асацыюецца з выданьнямі, што існуюць пэўны час, каб потым зьнікнуць і застацца толькі ў досьледах гісторыкаў. У грамадзтве на іх зазвычай забываюцца, бо іх наклад невялікі ды разьлічаныя яны на вузкае кола чытачоў. Рэдка калі гэткія газэткі набіраюць моц ды становяцца сур'ёзнымі выданьнямі. Але маюцца й выняткі, напрыклад, часапіс «Студэнцкая думка», што выходзіць у Менску зь вясны 1998 году. Гэта ня новае выданьне. Яно мае ажно 75-гадовую гісторыю і гэтым самым вылучаецца сярод ня толькі самвыдавецкага друку, але наагул спасярод іншых мэдыяў. Першы нумар часапісу выйшаў у Вільні ў сьнежні 1924 году дзе стаўся пераемнікам зачыненага праз польскія ўлады «Нашага шляху». «Студэнцкая думка» выходзіла як орган Беларускага студэнцкага саюзу, утворанага ў 1920 годзе, ажно да ягонага зьліквідаваньня напрыканцы 1930-х. У прадмове да №1 рэдакцыя гаварыла: «У часе, калі палажэньне Беларускага Народу вельмі цяжкое, беларуская моладзь ня мае права аставацца пасыўнай сьведкаю ў вялікай працы-барацьбе за вызваленьне Беларускага Народу і яго гаспадарсьцьвеннасьці... «Студэнская думка» прадстаўляе агульны кірунак адраджэнскае беларускае моладзі, а дзеля гэтага пры яе пасярэдніцтве ўся сьвядомая беларуская моладзь, ад студэнта высокае школы да малапісьменнага вясковага хлопца ці дзяўчыны, мае прыняць учасьце ў нацыянальнай беларускай працы, у асьведамленьні сваіх несьвядомых братоў і сёстраў, арганізаваньні і г. д.»

Разам зь «перастройкаю» й палітычнымі свабодамі, што зьявіліся пад час распаду савецкае сыстэмы, адрадзілася й «Студэнцкая думка». Гэта быў «грамадзка-палітычны ды культуралягічны часапіс студэнцкага патрыятычнага згуртаваньня «Сьвітанак». Першы нумар таго часапісу выйшаў у сьнежні 1988 году. Пазьней мяняліся шыльды: публікатка суполкі «Сьвітанак», орган студэнтаў Канфэдэрацыі беларускіх суполак, часапіс беларускага нацыянальна-сьвядомага студэнцтва, і нарэшце — орган Задзіночаньня беларускіх студэнтаў. Прыкладна з 1992 году часапіс не выдаваўся й толькі зрэдку абмежаваным накладам сярод «сваіх» распаўсюджвалася пад гэткаю ж назваю газэта.

Што беларускай моладзі, а ў прыватнасьці студэнцтву, патрэбнае было сваё выданьне, у якім адлюстроўваліся б памкненьні й думкі неабыякавых да лёсу свае краіны людзей, гэта заўжды было адкрытае пытаньне. Задумы аднак гэныя ня мелі посьпеху. Увесну 1998 году дбаньнем Задзіночаньня беларускіх студэнтаў зьявіўся пад цьвёрдаю вокладкай часапіс, які не вылучаўся сваім вонкавым выглядам і ніхто ня думаў, што ўлетку выйдзе чарговы нумар, а ўвосень яшчэ адзін... Сёлетні першы нумар уразіў каляроваю вокладкай, што па сутнасьці навінка ў беларускім самвыдавецкім друку.

Галоўная рэдактарка «Студэнцкае думкі» Ірына Віданава кажа, што часапіс ня імкнецца быць масавым выданьнем ды прыстасоўвацца да чытача, а ёсьць выразьнікам памкненьняў ды шуканьняў студэнтаў-думаньнікаў. Часапіс робіцца высілкамі моладзі «без дапамогі дарослых» і дае магчымасьць выказацца тым, каго не надрукуе ніводнае выданьне з тых, што зараз існуюць. «Студэнцкая думка» выходзіць па-беларуску клясычным правапісам.

Галоўнаю праблемаю застаецца пошук чытача. Нялёгка выходзіць на рэгіёны. Вялікім плюсам варта назваць артыкулы праўнікаў – кожнага студэнта хвалююць ягоныя правы й абавязкі. «Студэнцкая думка» – цалкам непалітычнае выданьне, аднак зусім не цураецца праблемаў сучаснасьці. Паколькі часапіс робяць пераважна гуманітары, дык і кірунак адпаведны, але запрашаюцца да супрацоўніцтва аўтары з альтэрнатыўнымі ідэямі.

Некалі «НН» сталася альтэрнатываю савецкай беларускай культуры й выйграла зь ёю «бойку». «Студэнцкая думка», працягваючы традыцыі сваіх папярэднікаў у Заходняй Беларусі, нясе ў маладзевыя асяродкі беларушчыну, не запэцканую ў палітычных авантурах, але з выразным незалежніцкім падтэкстам.

**В.М.**

# ПЕРШАЯ СТАЛІЦА




*Тарасаў С. Полацак IX—XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 183 с.: іл. — Наклад 1650 ас. ISBN 985-08-0094-1*

Першая сталіца — першы Рым беларускай гісторыі — Полацак, дачакаўся яшчэ аднаго апрацаваньня сваёй мінуўшчыны. Праца археоляга С.Тарасава прысьвечаная горадабудаўнічым аспэктам і на палову заснаваная на археалягічным матэрыяле.

У разьвіцьці Полацку вялікую ролю адыгрываў рэлігійны фактар. Першапачаткова, у IX — першай палове XI ст. Полацак уяўляў сабой невялікае ўмацаваньне і пасад ля яго на рацэ Палата. Горад яшчэ збольшага язычніцкі, прыкметаў хрысьціянства няма. Аднак ня знойдзеныя й паганскія капішчы. Першым паваротным пунктам у горадабудаўнічай гісторыі Полацку стала рашучае ўвядзеньне праваслаўя недзе ў сярэдзіне XI ст. На новым, амаль незаселеным месцы ля старога паселішча збудаваны храм Св. Сафіі, які на некалькі стагодзьдзяў стаў сапраўдным цэнтрам гораду, умацаваньняў — Верхняга замку.

Наступным пунктам стала Інфлянцкая вайна 1558—1583 г. Горад быў спалены, абаронныя ўмацаваньні разбураныя. Адбудоўваецца Полацак ужо як горад найперш каталіцкі. На спаленым Вялікім пасадзе па-за Верхнім замкам зь яго старажытнымі праваслаўнымі царквамі ўзводзіцца езуіцкі касьцёл Сьв. Стафана — патрона збаўцы гораду, караля Сьцяпана Батуры. Ад касьцёла пацягнулася галоўная вуліца гораду, побач пачалі будавацца новыя каталіцкія храмы, езуіцкі калегіюм. Узьнікае новы горад, эўрапейскі з выгляду, правільнай арітэктуры. Бадай нідзе ў Беларусі панаваньне пэўнай рэлігіі так яскрава не адбілася на горадабудаўнічай гісторыі. Выяўляюцца і некаторыя рысы, што лучаць Полацак зь іншымі беларускімі гарадамі. Гэта бачна ў разьмяшчэньні першай полацкай каталіцкай сьвятыні. Бэрнардынскі касьцёл з кляштарам месьціўся папросту не пусьцілі ў абводы гарадзкіх умацаваньняў, і каталікі былі змушаныя паставіць яго на левым, увогуле нічым не абароненым беразе Дзьвіны. Так спачатку было і ў Навагрудку, Пінску, Клецку і інш.

Калі дух увасабляўся ў храмах, то матэрыя — у рынках. На жаль, месцы найдаўнейшых полацкіх таржышчаў ня выяўленыя. У XII—XIII ст. разьмяшчэньне торгу, відаць, было такім, як і ў іншых беларускіх гарадах: па-за ўмацаваным цэнтрам, але побач з уязной брамай і пад яе аховай. Пабудова з канца XVI ст. каталіцкага Полацку азначала і разьбіўку новай рынкавай плошчы паводле эўрапейскага ўзору: у цэнтры новых гарадзкіх кварталаў, геамэтрычна правільнай, упрыгожанай хрысьціянскімі сьвятынямі. Гандлёвы цэнтар збліжаўся з духоўным цэнтрам. Ці ня ёсьць гэта адной з асаблівасьцяў каталіцызму таго часу, зусім не ўласьцівай праваслаўю?

Адна з рысаў горадабудаўнічай гісторыі Полацку і іншых беларускіх гарадоў ацэньваецца ў кнізе як парадаксальная: у іх амаль адсутнічаюць археалягічныя напластаваньні XIV-XV ст. Пэрыяд утварэньня і сталеньня Вялікага Княства Літоўскага, няспыннага росту яго магутнасьці — гэта час заняпаду беларускіх гарадоў. Каб растлумачыць гэта, аўтару трэба было б выйсьці за межы дасьледаваньня горадабудаўнічай гісторыі. Інакш сапраўды парадаксальнай выглядае выснова: «Пачынаючы з XI ст. насельніцтва гораду падвойвалася кожнае стагодзьдзе. Бясспрэчна таксама тое, што з IX па сярэдзіну XVI ст. колькасьць жыхароў пастаянна павялічвалася». Дзе ж тады заняпад?

Полацак паўстае перад намі перш за ўсё як горад-сьвятыня. Навукоўцы ўжо даўно падлічваюць яго храмы, шукаюць іх магчымае знаходжаньне. Гэтая праца не завершаная, і ў будучыні тут асноўныя спадзяваньні на археалёгію. Згодна зь сёньняшнімі падлікамі, у Полацку да XVI ст. мелася 21 царква і касьцёл, 13 манастыроў і кляштараў. Ніводны беларускі горад ня можа параўнацца зь ім. Цікава, што суб'ектыўнае ўспрыманьне першай беларускай сталіцы як гораду сьвятыняў падмацоўваецца і амаль поўнай адстунасьцю інфармацыі пра манумэнтальныя сьвецкія пабудовы. Дакладна нават невядома, дзе стаяла полацкая ратуша і як яна выглядала. Рэнамэ Полацку як сьвятога гораду псуюць «вал Івана Грознага» і «дамок Пятра I». Першы расейскі цар праводзіў звычайную палітыку калянізацыі занятых земляў, з выдаленьнем мясцовых жыхароў, пасяленьнем на заваяваных тэрыторыях ляяльнага насельніцтва і ўзьвядзеньнем замкаў. Вал Івана Грознага — Ніжні, або Стралецкі замак — у горадабудаўнічай гісторыі Полацку ролі ніякай не адыграў і застаўся «ваенным гарадком» для маскоўскага гарнізону. Як вайсковая фартыфікацыя ён таксама ніяк ня вызначыўся, бо адпавядаў пазаўчорашняму дню эўрапейскага ваеннага мастацтва. Затое сваю злавесную ролю як помнік чужой уладзе ён грае дасёньня.

Матэрыял па забудове Полацку IX—XVI ст. аказаўся настолькі інфарматыўным, што заўважанае ў назьве кнігі XVII ст. засталося не асьветленым, дык пра яго можна было і не ўпамінаць. Сустракаюцца ў кнізе і фактычныя супярэчнасьці. Сьпярша зазначана: «У час Паўночнай вайны 1700—1721 г. швэдзкія войскі нават не спрабавалі захапіць гэты горад». Пасьля ўзгадана: «На швэдзкім пляне 1707 г., які быў складзены пасьля захопу гораду швэдзкім войскам у 1706 г.». Хіба што ўмяшалася нячыстая сіла, помсьцячы за сьветлы выклад гісторыі сьвятыняў нашай першай сталіцы.

**Валеры Пазьнякоў**

# ZNOŬ «NIEABVIERŽNYJA FAKTY»

*J.Novik, H.Marcula. Historyja Biełarusi. Vučebny dapamožnik dla VNU. — Miensk, 1998.*

Hety dapamožnik adrazu ž uražvaje svaim źmiestam. Dokazy napisanyja ŭ styli «nieabvieržnych faktaŭ» Abecedarskaha — heta dobraje, a toje kiepskaje. Znoŭku nam davodziać, što VKL — tolki letuviskaja spadčyna; što biełaruskaje paŭstańnie 1863—64 hadoŭ uvohule «polskaje»; što navat caryzm pracavaŭ na «dabrabyt» našaj Baćkaŭščyny. Dy j rasiejskija represii — heta tolki sproba «abaranić» Biełaruś ad «polskaha ŭpłyvu». Kniha napisanaja, vidavočna, tymi, kamu ciažka źmirycca ź isnavańniem biełaruskaj dziaržaŭnaści va ŭvasableńni VKL i BNR. Robicca nadzvyčaj niespakojna za budučyniu historyčnaj navuki, kali užo siońnia majem takija «dapamožniki».

**K. ź M.**

# KRYZYS PIATAHA PAKALEŃNIA

**Andrej Mielnikaū**

*Stała klasykaj aznačeńnie «filalahičnaje pakaleńnie» – inačaj kažučy, «šaścidziasiatniki», narodžanyja ŭ tryccatych. Havoračy pra «šaścidziasiatnikaŭ», hramadztva pryznała isnavańnie peŭnaj ahulnaści idealaŭ i śvietaŭsprymańnia ludziej, narodžanych u adno dziesiacihodździe. «Filalahičnaje pakaleńnie» było aktyŭnaj roščynaj hramadztva tryccać piać hadoŭ tamu, kali jaho «składnikam» było ŭžo našmat bolš za dvaccać, ale jašče daloka nia sorak. U hetym vieku nie zajmajuć upłyvovych pasadaŭ, ale mienavita na hety ŭzrost aryjentujucca moda, masavaja kultura, prapahanda, mienavita ludzi hetaha vieku akazvajuć najbolšy ŭpłyŭ na «kalektyŭnaje nieśviadomaje». Niefarmalnaja jahonaja vaha našmat bolšaja za farmalnuju. «Nie pavažali čarnahorcy tych, kamu bolej tryccaci», — kazaŭ paet.*

*Peŭna, tut jość suviaź z čysta fizyčnaj pryciahalnaściu i daskanałaściu maładości. Ludzi «siaredniaha vieku», dasiahnuŭšy žyćciovych metaŭ, niečakana dla siabie zaŭvažajuć, što ich dumkam, jakim volny dostup užo ŭ šmattysiačnyja nakłady, brakuje niečaha, taho, što było ŭ hetych dumkach zusim niadaŭna, pad čas sprečak na kuchniach i ŭ internackich pakojčykach. Ci heta nasamreč tak, ci tolki zdajecca. Prychodzić kryzys...*

Nia budu vydzialać u asobnaje pakaleńnie tych, «kamu za vosiemdziesiat». Jość i siarod ich ludzi, što chodziać «u natoŭp» dy stvarajuć cikavyja rečy, ale ci možna kazać pra «kalektyŭnuju dumku dzievianostahadovych»? I nia moža, vidać, jana hučać u pryncypie. «Za vosiemdziesiat» – uzrost adzinoty, najvyšejšaj medytacyi.

Pieršym z sučasnych pakaleńniaŭ spraviadliva budzie nazvać pakaleńnie, narodžanaje ŭ 20-ja – «apalenych vajnoj». Što havaryć pra «stalinizm» dziadkoŭ i babak z savietaŭ veteranaŭ i antystalinizm tych ichnych adnahodkaŭ, kamu ŭłada «baćki narodaŭ» pryniesła pakuty — žorstkija vyprabavańni padkreślili ŭ pakaleńni «apalenych vajnoj» takija ahulnyja rysy, jak katehaoften—

Filazofija pakaleńnia «apalenych» — heta śvietapohlad pieršych paślastalinskich hadoŭ. Źjaviłasia mahčymaść skazać mnohaje, što doŭhi čas było schavanaje ŭ nietrach pamiaci. Viartalisia da «cyvilnaha žyccia» «vorahi narodu», stała valniej, ale ŭsio adno, tre było šanavać idealy, prajaŭlać biaźlitasnaść da kontrarevalucyi i antysavietčyny.

«Šaścidziasiatniki» apisanyja j daśledavanyja jak nijakaje inšaje pakaleńnie. Mahu dadać adno istotnaje nazirańnie: mienavita kali hramadztva «zachapłałasia» idejami «šaścidziasiatnikaŭ», napisali svaje, moža, hałoŭnyja tvory, starejšyja piśmieńniki – Bykaŭ, Šamiakin, Navumienka... Heta, mabyć, zaŭsiody tak – hałoŭnyja prazaičnyja tvory pišucca tady, kali vakoł užo virujuć idei maładziejšych. Moža, proza jość memaryjałam pamierłaha času, a kab jaho stvarać, treba žyć pa-za im – nietaropka nazirajučy dy razvažajučy?

U siemidziasiatych na vialiki prastor vyjšli tyja, chto naradziŭsia na pačatku 40-ch. Heta pra ich aktor Oleg Dal, sam z 41-ha, čytaŭ lermantaŭskaje «С тоскою я гляжу на наше поколенье». Hlańcie na sučasny litaraturny asiarodak. Jany tam ciapier redaktarami i zahadčykami, adkaznymi sakratarami i kiraŭnikami navukovych hrupaŭ, aŭtarami manahrafijaŭ. «Pakaleńnie prafesijanałaŭ».

Nastupnaje pakaleńnie vyrastała ŭžo «biaz Stalina».

Jano stała pakaleńniem prahmatykaŭ (histaryčnaje čarhavańnie prahmatykaŭ i dahmatykaŭ — tema dla asobnaj razmovy, i, spadziajusia, jana jašče adbudziecca). Žyćciovy dośvied hetaha pakaleńnia, «vychavanaha» «zastojem», sfarmavaŭ takich «iraničnych suziralnikaŭ», jakija, pavodle Borysa Grebenščikova (narodžanaha ŭ 53-m) nazirali «закон, приводящий пейзажи в движение» i biez napruhi «повторяли слова, лишенные всякого смысла». Jano było zdolnym havaryć adno, a rabić druhoje. I akazałasia zdolnym paśpiachova ładzić ułasny biznes i ŭładkoŭvacca ŭ novym žyćci.

A na miažy 80-ch i 90-ch uvarvalisia najmaładziejšyja. Užo za Biełaruś i ŭ Biełaruś. Piataje pakaleńnie. Jakoje i mučycca ŭ kryzysie. Da hetaha pakaleńnia ja j sam naležu. «Vaśmidzierasty» – vo sarkastyčnaja replika ciapierašniaha padletka. Patetyčnyja nacyjanalisty z sentymentam da satlełaj minuŭščyny, ramantyki-adradžency. My ličyli svaim abaviazkam chadzić na mitynhi j demanstracyi, dabračynna achviaravać ułasnym časam i srodkami, zachoŭvać lajalnasć da «pravadyroŭ adradžeńnia», navat kali tych zanosiła, prymušali siabie vieryć u pośpiech bieznadziejnych spravaŭ.

My dzialili śviet na «svaich» i «čužych», choć i razumieli hłupstva takoj palityki. My byli takimi, pakul nie źjaviłasia niemaviedama skul novaje, šostaje pakaleńnie, jakoje pačało nas abychodzić, a to j prosta ihnaravać.

1989-90 hady stali dla «piataha pakaleńnia» časam uzychodžańnia, 1991-92 — tryjumfu. Spadziavańni jašče tryvali ŭ 1993-94, a paśla...

Pakaleńnie 90-ch zdajecca mnie pakaleńniem «kapryznych prahmatykaŭ» (u zachodnich krynicach jaho nazyvajuć «pakaleńniem iks»). Samyja maładyja raptam akazvajucca bolš zdolnymi dla pracy na klučavych miescach. My jašče «vučyli» ich žyćciu sa svaich «aŭtarytetnych» pazycyjaŭ, tolki klimat biełaruskaha žyćcia ŭ 1996-98 śviedčyŭ – nijakija my ŭžo nie «aŭtarytety».

Na pačatku našaha kryzysu nam zdavałasia, što ŭsia kraina – u zaniapadzie i pesymiźmie. Zamiest navakolla my bačyli svoj adbitak u im, i pisali, i razvažali pra jaho. Niechta z nas dahetul u takim stanie. Ciažka mirycca z tym, što vakoł užo inšyja idei i vartaści. Ale ŭśviedamić hety fakt pryjdziecca. Abo praciahvać isnavać va ŭjaŭnym śviecie z ujaŭnymi prablemami. Tyja, kamu siońnia dvaccać piać, stvarajuć novyja rok-hurty i kluby, biaruć naviny nie z «Navinaŭ», a z «Internetu», i u «Internecie» ž, a nie ŭ kaviarni na Čyrvonaj, tusujucca. A na padychodzie – čarhovaje, siomaje pakaleńnie, zakamputaryzavanaje da hłybini mazhoŭ. Padazraju, mienavita ź im buduć źviazanyja kali-niebudź «stabilnaść i ŭpeŭnienaść u zaŭtrašnim dni».

# ГЕНЭРАЦЫЯ XXI

У кожным новым пакаленьні ёсьць пэўная катэгорыя людзей, якіх не задавальняе сьвет, атрыманы ў спадчыну ад папярэднікаў, і якія настолькі адрозьніваюцца ад «сярэднестатыстычных» прадстаўнікоў іншых пакаленьняў, што іх цяжка не заўважыць на агульным фоне. У дзяцінстве яны гуляюць у дзіўныя, незразумелыя нават пагодкам гульні; зь цягам часу гульні ператвараюцца ў справы, творчасьць, грамадзкую дзейнасьць, палітыку — і ўсё робіцца па-свойму. «Невытлумачальную» моладзь 90-х назвалі «генэрацыяй ікс». Ставяцца да іх звычайна або зьняважліва, або паблажліва, але менавіта «пакаленьне ікс» рухае гісторыю.

Яны самі задаюць велічыню «Х» і самі ўзьбіраюцца на вяршыні жыцьця (альбо апускаюцца на дно, што ў прынцыпе тое самае). Яны — грэбень хвалі.

Генэрацыя Х у Беларусі — бомба запаволенага дзеяньня. Яна ня мае пакуль ні дакладна вызначаных памкненьняў, ні ідэалёгіі. Яе прадстаўнікі ў большасьці сваёй нават не задумляюцца над тым, што яны бачаць нашмат лепш, а разумеюць нашмат больш за сваіх бацькоў. Адно сьняць сны, паглынаюць няспынны струмень нечаканых вобразаў і прадукуюць сапраўды вар'яцкія ідэі. Зноў узгадваецца паўзабытае слова «боп», зноў перавага аддаецца фэнтэзы і, як заўсёды, вольнаму мастацтву. Новая генэрацыя ўспрымае жыцьцё праз прызму трансгрэсіўнае творчасьці. У адрозьненьне ад папярэдніх пакаленьняў моладзі, якія накіроўвалі свае сілы на рэалізацыю пэўных ідэалёгіяў — на стварэньне (левыя), уцёкі (гіпі) або разбурэньне (панкі) сьвету — сёньняшнія беларускія «ікшэры» палітыкай амаль не цікавяцца. Яны ня проста грамадзяне сьвету — яны грамадзяне віртуальнага сусьвету, і таму аднолькава адмоўна ставяцца да ўлады, кантролю, цэнзуры, гвалту ў любых іх праявах і формах. Абыякавыя да кар'еры, маладыя «ікшэры» аддаюць перавагу спантаннай дзейнасьці. Галоўная вартасьць — чалавечае жыцьцё. Галоўны маральны крытэр — здольнасьць быць самім сабой. Галоўная мэта — «прарвацца на той бок». Да берагу, які ніхто шчэ ня бачыў.

Пакуль што найноўшая генэрацыя гуляе ў нікому не зразумелыя гульні. Пакуль яна амаль незаўважная. Але з кожным днём мы ўсё набліжаемся да нябачнага бар'еру. XXI стагодзьдзе. Яно перапаўняе сёньня юныя сэрцы смутнымі спадзевамі і прымушае па-дзіцячаму наіўна шукаць непадробную Праўду, верыць у творчасьць і бясконцую разнастайнасьць ідэяў.

**Антон Тарас**

# СЛОЎНІК ПАКАЛЕНЬНЯ ІКС

БУМЭРЫ. Бумэры — гэта пакаленьне, якое зьявілася на сьвет у гады пасьляваеннага дэмаграфічнага буму (1946—1960). Менавіта яны былі стваральнікамі маладзёвай культуры 60-х, а цяпер працягваюць трымацца яе — адсюль спробы інстытуцыялізаваць рок-н-рол і зьяўленьне «Заляў славы герояў рок-н-ролу». Пік уплыву бумэраў на фармаваньне культуры прыходзіцца на 80-я, калі высокі эканамічны й сацыяльны статус гэтага пакаленьня ператварыў яго ў прывабную плацежаздольную аўдыторыю. Ідылічнае ўспрыманьне бумэраў скончылася са зьяўленьнем пакаленьня Ікс. У гэтага новага пакаленьня нянавісьць да бумэраў зь іхным дабрабытам і высілкамі расьцягнуць маладосьць стала своеасаблівым крэда.

СЯМЕЙНЫЯ КАШТОЎНАСЬЦІ. Тэрмін з шырокім значэньнем, які выкарыстоўваецца для ўсіх кансэрватыўных кірункаў і поглядаў — найперш у дачыненьні палітыкаў з моцнымі рэлігійнымі перакананьнямі, якія выступаюць супроць абортаў, сэксуальных меншасьцяў, фэмінізму, свабоднага сэксу. Гэты тэрмін паступова стаў антонімам панятку «альтэрнатыва». Узьнік у 1966 г. у момант уздыму контракультуры моладзі.

МУЛЬТЫКУЛЬТУРАЛІЗМ. Касмапалітычная філязофія, якая адстойвае захаваньне разнастайных расавых, этнічных і рэлігійных асаблівасьцяў насуперак ідэі *melting pot-у*, якой прытрымліваліся першыя пакаленьні перасяленцаў у ЗША. Частка амэрыканскага істэблішмэнту — кансэрватары і некаторыя лібэралы — расцэньваюць **м.** як падрыў асноваў заходняй цывілізацыі. Рост афраамэрыканскае і азіятаамэрыканскае сярэдняе клясы і дасягненьні этнічных культураў у розных галінах (аж да моды на вывучэньне ідышу альбо на лацінаамэрыканскую падліву замест звыклага кетчупу) па-ранейшаму актыўна ўзьдзейнічае на навучальныя праграмы і поп-культуру.

МАКДЖОБ. Тэрмін, у 1983 г. уведзены ў карыстаньне «Макдональдзам» для рэклямы сваёй праграмы па працаўладкаваньні інвалідаў. Пад канец 80-х стаў азначаць агульную тэндэнцыю на рынку працы — зрух да работаў нізкай кваліфікавацыі і аплаты, асабліва ў «фаст-фуд»-ах, закусачных тыпу «Макдональдз». **М.** апісаныя Дугласам Коўплендам у ягоным знакамітым рамане «Пакаленьне Ікс» (1991); з тых часоў гэтае слова шырока выкарыстоўваецца ў газэтнай і тэлевізійнай рэкляме.

СЭРЫЙНАЯ МАНАГАМІЯ. Правільнае сямейнае жыцьцё, але безь вянчаньня й росьпісу; візыты да бацькоў аднаго й другога, сужэнская вернасьць; пасьля — разрыў, і ўсё ад пачатку, але ўжо зь іншым партнэрам. Спалучэньне сужэнскай вернасьці з адсутнасьцю доўгатэрміновых абавязаньняў — гэта й ёсьць **с.м.**, рэакцыя на прынцып «свабоднага каханьня» эпохі сэксуальнай рэвалюцыі. Спэцыфічная рыса **с.м.** — не адультэр, а разрыў адносінаў. Менавіта гэты тып сувязяў найбольш папулярны сярод цяперашніх 25-гадовых.

ТРАНСГРЭСЫЎНАЯ ЛІТАРАТУРА. Кірунак у літаратуры, які раьзвівае постмадэрнісцкую тэхніку Томаса Пінчана і мінімалізм Райманда Карвэра. Для гэтай літаратуры характэрны зварот да псыхадэліі, памежных станаў сьвядомасьці, зьвязаных з наркотыкамі і сэксам, да хваравітых дачыненьняў у духу маркіза дэ Сада, Уільяма Бэраўза і «Дамавікамэрону» Адама Глёбуса, а таксама да вычварэньняў, уласьцівых забойцам-маньякам. Колькасьць такіх кніг настолькі вырасла, што ў 1994 г. кнігарня «Таўэр» у Нью-Ёрку адкрыла адмысловую сэкцыю **т.л.**, аздобленую ў стылі андэграўндавых лавачак.

WWW — WORLD WIDE WEB (СУСЬВЕТНАЕ ПАВУЧЫНЬНЕ). Найбольш распаўсюджаны сэрвіс кампутарнай сеткі «Інтэрнэт» для стварэньня гіпэртэксту і электронных выданьняў, абмену ня толькі тэкстамі, але здымкамі і малюнкамі. Калі пры канцы 80-х зьяўленьне электронных выдавецтваў папулярызавала якасны друк, стварыліся спрыяльныя ўмовы для яго распаўсюджваньня. Нягледзячы на ўсе вартасьці, з прычыны недастатковай хуткасьці перадачы інфармацыі і абмежаваньняў пры выкарыстаньні рухомых выяваў і гуку WWW пакуль не канкурэнт ТВ. Але сытуацыя можа зьмяніцца, бо стратэгія разьвіцьця «Інтэрнэту» эвалюцыянуе ў бок мультымэдыйнасьці.

СТРЭЙТ-ЭДЖ. Устрыманьне ад наркотыкаў, алькаголю, тытуню, мяса (у некаторых выпадках і ад сэксу), якога прытрымліваецца шэраг нэапанкаў. Ен Маккей і ягоны знакаміты рок-гурт «Фугацы» далі пачатак новай субкультуры — хардкору, які прапагандуе «здаровы лад жыцьця», усё яшчэ папулярны сёньня сярод белых падлеткаў. У 90-х мараль, якая заклікае зрабіць зь сябе «стальны стрыжань», надае асаблівую ўвагу абароне жывёлаў, прыроды ўвогуле, і **вэганізму**.

ВЭГАНІЗМ. Расьлінная дыета, якая выключае любую ежу жывёльнага паходжаньня. Ня блытаць з вэгетарыянцамі, якія ўжываюць яйкі, сыр, малако. Бацькоў-вэганістаў неаднаразова ганілі за тое, што яны не даюць дзецям збалянсаванага харчаваньня: некаторыя дактары кажуць, што такія дзеці вырастаюць з расстройствамі стрававальных функцыяў.

ПІРСІНГ. Старажытная практыка ў краінах Далёкага Ўсходу, што распаўсюдзілася ў Амэрыцы спачатку ў субкультурах — сярод садамазахістаў, панкаў і мэталістаў, — а затым увайшла ў культуру мэйнстрыму разам з наколкамі, якія раней былі папулярныя ў шэрагу народаў Акеаніі і ў блатным асяродзьдзі. Цяпер праколваюць ня толькі вушы, але й іншыя органы: пупок, храпкі, смочкі, бровы, язык.

БРЭНДЫНГ. Рэдкі экстрэмальны спосаб аздабленьня цела, калі малюнкі выпальваюць на скуры распаленым жалезам, які нагадвае кляйменьне жывёлы. **Б.** і нанясеньне шнараў узьніклі на левым крыле культуры сучаснага прымітыву ў пачатку 90-х, калі наколкі і пірсінг сталі пераходзіць у зьяву мэйнстрыму і атрымліваць распаўсюджаньне сярод супэрмадэляў і поп-зорак. У некаторых садамазахісцкіх субкультурах абрад выпальваньня кляйма часьцяком здымаецца сьведкамі на відэа і паўстае як рытуал атрыманьня асалоды праз пакуту.

*Пры складаньні слоўніку выкарыстаныя зьвесткі з энцыкляпэдыі «Alt.Culture» (London, 1995).*

## Адам Глёбус

# ПАЧВАРНІК

*АПАВЯДАНЬНЕ*

Пачварніка рабілі на саломе, каля бурта бульбы.

Напрыканцы верасьня, цёплым надвячоркам мужчыны насыпалі ладную гурбу бульбы, абклалі яе саломаю й засыпалі. Бурт атрымаўся роўны, доўгі, высокі й акуратны. Люба-дорага паглядзець. Напрацаваныя мужчыны вырашылі адзначыць плён працы сваёй і селі выпіваць.

Якраз тады міма поля з буртамі праходзіла дурнаватая дзеўка. Ахмялелыя працаўнікі паклікалі дурніцу да сябе ў кумпанію. Накармілі вэнджаным кумпяком з цыбуляю, напаілі самагонкаю й згвалцілі, ды кожны па некалькі разоў. П'яная дзеўка толькі радавалася такой незвычайнай магчымасьці пакачацца на саломе.

Пра ігрышча каля бурта ніхто б і ня згадваў, бо дурніца была адмысловай распусьніцаю й давала, і перадавала ўсім, хто жадаў. Але ж давялося ўспомніць пра палявыя забаўкі, калі празь дзевяць месяцаў дурніца вырадзіла Пачварніка.

Роды ў гулёны прымала маці. Каб не выносіць таямніцу з хаты. Але дзе ты ў вёсцы што схаваеш? Ня ўтоіш ні грэх, ні сьвяты ўчынак, каб і захацеў. Што б там ні казалі, а баба спрытна перарэзала пупавіну свайму першаму ўнуку і ўдала завязала пуп.

Ён тут жа выкруціўся з рук, упаў на ток, стаў, як зьвер, на карачкі й хрыпатым голасам запатрабаваў:

— Жэрці!

Напужаная баба неабмытым нажом адкроіла хлебу, пасыпала цукрам і падала выблядку. Той бяззубым ротам згамкаў пачастунак і паскакаў да цынкавага бачка, у якім трымалі ваду для піцьця. Піць Пачварнік ня стаў. Боўтнуўся ў бачок і закрыўся накрыўкаю.

Напалоханая баба кінула непрытомную парадзіху й паляцела да суседа. Згорблены дзед прыкалыбаў да бачка й зьняў накрыўку. З-пад крышталёвай вады на людзей пазірала істота з конскімі вачыма й з калючым грэбенем на сьпіне. Хвастатае тулава й кіпцюрастыя лапы ўкрывала луска, якая пералівалася пярлінным бляскам.

— Цмок, няйначай. — Дзед палічыў за лепшае накрыць бачок. — Пайду, паклічу шаптуху. А ты, ліха цябе дзяры, трымай накрыўку, каб ня вырвалася й не ўцякло. Уцячэ — хрэн зловіш, і будзе шкоду чыніць дзе яму заманецца.

У куце, на збэрсаным ложку, вярнулася да памяці й заварушылася спустошаная дурніца:

— Мама, ці жывое нашае дзіця? Хто там нарадзіўся? Хлопчык ці дзяўчынка?

— Жывое, жывое! — Баба зьняла бачок з зэдліка, паставіла на ток і села конна.

— Пакажыце мне яго. Сьмерць як хочацца паглядзець, — дурніца павярнулася на бок і прыўстала на локці.

— Ляжы, дачушка, не варушыся, а то сыйдзеш крывёю й чэрці пакажуць табе іншы пякельны сьвет.

Пачварнік заторгаўся ў бачку, зашкрэб кіпцямі па цынку, паспрабаваў вырвацца. Баба трымала бачок за ручкі й ціснула дупаю да зямлі.

— Што Вы там робіце, мама? Чаму мой сыночак голасу не падае? — бясьсільле накацілася на дурніцу, і яна абсунулася на падушкі.

Абмываю дзіця тваё, дачушка. А ты ляжы, не варушыся, бо калі не паслухаеш мяне, дык скармлю твайго байстручка кабану.

— А ёй, што Вы лапочаце такое? Бог пачуе й шчасьця Вам ня дасьць, — ня могучы ўстаць, замармытала парадзіха.

Ад сьвятога слова Пачварнік прыціх, стаіўся ў халоднай цемрадзі. Тут і шаптуха ўпаўзла ў хату. Абшаптала яна бачок з чатырох бакоў, паклала крыжык з трэсак на накрыўку й прагундосіла:

— Пайду. Я сваё зрабіла. А ты, баба, дастанеш байструка, зробленага распустамі ў полі пад буртом, абмыеш свайго ўнука, спавуеш і аддасі дур-



ніцы на выкорм. Што будзе зь ім далей, я, дзякаваць Усявышняму, на свае вочы не пабачу, не дажыву. Іншыя хай моляцца.

Шаптуха з суседам пайшлі, не разьвітаўшыся.

Баба выцягнула са сьцюдзёнай вады пачарнелага й ледзь жывога хлопчыка, абмыла духмяным чабаровым узварам у балеі й аддала дачцэ. Тая радавалася, пускала сьлязу і ўсё не магла нацешыцца сінімі вялізнымі вачыма свайго сыночка.

Гісторыя з нараджэньнем Пачварніка забылася б, то ж бо такіх вылюдкаў родзіцца ў Беларусі процьма, таму ёсьць безьліч пісьмовых і вусных сьведчаньняў. Чыстага ў сьвеце столькі ж, колькі нячыстага, калі ня менш. Праўда, жывуць Пачварнікі нядоўга й скон іх раптоўны, але й жудасны. Толькі Пачварнік, зроблены каля бульбянога бурта, даўжэй за сабе падобных утрымаўся на зямлі, чым знакаміты й адметны. Злога й крыважэрнага нарабіў многа, таму й захрас у чалавечай памяці.

Рос ён ня хутка й не марудна, звычайна. Сілу ж меў адметную, тоўк раўналеткаў і дужаўся са старэйшымі, а, ня могучы ўзяць верх з наскоку, зьбіраў зграю з маладзейшых і нападаў на ворага зьнянацку. Вёска баялася псыхапатычнага Пачварніка. Хто не збаіцца атрымаць уночы каменем у плечы? Выблядак і такія штукі практыкаваў. Вёска бяз словаў змовілася ператрываць прысутнасьць баявітага байстрыла. Пачакаем, вырасьце й зьедзе, вёска маленькая, сьвет вялікі й жорсткі, там і скруціць шыю.

Пачварнік сапраўды зьехаў, але паехаў, каб вывучыцца на саўгаснага старшыню й вярнуцца законным панам. Вёска пачала спадзявацца на заўчасную гібель д'яблавага стварэньня. Лёс уратаваў вяскоўцаў і другі раз. Мусіць, кабеты на чале з шаптухаю выпрасілі ва Ўсявышняга збавеньня ад цмока. Пачварніка абралі ў дэпутаты. Вёска ўздыхнула з палёгкаю і ў адно імгненьне пачала ганарыцца ўласным выблядкам, нібыта й не было таго, што было. Дзед-сусед распусьціў пагалоску, што Пачварнік — Богам абраны кіраўнік. Гвалтаўнікі, што качаліся ў саломе з блядзюгаю, пазадзіралі чырвоныя насы, кожны называў сябе бацькам дэпутата. Праз гэта яны ледзь не пазабівалі адзін аднога, і мусіць зжылі б канкурэнтаў са сьвету, каб ня шэры чалавек.

Мужчына з шэрым тварам прыехаў у вёску на дзяржаўнай машыне. Не пытаючыся адрасоў, ён дакладна патрафляў у хаты кандыдатаў у бацькі дэпутата. Там праводзіў кароткія гутаркі пра неабходнасьць забыць цёплы верасень і бурт. Свае словы ён замацоўваў тым, што апранаў шэрыя пальчаткі й біў гаспадароў па твары, біў да крыві пры жонках і дзецях.

Тым часам Пачварнік клапаціўся пра іншае, ірваўся на галоўнае крэсла краіны. Д'ябал яму дапамог. Праўдамі й няпраўдамі стварэньне ўсьперлася на вяршыню. І тады ня тое што вёска, а раён і вобласьць паверылі ў плётку пра Богаабранасьць байстрылы. Хай даруе Ўсявышні, але ў Хрыста вельмі заблытаная гісторыя з бацькам, там і Анёл, і цесьля Язэп, і сам Бог-Бацька. З пачварнікам атрымаўся той хрэ-

*Працяг на старонцы 14.*

## Мартын Вальзэр

# АЎТАПАРТРЭТ У ЖАНРЫ ДЭТЭКТЫВУ

Наш сябра зьдзейсьніў бяскрыўднае злачынства. Ён лічыць свае злачынства бяскрыўдным. Ён, прынамсі, удае, быццам лічыць свае злачынства бяскрыўдным. Ён не гатовы прызнаць, што ягонае злачынства можа быць сур'ёзным, цяжкім злачынствам. Ён робіцца вельмі чулівым, калі хтосьці заводзіць гаворку пра ягонае злачынства. Нават калі хтонебудзь згадвае ягонае злачынства, выказваючы поўнае разуменьне і талерантнасьць, ён узьвіваецца. Якім бы чынам ні згадвалі ягонае злачынства, ён рэагуе неадэкватна.

Ёсьць толькі адна магчымасьць схіліць яго да мякчэйшай рэакцыі: трэба без канца хваліць яго за ягонае злачынства. Трэба ўдаваць, што мы так захопленыя ягоным злачынствам, што нават не знаходзім словаў. Толькі тады ён усьміхаецца — як трынаццацігадовая дзяўчынка, якой сказалі, што яна выглядае ў сто разоў спакусьлівей, чымся Мэрылін Манро ў свае лепшыя часы. Даводзіцца трываць гэта пэўны час, гэтае запінаньне-ад-захапленьня. Даводзіцца трываць, аж пакуль яму самому не абрыдне. Праўда, гэта можа зацягнуцца надоўга.

Усьміхаючыся вось так, ён хоць і паказвае, быццам яму няёмка, што яго так хваляць, ды толькі па ім відаць, што нішто ў сьвеце не падабаецца яму больш за гэтае няёмкае пачуцьцё. Відаць, што ён пярэчыць хвальбе толькі для таго, каб заахвоціць нас да новых пахвалаў. Пакуль ён удае, што ня можа прыняць гэтай хвалы, думае ён, мы ня можам кінуць хваліць яго. Мы мусім спачатку, думае ён, пераканаць яго сваёй хвалой у тым, што ён яе заслугоўвае, таму толькі мы можам кінуць хваліць яго. Такім чынам, ён не дае пераканаць сябе, а працягвае ўдаваць, быццам яму няёмка, што яго так хваляць. За злачынства! Толькі падумайце!

Так, так, кажам мы, можа быць, але па-першае, гэта, мабыць, бяскрыўднае злачынства, па-другое — і толькі гэта мае значэньне — якім чынам ты ажыцьцявіў злачынства! Тваё злачынства — мастацкі твор! Вялізны мастацкі твор! Злачынства, не злачынства, для нас мае значэньне форма, ня зьмест! І як ужо даўна не было нічога падобнага да гэтага твайго злачынства! Ён усьміхаецца, працягвае пярэчыць, кажа: не, не, маўляў, я сам проста ня магу забыць, што зьдзейсьніў злачынства! Так, кажам мы тады, дык хто ж без заганы?! Ці можа ён назваць каго-небудзь, хто гуляе пэўную ролю ў гісторыі чалавецтва і ня зьдзейсьніў якогась злачынства! Ужо гуляць, ці хацець гуляць пэўную ролю ў гісторыі чалавецтва — пачатак кожнага вялікага злачынства...

Вось так мы ўгавораем яго. І так ён пярэчыць, увесь час усьміхаючыся, шчасьлівы і падазроцкі. Мы, гэта значыць, ягоныя сябры, мы — людзі, што зь якіхсьці прычын шкадуюць яго. Некаторыя з нас спакваля пачынаюць нават ненавідзець яго. Яны папросту сытыя па горла тым, што хтосьці хоча, каб яго ўвесь час хвалілі за нешта, што ўсё-такі ёсьць і застанецца злачынствам, хай нават — магчыма — бяскрыўдным. Але бяскрыўднасьць гэтага злачынства гэтаксама маладоказная, як і яго цяжкасьць. Галава заточыцца, калі паспрабуеш разабрацца ў гэтым злачынстве. Пра яго ўжо пішацца не адна кандыдацкая дысэртацыя.

Наш сябра падазрае, што мы ўсе яго ненавідзім, што мы ўсе хлусім, што нашая хвала — толькі хлусьня. Мы, натуральна, пярэчым. Ён жа сьцьвярджае, што насамрэч мы ўсе на баку інспэктара. І што аднойчы мы ўсе адкрыта перакінемся да інспэктара і забясьпечым яму тую рэшту доказаў, якой яшчэ не стае да поўнага выкрыцьця. Інспэктар, такім чынам. Вялікі працаўнік нашага сябры. Ён увесь час гаворыць пра гэтага інспэктара.

Вельмі мала хто з нас ведае інспэктара асабіста. Нам застаецца, такім чынам, толькі тое, што нам распавядае пра інспэктара наш сябра. Але кожны раз, калі ён згадвае інспэктара, ён кажа: я нічога не магу сказаць пра інспэктара, мы працаўнікі, гэта змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць. Я не хацеў змаганьня, інспэктар распачаў змаганьне. Усё-такі я зьдзейсьніў злачынства, гэта слушна. Няхай і бяскрыўднае злачынства, але злачынства. Зрэшты, хіба злачынства можа быць бяскрыўдным?

Калі тое, што я зьдзейсьніў — злачынства, тады, напэўна, усё адно, бяскрыўднае яно ці не бяскрыўднае. У параўнаньні з кімсьці, хто ня зьдзейсьніў ніякага, я злачынца. А для інспэктара існуюць толькі злачынцы да бязьвінных, а да бязьвінных я, безумоўна, не належу, таму інспэктар перасьледуе мяне, таму мы змагаемся адзін з адным, таму не пытайцеся ў мяне, што за чалавек гэты інспэктар, я гэтага ня ведаю, я ведаю толькі, што ён інспэктар, ушчэнт і дазваньня інспэктар.

Калі наш сябра пачынае гаварыць пра інспэктара, ён ужо ня можа спыніцца. Мы, выходзячы галоўным чынам зь ягонай інфармацыі, бачым усю справу так: інспэктар хоча вык-

*Працяг на старонцы 14.*

**Мартын Вальзэр (нар. у 1927) – нямецкі драматург і раманіст. У сваіх раньніх творах апісваў сацыяльны і псыхалягічны разлом нямецкага грамадзтва на выйсьці з нацызму, затым перайшоў да сатыры на банальнае жыцьцё «сярэдняга чалавека». Аўтар раманаў «На паўстаўкі», «Аднарог», п'есаў «Дубы і ангорскія трусы: нямецкая кроніка», «Чорны лебедзь».**

# ПАЧВАРНІК

Праця́г са старонкі 13.

стаматыйны прыклад, калі д'яблава сутнасьць хававецца за Божае імя.

Тут патрабуецца ўдакладненьне... Сам Пачварнік ня верыў у тое, што ён сын распуснае начы, яго задавальняла ружовая гісторыя пра лётчыка-выпрабавальніка, які палюбіў маці, але не пасьпеў ажаніцца, бо загінуў. Ні шаптуха, ні дзед-сусед, ні баба ні разу не загаварылі ні з кім пра цмока ў бачку з вадою для пiцьця. Такім чынам, зло жыло, ня ведаючы, што яно насамрэч. Гэтак лясны драпежнік ня ведае пра ўласную пачварнасьць.

Сілкуючыся набытай уладаю, расла пыха Пачварніка. Верачы ў Богаабранасьць, ён намерыўся замацавацца на троне назаўсёды. Дзеля ўвасабленьня рызыкоўнага пляну Пачварнік сфармаваў таемнае войска шэрых людзей. У нетрах шэрых службаў пачалі распрацоўваць дзеяньні дзеля разьвязваньня сусьветнай вайны і ўсталяваньня адзінай і непадзельнай улады на зямлі. Вайсковая машына запрацавала на поўную магутнасьць. Толькі, як і казалася, не бывае чорнае бязь белага. Пачварнік здох.

Раніцай ён пайшоў у басэйн рабіць гімнастыку й водныя працэдуры. Любіў, гад, свае косткі, скуру й цяглiцы. Розум і душу не было за што любіць.

Целаахоўнік застаўся пры дзьвярах.

За кульбітамі першай асобы сачылі лекар і масажыст. Пачварнік соп, пацеў, пускаў газы й рабіў адно практыкаваньне за другім. Ён зрабіў бы ўсе свае 666 штодзённых практыкаваньняў, каб не прусак. Жамярына выпаўзла з-пад кiліму, на якім вухаў узмакрэлы Пачварнік, і пабегла борцікам. Выблядак пачаў перасьледаваць вусатую жамярыну й тупаць па кафлях.

— Заб'ю! Гадам буду, расьцісну! Гадам буду, размажу! — сіпата крычаў Пачварнік.

Голая пята ўсё ж расплюскала прусака й сьлізганула па гладкай кафлі. Пачварнік згубіў раўнавагу. Мажное цела лязнулася аб рабрыну борціка. Галава разьбілася напалам. Зьнявечаная істота спаўзла ў чысьцюткую ваду.

Лямантуючы, лекар з масажыстам падбеглі да крывавых хваляў. У каламуці гайдалася й апускалася на дно вялізарная пачвара з рабрыстым грэбнем на сьпіне, доўгім хвастом і кіпцюрастымі, як у кракадзіла, лапамі. Мёртвы цмок пераліваўся чорнай лускою, нібыта быў выштукаваны з бліскучага вугалю й сьлюды.

— Сьвят, сьвят, сьвят! Сапраўдны дракон! — масажыст перахрысьціў жывот.

— А ты ня ведаў?! — цынічна пажартаваў белы, як уласны халат, лекар.

На крыкі прываліў целаахоўнік.

— Што за гвалт? Дзе бос? — запытаўся ён у служак.

— Дзе? Дзе? У п...дзе! — вылаяўся ўзбуджаны масажыст і атрымаў кулаком у грудзі.

— Ты ў мяне яшчэ павыкабеньвайся, кажамяга паскудная, — мясісты целаахоўнік паставіў нагу на грудзі паваленага масажыста, — я табе масаж зраблю па поўнай антыкрызыснай праграме.

— Пусьці, жывёліна! - захрыпеў прыдушаны служка. — Паглядзі, што ў басейне на дне ляжыць.

Целаахоўнік прысеў на борціку.

— Усрацца, і ня жыць! — устаючы з кукішак прамармытаў ён пад пераламаны нос.

— Туебні спартыўныя, што рабіць будзем? — вытрымаўшы паўзу, кінуў пытаньне доктар.

— А гэта ён? Дакладна? — ціхенька, як каля труны, спытаўся ахоўнік.

— Як доктар магу засьведчыць... Бос, расьцiснуўшы прусака, пасьлізнуўся, раскроіў галаву аб кант борціка, упаў у ваду. Прыкметы сьмерці навідавоку. І вось мы маем тое, што бачым.

— Нас усіх пастраляюць, як сабак, — здагадка ўспыхнула ў маленькім розуме масажыста, - каб сьведак не было.

— Калі пасьпеюць, — кінуў на разьвітаньне лекар.

Шэрыя людзі сапраўды зьнішчылі сьведак падзеньня першай асобы ў імпэрыі. Толькі іх не пастралялі, як той думаў, а задушылі ў цалафанавых мяхах. Мяхі зь нябожчыкамі спалілі ў печы разам з пасечаным на кавалкі целам Пачварніка.

Ляльку з аблiччам імпэратара пахавалі ў вёсцы на радзіме й насыпалі магілу, падобную да бурта.

# Андрэй

**ВАЕННА-ПАВЕТРАНЫ ПЁС**

*Ваенна-паветраны пёс*
*у тумане і сьнезе*
*ад восьмых з паловай нябёс*
*і да ранніх гадзін*
*ва ўторак, калі ён няцотны,*
*сную ў паляннэзе*
*фігуры, заўсёды самотны,*
*заўсёды адзін.*

*Ваенна-паветраны пёс*
*не згубіў гімнасьцёркі;*
*васьмёркі і мёртвыя петлі*
*пляце, як лухту;*
*Вялікі й Малы можа Воз*
*без Палярнае зоркі,*
*як віяланчэль ад басэтлі,*
*адрозьніць, бо розныя маюць яны шырату*
*й далгату!*

*Ваенна-паветраны пёс –*
*больш ня проста сабака,*
*яго пераменлівы лёс –*
*больш ня будка-нара:*
*пітвом яму стала залева*
*сьвятла Скарпіёна і Рака*
*(і п'е, небарака!),*
*а ежай – Сусьветнага Дрэва*
*лістота й кара.*

*Лунаючы, як альбатрос,*
*і нястомны штогоду,*
*ваенна-паветраны пёс*
*спадзяецца штогод*
*на тое, што ён несумненна*
*сустрэне прыгоду, –*
*што дзесьці чакае ваенна-*
*паветраны кот.*

*Ваенна-паветраны пёс*
*праляцеў у этэры –*
*і ўсіх навакольных*
*працяла каманда „зважай!“;*
*а я перагортваю стос*
*некранутай паперы:*
*ваенна-паветранай поўні насеньне*
*для здольных*
*натхненьня*
*ўраджай!*

**ВОСТРАЎ РЫМ**

*Падвойны выбух, рынуты ў паветра,*
*люстранасьць рэха, новае ў старым,*
*ты назаўсёды кутні камень мэтру,*
*у вірным вершаваньні – востраў Рым.*

*За тое, што праз рыну рытурнэлі*
*льеш літры літараў на млын стары,*
*цябе багомяць барды, мэнэстрэлі,*
*трувэры, альбо проста песьняры.*

*Патрыманыя рымы – мне падтрымкай,*
*рыштункам і карынкай для ўдаўца.*
*Паміж гандлёўцаў рымавага рынку*
*любы ўва мне пазнае спажыўца.*

*І на шляху сустрэўшы навальніцу,*
*я ведаю адзіны пэўны схоў:*
*трымаюся за рым, як за спадніцу, –*
*спадніцаемца ў патрымоне слоў!*

*Як рымару – забытая рымарня,*
*мне паратункам – занядбаны рым.*
*Складаю мінэзангі, але марна:*
*не апяны спадарамі Грым.*

*Бо пошліну пашаны бярэ пошласьць,*
*і хутка кане ў пошлае эстэт:*
*ён проста з густу з'ехаў, – гэта пошасьць! –*
*па вушы занурыўшыся ў тандэт!*

*Глядзіць у кнігу – бачыць Дульсынэю,*
*зірне ў другую – бачыць Фігаро.*
*А я, бядак, з натугі пасінею,*
*ім носячы пясьнярскае дабро!*

*Хай акавіта з Гіпакрэны – вадкасьць,*
*якой не прапаноўваюць гасьцям,*
*але, пакуль рымую, мне няўцям,*
*што рымы – гэта зрынутая вартасьць.*

*Хай вершаваньне скончыцца маной,*
*бо іншы вынік проста немагчымы,*
*але рымяць няўрымсьлівыя рымы,*
*каб на паперу рынуцца рыной!*

**СТЭФАНУ МАЛЯРМЭ, З УДЗЯЧНАСЬЦЮ**

*Пра блакіт і дар паэмы,*
*І папоўдне фаўна*
*Засталася у народзе*
*Песьня з давен-даўна.*

Семяжон-Пэрс

*Шалпатаньне шчаснага шаленства,*
*рымаванай радасьці выток,*
*што на шалях краснага пісьменства*
*важыць дваццаць тысяч за радок –*

*раўналежна альбо прастастаўна*
*на паперу падаюць радкі:*
*нехта б'е ў званы, хтось сочыць фаўна,*
*хтосьці, зноўку робячы кідкі,*

*грае ў вежу із слановай косьці.*
*Знаўца хараства і прыгажосьці,*

# АЎТАПАРТРЭТ У ЖАНРЫ ДЭТЭКТЫВУ

Працяг са старонкі 13.

рыць і такім чынам абясшкодзіць нашага сябру. Міма ўсяе павагі, якую наш сябра адчувае да аналітычных ды лягічных здольнасьцяў інспэктара, ён усё-такі ня можа прыбегчы да яго і распавесьці яму ўсё, што той хоча пачуць. Гэта значыла б здацца. Наш сябра кажа, што раней ён часта адчуваў спакусу наведаць інспэктара й поўніцай адкрыцца яму. Раней ён лічыў інспэктара прыязным чалавекам. Ледзь ня кімсьці накшталт лекара. Але з таго часу ён, відавочна, набыў такі досьвед што да інспэктара, што ён бачыць: яму застаецца толькі змаганьне.

Цяпер ён ужо ня лічыць, што інспэктар перасьледуе злачынствы. Інспэктар перасьледуе людзей, кажа ён. Інспэктар шчасьлівы кожнаму, хто мае хоць найменшае дачыненьне да якога-небудзь злачынства, бо тады яму зноў ёсьць каго перасьледаваць. Але замест таго, каб быць удзячным за тое, што яму зноў ёсьць каго перасьледаваць, гэта значыць, замест таго, каб пры перасьледзе часам прымружыць вока ці хоць раз спыніцца на ўтульную пярэрву, ён ужо ня ведае межаў, як толькі ў яго зьявілася падазрэньне. Пры гэтым у яго няма нічога, апроч ягоных падазрэньняў. Ніякіх доказаў. Падазрэньне ды руціна — вось усё, што ён мае.

Доказаў няма, кажа наш сябра. Ёсьць, вядома, адзін вялікі доказ — злачынства. Злачынства адбылося. Яно ляжыць проста навідавоку ва ўсіх нас. Тое, што злачынец — наш сябра, таксама ясна. Кожны з нас гэта ведае. Інспэктар таксама гэта ведае. Але яму трэба яшчэ і даказаць гэта. І таму, што ён ня можа гэтага зрабіць, ён такі злосны. Таму ён так зацята перасьледуе нашага сябру. Прызнаньне — вось чаго хоча інспэктар. Магчыма, тады ён нават паставіў бы крыж на ўсёй гэтай прыгодзе з прычыны нязначнасьці. Не, кажа наш сябра, калісьці і я так думаў, раней. Цяпер я ведаю, што гэта абсалютнае змаганьне. Ну, можа не абсалютнае, але сур'ёзнае змаганьне.

Інспэктар — злачынца, якому хапіла мужнасьці, каб нешта зьдзейсьніць. Вось жа ён і стаў на бок закону й парадку. Яшчэ больш імаверна, што інспэктар перасьледаваў бы мяне, што б я ні ладзіў. Ягоны досьвед зрабіў зь яго кагосьці, хто мусіць перасьледаваць такога, як я. Мой досьвед зрабіў зь мяне кагосьці, хто мусіць аднойчы выбіць у гэтага інспэктара люльку з пашчы.

Натуральна, ён мае люльку. І адмысловы капялюш. І маленькую машыну, якую можна паркаваць дзе-любя. І жонку, якая не губляе цярплівасьці й не пужаецца, нават калі ён праз усю ноч не вяртаецца дадому. І ірляндзкага сэтэра, які заўсёды паскуголівае ад адданасьці, калі ягоны гаспадар ранішнім прыцемкам вяртаецца дадому. Наш сябра ведае кожны крок, які робіць інспэктар, і кожнага ягонага начальніка, і кожнага супрацоўніка.

Наш сябра, строга кажучы, куды больш пільна сочыць інспэктара, чымся інспэктар яго. Апошнім часам у нас нават склалася ўражаньне, што ён упікае інспэктару нядбайнасьць. Інспэктар замала пераймаецца ім, так ён кажа. Мусіць, тут ход толькі пра новы від змаганьня, кажа ён. Інспэктар хоча справакаваць мяне. На жаль, наш сябра ня можа адказаць на стрыманасьць інспэктара тым жа. Ён гутарыць пра інспэктара тым больш, чым менш той пераймаецца ім. Міжсобку, гэта значыць, калі нашага сябра няма, мы кажам: інспэктар перамог.

Спадзяемся, што ён пра гэта ня ведае, кажам мы. Мы баімся, што наш сябра разбурае свой апошні шанец. Калі б ён здолеў аваладаць сабой, калі б ён кінуў урэшце бегаць за інспэктарам, калі б ён здолеў трохі больш пасьпяхова супрацьстаяць свайму прымусу ўвесь час гаварыць пра сваё стаўленьне да інспэктара, тады была б яшчэ спадзяванка, што інспэктар не даведаецца, наколькі ён ужо перамог нашага сябру. Проста калі ён аднойчы даведаецца пра гэта, ён будзе здатны абыходзіцца з нашым сябрам, як захоча. А што тады ён будзе здатны да ўсяго, мы ведаем. Гэтаму ёсьць прыклады.

Калі інспэктар дазнаецца, што адолеў каго-небудзь з тых, каго ён перасьледуе, тады толькі бачна, чаго ён дамагаецца. Потым ён абыходзіцца са сваёй ахвярай зусім як котка з мышай. Ён ня хоча пазбавіць сваю ахвяру сонечнага сьвятла, ён таксама ня хоча зусім прыкончыць яе. Нішто не цікавіць яго болей, чымся рухі ягонай ахвяры. Калі затым парт-

# Хадановіч

*раніцою й нават уначы,*
*не пахіствацца спрабуючы,*

*пакідаючы кастальскі бровар,*
*ведае, як учыніць скандал,*
*сеўшы ўпотайкі на бацькаў ровар*
*(бацька – Геліяс альбо Дэдал).*

*Вабіць caelum? Лепш застацца цэлым,*
*бо Пэгас ляціць наўскапыта!*
*Пасьля коітусу – каята;*
*сёньня – вэлюм, заўтра – парабэлюм!*

*Лепш знайсьці сапраўдную лафу:*
*офіс зьняць, павесіць звонку шыльду*
*і пяяць Крымгільду і Брунгільду,*
*беручы за кожную страфу.*

*Сапсаваць гармоніяй гармідар,*
*распачаць незразумелы сьпеў,*
*каб і Піндар, і звычайны підар*
*на зямлі адзначыцца пасьпеў!*

*Статак мрой, стракатых альбо шэрых,*
*на паперу гнаць ад родных ніў;*
*шыхтаваць па два няспынны шэраг*
*рымаў, покуль нехта не спыніў!*

**ПАДШПАРАК-ПАЧВАРАК**

*Я завуся Падшпарак-Пачварак,*
*бо паводжу сябе вельмі дрэнна.*
*Я аматар падступак і сварак;*
*не чытайце маралі – дарэмна!*

*Каб дабро пацярпела фіяска,*
*я гатовы пайсьці на злачынства...*
*Ах, спадар буржуін, калі ласка,*
*запішэце мяне ў буржуінства!*

*Адчуваю нашмат сябе ўтульней,*
*як залажу ў чужыя кішэні.*
*Пагуляць у дарослыя гульні*
*запрашаю – прымі запрашэньне!*

*Я юнак-падсьвінак, юны злодзей –*
*спадары, пашкадуйце дзяцінства:*
*я з маленства жыву на балоце –*
*запішэце мяне ў буржуінства!*

*Я страшэнна хачу бочку сочыва,*
*я страшэнна хачу кошык печыва,*
*а маё сэксуальнае рэчыва*
*ўсё чакае чагосьці жаночага!*

*Вам прадамся за смачную булку*
*(толькі страўнік – крыніца адзінства),*
*палітычнага дайце прытулку –*
*запішэце мяне ў буржуінства!*

**ПОРНАГРАМАФОН**

*Раз пайшла на фільм «Тытанік»,*
*а пасьля яшчэ сем раз:*
*больш не апранаю станік –*
*толькі ратавальны пас!*

*Зануpаюся ў порна,*
*так бы мовіць, з галавой,*
*бо ўплывае дабратворна*
*на мысленчы мой развой!*

*Ой гора ж маё!*

*Мілы лаяцца ня ў стане,*
*кажа «ікс» заместа «хэ»:*
*бо ўлюбёнае чытаньне –*
*порначасапіс «Архэ»!*

*Ні «Нататкі Казановы»,*
*ні пра Фаўставы патрон:*
*па начах чытае «Новы*
*дамавіка – бля! – мэрон»!*

*Ой гора ж маё!*

*Мілы гіне ні за шэкель:*
*Ева Сыс і Янка Цень*
*яго вучаць слову «секель»,*
*альбо нават «ласкацень»!*

*А заўчора – нат ня ўспомнім! –*
*так назваў сваё жазло!*
*Ў тлумачальным, шасьцітомным*
*гэткіх словаў не было!*

*Ой гора ж маё!*

**ТЭМА З ВАРЫЯЦЫЯМІ**

*плача дзяўчынка*
*па сваім мячы*
*яе суцяшаюць*
*мяч у Сьвіслачы*

*дзеўчына плача*
*праз маю віну*
*адплывае мячык*
*у Беразіну*

*плача кабета*
*пэўна муж стары*
*не стае імпэту*
*мячык у Дняпры*

*бабусенька ў горы*
*ўнук пайшоў на фронт*
*недзе ў Чорным моры*
*ёсьць Эўксінскі Понт*

*а ракеце мячык*
*трапіў пад крыло*
*кірляў ані качак*
*быццам не было*

*будзе па рыбах*
*сумаваць Трытон*
*небясьпечны выбух*
*восем мегатон*

*вораг загінуў*
*сьлёзы на вачох*
*шмат падводных мінаў*
*маем мы ў мячох!*

**ВЫБАР**

*я абіраю вольнасьць*
*як абіраюць бульбу*
*атожылак пінскай*
*пасьля панямонскай*
*нарэшце чарнобыльскай*
*шляхты*
*(што сынку дапамаглі табе*
*гэтыя шляхі?)*
*які атруціўшы атрамант*
*амаль не зважае на лямант*
*бо сёньня ня момант*
*скуголіць раўці турбавацца*
*пра нейкія там бел-чырвона-*
*белыя плямы на мапе*
*згвалчанай калісь Эўропы*



нэр проста ляжыць, паралізаваны ці мёртвы, ва ўсялякім разе, болей ня здольны варухнуцца, гэта псуе інспэктару настрой гэтаксама моцна, як нерухомасьць мышы — котцы. Сапраўды, столькі ж было зроблена дзеля мышы. Яе толькі жартам пакусвалі, перакідвалі з лапы на лапу, уцягнуўшы кіпцюры... І што робіць гэтая паскудная істота? Ляжыць покатам, не гуляе больш, бастуе, сыходзіць, пакідае цябе сам-насам са сьветам, пазбаўленым усякае чароўнасьці.

Разглядаць дачыненьні паміж інспэктарам і нашым сябрам як дачыненьні паміж коткай і мышай больш чымся законна. Хіба мыш ня ёсьць своеасаблівым злачынцам, для перасьледу якога выкарыстоўваюць котку? І не зважаючы на гэта, ніхто з нас не бярэ выключна бок коткі. Мыш грае нам на нэрвах, а котка грацыёзна рухаецца. Але ж гэта далёка ня ўсё! Варта паглядзець, як мыш нерухома ляжыць паміж застыглымі ў чаканьні лапамі!

Пэўны час справа была зусім дрэнь. Наш сябра ўжо не варушыўся. Ён гаварыў толькі тады, калі яго прасілі прамовіць, нарэшце, хоць адзін сказ. Ці такім чынам ён хацеў конча стрэсьці зь сябе інспэктара? Ці ён хацеў, каб інспэктар уклякнуў перад ім і папрасіў, каб ён перастаў разбураць чары і сабатаваць жыцьцё? Фаза поўнай нерухомасьці была, мабыць, апагеем змаганьня. Такое пакутлівае для гледачоў, для нас, сяброў, здранцьвеньне было парушанае інспэктарам. Ён, мусіць, згледзеў недзе новы рух. Маладую мыш, так бы мовіць. Сымпатычнага маладога злачынцу.

Наш сябра, адразу як інспэктар перастаў зважаць на яго, пачаў ганяцца за ім, быццам бы ён цяпер быў інспэктарам, а інспэктар — злачынцам. Маўляў, інспэктар перайшоў на танцавальны крок з таго часу, як палюе гэтага маладзёна. Маўляў, гэта выглядае так, быццам ён захапляецца тым, каго перасьледуе. У яго, нашага сябры, таксама спачатку было такое ўражаньне, быццам інспэктар перасьледуе яго, бо захапляецца ім. Таго, што ім не захапляюцца, а перасьледуюць, наш сябра дайшоў значна пазьней. Маўляў, толькі праз быццё-перасьледаваным у ім абудзілася сумленьне. Раней ён лічыў сябе маладым, сымпатычным ды таленавітым. Толькі зь цягам часу ён заўважыў, што яго перасьледуюць як злачынцу.

Між тым наш сябра кінуў перасьледаваць інспэктара. Цяпер ён сядзіць дома й летуценіць аб тым часе, калі інспэктар яшчэ паляваў яго. Вось то быў час! Ягоныя словы гучаць цяпер так, быццам гэта было былі танцам, чымся перасьледам. Танцам, што падобны да бою на рынгу, ды ўсё ж застаецца танцам. Наш сябра цяпер лічыць сябе пераможаным. Інспэктар страціў усякую цікавасьць да яго. Для чалавека, для якога быцьцё-перасьледаваным сталася зьместам жыцьця, гэта, відавочна, самае горшае.

Наш сябра гадзінамі распавядае пра бесхарактарнасьць ды непаўнавартаснасьць інспэктара; але калі нехта з нас хоць кіўком галавы пагодзіцца з гэтым, ён абураецца ды пачынае бараніць інспэктара ад нас. Наш сябра зрабіўся цяпер зусім невыносным. Мы ў думках зычым нашаму сябру хуткага ды шчасьлівага канца.

*1978*

**Пераклаў зь нямецкай Алесь Пяткевіч**

# «FRAHMENTY» ZNAJŠLI SIABIE




*Frahmenty-5. Miensk. Euroforum—BHAKC, 1998. — 226 s.: — Nakład 600 as.*

Piaty numar «Frahmentaŭ» (paznačany jak numar za leta '98, chacia vyjšaŭ uzimku '99) pryśviečany paryskamu polskamu časopisu «Kultura». Uličvajučy, što papiaredni numar składaŭsia ź biełaruskich i ŭkrainskich tekstaŭ, zdajecca, «Frahmenty» sapraŭdy znachodziać siabie jak siarednieeŭrapiejski ahlad. Apošnija dva numary adroźnivajucca tym spakojnym intelektualizmam, jaki zaŭždy impanuje. Jak i raniej, «Frahmenty» vyłučajucca vydatnaj jakaściu moŭnaj padrychtoŭki tekstaŭ. Na hety raz tut zasłuha karektarki Vijalety Kavalovaj. Cikava, što pobač z asnoŭnym masyvam tekstaŭ na «taraškievicy» — dźvie fundamentalnyja aryhinalnyja pracy («Słova pra spadčynu» Alesia Razanava i «Metafizyka. Sytuacyja roskvitu i sytuacyja zaniapadu» Valancina Akudoviča — abiedźvie letaś byli pračytanyja ŭ formie lekcyjaŭ u Biełaruskim kalehijumie), padajucca z voli aŭtaraŭ narkamaŭkaj. Jak i va ŭkrainskim numary, u «polskim», aproč tematyčnych tekstaŭ, drukujucca apryčonyja biełaruskija teksty vyklučnaj intelektualnaj vartaści. Tady byŭ «Moj Bahuševič» Bułhakava, ciapier — tekst Razanava (źviartaje ŭvahu pavarotnaść samoj nazvy). Heideggeryjanskija ŭpłyvy nie adbirajuć u «Słova pra spadčynu», što hučyć na miažy filazofii i mastactva, vymieru sapraŭdnaha «słova». Skončyłasia samota Ihnata Abdziračoviča.

Škada, što almanach nie zachavaŭ svoj raniejšy farmat. Škada taksama, što vydaŭcy nie kłapociacca pra naležnaje raspaŭsiudžańnie: «Frahmenty», lepšaje biełaruskaje vydańnie svajho planu, vartaje najšyrejšaj dastupnaści, pradajucca tolki ŭ niekalkich mienskich centralnych kniharniach. U hetym — handykap ciapierašniaj systemy fundušaŭ na ŭvieś košt vydańnia. Dla vypraŭleńnia sytuacyi patrebnaja karekcyja grantadaŭčych stratehijaŭ.

Skład apošnich numaroŭ — padborka siarednieeŭrapiejskich materyjałaŭ plus ekskluzyŭnyja biełaruskija teksty — vyhladaje našmat bolej arhaničnym, čymsia pieršyja numary ź ichnaj štučnaj pretenzijaj na hiperintelektualnaść, za jakoj časta chavałasia adsutnaść dumki. Ad hetych vypuskaŭ jašče zastałasia nadumanaja rubrykacyja («topas/myśleńnie» i h.d.). Značna abnaviŭsia skład redakcyi: zastupnikami hałoŭnaha redaktara stali Siarhiej Sańko i Valancin Akudovič, a siabram redkalehii — Aleś Ancipienka.

Jak i papiarednija numary, «Frahmenty»-5 (jakija atrymali bolšy rozhałas u medyjach, čym, badaj, usie raniejšyja), pačynajucca paetyčnaj pradmovaj Ihara Babkova. Z tekstaŭ paryskaj «Kultury» drukujucca: «Ab vodhuku ŭ sercy» Wiktora Sukiennickiego pra biełaruska-polskija stasunki ŭ 1917-20 h., artykuł «Biełaruskaja raźmiežavanaść i legalizm» taho ž aŭtara, kaštoŭny svaim padychodam da ŭnutranych kanfliktaŭ u asiarodździ biełaruskich nacyjanalistaŭ, «Rasiejski «polski kompleks» i abšar Ukrainy, Litvy, Biełarusi» Juliusza Mieraszewskiego, palitołaha, jaki farmulavaŭ «uschodniuju palityku» «Kultury», i «Ŭłada i apazycyja» Jana Drejnowskiego — sproba interpretacyi palityčnaj historyi pavajennaj Polščy. Artykuł S.Łaryna «Sakret «Kultury» znajomić nas z časopisam i jahonym redaktaram bolš asabista, spyniajučysia specyjalna na sakretach redaktarskaha talentu pana Gedrojca, uradženca Miensku, jaki raskruciŭ i vioŭ hety samy hustoŭny polski časopisny prajekt stahodździa.

Ci budzie časopis «Kultura» praciahvacca ŭ XXI st.? Ci budzie jon patrebny? — zadumvaješsia, čytajučy «Frahmenty». U Biełarusi śmierć luboha prajektu ŭsprymajecca jak paraza. U Polščy zusim inšaja sytuacyja. «Kultura» zrabiła svaju spravu.

**Andrej Dyńko**

## Карлас Шэрман:

# У ЯКУЮ КРАІНУ ВЕРНЕЦЦА БЫКАЎ?

Акрамя таго, у часы, падобныя да тых, якія мы перажываем сёньня, пісьменьніку даводзіцца займацца публіцыстыкай, марнаваць свой час, творчую энэргію на артыкулы. Гэта адбываецца зь дзьвюх прычынаў. Па-першае, іхныя кнігі не выходзяць, не друкуюцца. Другое — чалавеку проста баліць, яго хвалююць падзеі, і маўчаць проста немагчыма, трэба выказвацца...

Я ня ведаю, колькі новых твораў, кніг мы не атрымалі пасьля таго, як пісьменьнікі былі вымушаныя аддаць свой час публіцыстыцы. Пра гэта нават цяжка гаварыць... Уявіце сабе ненапісаную «Сьцяну», ненапісаныя іншыя творы — усё тое, што мы ніколі ўжо не атрымаем, што сышло ў нябыт. Часам, калі Васіль Быкаў працуе над кнігаю, калі цалкам засяроджаны на ейным матэрыяле, на любое пытаньне ён адказвае: «Даруйце, я — прыватная асоба». Ён замыкае вакол сябе самоту, якая потым дасьць грамадзтву плён.

**«НН»: Ужо мінула дзевяць месяцаў, як Васіль Быкаў пакінуў Бацькаўшчыну. Калі ён вернецца ў Беларусь — у траўні? Ці будуць сустракаць Быкава людзі на менскіх вуліцах?**

К.Ш.: Я ня ведаю, калі вернецца Васіль Быкаў. Гэта можа адбыцца і пры канцы траўня, і ў сьнежні... Калі дата вяртаньня Быкава стане дакладна вядомая, зробім усё магчымае, каб яго сустрэлі на радзіме дастойна. Вяртаньне Быкава — гэта падзея. Іншая справа, у якую краіну вернецца Васіль Быкаў... Ці прыйдзе да яго тут зноў радасьць творчасьці? Ці пачуе ён на вуліцах Менску хоць слова на беларускай мове? Хоць бы другога дня кожнага месяцу... Ці ня трапіць ён недзе ў падземным пераходзе пад кулакі нэафашыстаў?

**«НН»: Мы з Вамі гаворым пра вельмі балючыя рэчы... Але гэты год для Беларусі мусіць стаць лёсавызначальным...**

К.Ш.: Лёсавызначальным ёсьць кожны дзень, які мы ўсе перажываем. І гэты год стане гэткім жа лёсавызначальным, як і кожны іншы год. Праўда, іншая гаворка, што мы ўпускаем гэты час — як пясок скрозь пальцы...

Я зараз перакладаю твор Картасара «Толькі золак». Ёсьць у ім такі фрагмэнт: чалавек слухае музыку ў слухаўках. Ён чуе толькі гэтую музыку, і больш нічога. Гэта таксама самота. Такая самота, што спрыяе творчасьці. Слухае музыку й каханая жанчына героя, якая сядзіць за сталом насупраць яго. Яна больш ні на што не зьвяртае ўвагу, а ён назірае. І бачыць кожны дробны жэст жанчыны, самыя лёгкія цені, што прабягаюць па ейным твары, адлюстроўваюць стан душы... Нешта падобнае ўяўляе сабою й творчасьць. Пісьменьнік нібыта таксама слухае музыку, але ня можа слухаць яе публічна. Нягледзячы на ўсе дачыненьні зь іншымі людзьмі, уражаньні чалавека, пісьменьніцкае слова ўсё роўна па-сапраўднаму нараджаецца толькі на самоце.

Мне здаецца, што назва аповесьці Маркеса «Сто гадоў адзіноты» вельмі падыходзіць для Беларусі. Бо найвялікшая самота ў сьвеце — жыць у сваёй краіне, адчуваючы, што вакол — чужасьць.

**Гутарыла Тацяна Сьнітко**



# НАША НІВА 90 ГАДОЎ ТАМУ

*20 лютага 1909 году*

**М. Ракаў**, Менск. губ. і пав. Наша мястэчка вядома тым, што тут ад 1843 году выробляюць вялкі, сячкарні, малатарні, займаюцца тут і ганчарствам. У другіх справах Ракаў жывець, як і ўсе нашы беларускія мястэчкі. Жыцьця грамадзкага няма, і хваліцца чым няма. Ёсьць тут хрысьціянская крама, добра таргуець. Адна баба купіла тут селядцоў і, едучы дамоў, абліла рукі сялёдачнай юшкай, пачала аблізываць на марозе рукі, а як была яшчэ яна выпіўшы, дык памарозіла рукі. Цяпер ляжыць у бальніцы.

**Янук Міхалка.**

**М. Шклоў**, Магілеўскай губ. і пав. (на р. Дняпры). Дужа, дужа цёмны ў нас народ, газэт не чытаець, бо няма такіх, каб былі панятныя і танныя. Ведамосьці зьбірае па чайных, па рынку. І выдумляюць дурныя байкі, а другія вераць. Пра зямлі трасеньне ў Італіі кажуць, што туды высылаюць са ўсіх валасьцей 5 тысяч людзей, і трэба апроч таго шмат работнікаў. Нейкі басяк навэт зьбіраў грошы 1 р. 75 к. на нейкія маркі – з тых, хто прасіўся да Італіі. Шмат знайшлося дурнёў, што давалі грошы. У Італіі народу, што шукае работы, досыць свайго і нікога прывазіць са стараны ня трэба.

**А.П.**

**Выпадкі на Балканах.** Нядаўна яшчэ здавалася, што выпадкі на Балканах скончацца ціха. Калі раптам усе перапужаліся: Сэрбія баіцца, каб яе не спаткала доля Босьніі і Герцэговіны, і прыгатаўляецца да вайны з Аўстрыяй. Аўстрыя таксама сьцягівае на граніцу Сэрбіі сваё войска і прызывае запасных. Кажуць, што на граніцах Сэрбіі стаіць ужо каля 200 тысяч аўстрыяцкага войска. Штодзень тэлеграф прыносіць ўсё новыя весьці, з каторых відаць, што вайны можна чакаць з дня на дзень. Што думае Сэрбія, выклікаючы гэту вайну, трудна згадаць. Адна яна хіба ня мае надзеі парадзіць з такім вялікім гасударствам, як Аўстрыя. Няйначай як чакае, што ў гэту вайну ўпутаюцца і іншыя гасударствы.

# Паштовая скрынка

**Ганьне С.** з Койданава. Бачыце, такі ліст стае ня толькі Вашай прыватнай таямніцай, але шчэ й таямніцай Вашага адрасату. На публікацыю трэ было б і ягонай згоды. Думка пра тое, што лепш ужо Л., бо ён не дагматык, нечаканая. Было б цікава, каб Вы развілі гэтую думку асобна.

**Сержуку Ш., Зьмітру З., Андрэю К.** зь Менску. Калі гэта «хвэльетон», чаму палова тэксту – маралізацыя? З тым, што вы кажаце, мы згодныя, але тое, як вы гэта кажаце, стварыла б у чытача ўражаньне, што вы асабістыя даўгі квітаеце. Не адна запалка ў пушцы. «Хвэльетон» – жанр для нас сапраўды дужа цікавы.

**Ягору Г.** зь Менску, **Марку К.** з Гомеля. Пройдзе пэўны час, усё асэнсуецца, набярэцца крытычная маса, і мы да гэтага вернемся.

**Сержуку П.** зь Менску. Падазрона, калі сутнасьцю твору аказваецца правапіс. Што засталося б ад такога твору пасьля перакладу на ангельскую?

**Алегу Д.** зь Менску. Стаўцеся да свайго таленту ашчадна. Вершы Ндрэ М'еды маюць, як для нас, хіба што энцыкляпэдычную вартасьць. З альбанцаў цікавы найперш Ісмаіл Кадарэ.

**Лілії С.** зь Ліды. Рэч добрая, задума добрая, але Вам пакуль што не ўдаецца на паперы ўсё тое, што Вы стварылі ў сваёй галаве, таму ў чытача складаецца ўражаньне, што зьнікае лягічная сувязь паміж падзеямі, часткамі твору. Пакладзіце гэта ў шуфляду на пару месяцаў, а тады вярніцеся.

**Сяргею Б.** з Гомеля. Вы надта добра пішаце. Добра было б, каб Вы пісалі нам стала. Толькі перадусім не пра сябе, а пра людзей, горад, прачытанае і пачутае, кнігі, навіны, фільмы, тэлеперадачы.

**Сяргею М.** зь Менску. Вы пішаце разумныя рэчы. Але ў форме «агітацыі за шчасьце» іх цяжка ўспрыняць. Да таго ж вы імкнецеся абняць за раз усё-усё. Можа, у форме рэгулярнага спакойнага агляду было б лепш.

**Яўгеніі К.** зь Менску. Ідэя, вакол якой разьвіваецца апавяданьне, нязвыклая, рэдкая для беларускага слова і тым каштоўная. Вобразы ж – слабыя, стэрэатыпныя, містыка прахадная, пачатак і канец – нейкая адвольная «прыгожасьць». Сам тэкст выглядае расьцягнутым, вы апісваеце там, дзе мусіць быць ясна бяз словаў («тут паварот побач, цягнік не пасьпее спыніцца»), тады як канкрэтнасьці нестае («ля цэнтральнага супэрмаркету» там, дзе лепш было «ля супэрмаркету «Цэнтральны»), з-за чаго хранатоп выходзіць размазаны, а апавяданьне нястройнае. Да таго ж не бракуе калек («чыгуначныя рэйкі», «сорныя расьліны», «часу для думак не было»). Ня бойцеся скарачаць творы да мінімуму, пакідаючы толькі тое, чаго нельга не сказаць.

**Ф.** зь Нясьвіжу. Амаль кожная фраза ў вас пачынаецца з «мабыць», «напэўна, я не памылюся, калі скажу», «кажуць, што», «мяркую, ня будзе перабольшаньнем». Прозу так ня пішуць.

**Групе патрыётаў.** Вы гэта сур'ёзна?

**Кастусю.** Ішлося не пра ацэнку асобы Калюмба і эўрапейскай цывілізацыі, а пра тое, што Калюмб найлепш увасабляе сутнасьць гэтай цывілізацыі.

**Міколу Я.** з Чудзенічаў. Ваш ліст перашлем М.Ч.

**Прафэсару Каркарану** зь Менску. Рэдакцыя часопісу «ARCHE» просіць Вас зьвязацца ў справе публікацыі.



## Сьпеўнік беларускае моладзі

Рыхтуецца да выданьня збор найлепшых беларускіх песень. Патрыятычныя, лірычныя, народныя, бардаўскія – залаты фонд беларускай песьні. 50 песень з нотным тэкстам і акордамі. Укладальнік – Аляксей Фралоў.

Шукаем фінансавай падтрымкі. Кантактны тэлефон – (017) 213 34 52 (22.00—23.00)

Наступны нумар газэты выйдзе 15 сакавіка.

# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Vinšuju maich siabroŭ Antosia, Jaryka, Taniušu j Huniu z vychadam u śviet apošniaj častki «Niagieglych». Siaržuk Halydźba

Усіх, усіх віншую з днём сьв. Валянціна. Зычу сапраўднага каханьня, аптымізму, мараў ды сьвятла. Jane

Зьмітра Гарбунова віншую з 30-годзьдзем. Мы пераможам! Жыве Беларусь! Аляксей Шыдлоўскі

Размарозьце свае сэрцы. Ня веру, што беларусы ўжо развучыліся кахаць. Я веру ў Каханьне! Тацяна

Прадаю цагляны дом з выгодамі. Маюцца гаспадарчыя пабудовы, прысядзібны ўчастак. Тэл.: (8-295) 2-17-68. Алена Леанідаўна

Хто на людзях з матчынай гаворкі пасьмяецца, той на старасьці ад маткі адрачэцца. Гамана беларускага народу

*Мілую Вольгу Анцыповіч віншую з днём народзінаў. Зычу каханьня й посьпехаў. Твой Пеця*

Крывое люстэрка лукашызму скажае нязьменнае і відавочнае — чалавек, які лічыць свае краіну і мову СВАІМІ, выглядае ў ім ненатуральна. Сяржук Аржанцаў

Танна прадаю вітаміны. Тэл.: 250-08-84, Яўген

Iris, вярні, калі ласка, касэту. А лепш патэлефануй: 273-31-11. «БМК»

Рэдактара газэты «Сымбаль» віншуем зь неабраньнем на пасаду. Намесьнікі старшыні МФ

Мяняю расейска-нямецкі (вялікі) слоўнік на ангельска-расейскі слоўнік (53000 словаў). Тэл.: 251-42-18 (увечары), Тацяна

Шукаю абазнаных у моцы Паганства і Прыроды. Куплю кнігі па славянскім паганстве, акультызме, варажыльныя карты Таро. Тэл.: (01777) 9-77-40, Арцём

Ці ёсьць у каго-небудзь Энцыкляпэдыя літаратуры й мастацтва Беларусі ў Менску? З радасьцю набуду. Тэл.: 271-23-49

Віншуем дыякана Чэслава з днём народзінаў. Жадаем Божай Ляскі. Супаненка Паўлюк і Кацярынка

Куплю Энцыкляпэдыю «Гісторыя Беларусі» (1-4 т.). Тэл.: 220-90-27. Аляксандар

MHAT «Lićviny»! Ci atrymali vy moj list? Kali nie, napišycie mnie pra vaša tavarystva, bo ja chaču ŭstupić! Kirył K. 220036, Miensk, vul.K.Libknechta, 80/2-17

Usie, kamu nieabyjakavy los adradžeńnia Rečy Paspalitaj, listujcie. Žyvie Litva-Vola! Kirył, 220036, Miensk, vul.K.Libknechta, 80/2-17

*Шаноўныя прыватныя рэкламадаўцы!*

*Працягваючы друкаваць бясплатныя абвесткі, мы **пачынаем таксама друкаваць абвесткі большым** шрыфтам і ў афармленым выглядзе, але за невялікую плату:*

*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*

*— па-мастацку афармленая аб'ява (мінімальны памер рэкламнага модулю 18 кв. см.) — 180 000 руб.*

*Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

*На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».*

***Калі дзейнасьць, якую вы рэкламуеце, падлягае ліцэнзаваньню, у абвестцы неабходна пазначыць нумар, дату выдачы і тэрмін дзеяньня ліцэнзіі, назву органу, які яе выдаў.***

*Друкуючы на старонках «НН» платныя абвесткі, вы спрыяеце выхаду газэты.*

*Рэдакцыя*

Віншуем Ганну Іванаўну з днём нараджэньня. Здароўя вам і шчасьця. Андрэй і Алёна

Прадаю кішэнны слыхавы апарат «Otikon» (Данія), б/в, 40 у.а., у добрым стане. Тэл. у Гомелі: 53-89-17

Прадаю жаночы паўкажушок з францускага футра, новы, памер 46 колер карычневы, 150 у.а. Тэл у Гомелі: 53-89-17

На БТ адбылася прэзэнтацыя музычнага кліпу на песьню «СТАРЫ ХРАМ» віцебскага гурта «New Cosmopolis». Гэты кліп прысьвечаны віцебскаму касьцёлу Сьв.Барбары. Калі хто жадае яго яшчэ раз нагледзець, дык трэба патэлефанаваць на БТ у перадачу «Беларускі хіт-парад» і запатрабаваць ягонага паказу. Тэл.: (017) 263-12-91 (пакіньце паведамленьне).

**КУПОН** БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, а/с 537

Тэкст ______________________

______________________

*Імя і прозьвішча* ______________________

*Адрас, тэлефон* ______________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Набор Аляксандры Макавік. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2785. 8 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18⁰⁰, 21.02.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N808

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12